Дзяржаўная ўстанова адукацыі
«Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»

Прадстаўніцтва зарэгістраванага аб’яднання
«Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.»
(Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь

# У пошуках гісторыі

Мінск 2011

УДК 374.71 : 94 (072)
ББК 74.200.58 : 63
У 113

Рэкамендавана Рэдакцыйна-выдавецкім саветам
дзяржаўнай ўстановы адукацыі
«Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»

С к л а д а л ь н і к і:
***А. І. Калістратава***, начальнік аддзела міжнароднага супрацоўніцтва
ДУА «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»;
***А. У. Радзевіч***, метадыст аддзела міжнароднага супрацоўніцтва ДУА «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»

Р э ц э н з е н т ы:
***С. У. Сітнікава***, дацэнт кафедры прыродазнаўчых дысцыплін і інфармацыйных тэхналогій, кандыдат педагагічных навук
ДУА «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»;
***С. І. Колбышава***, дацэнт кафедры паліталогії і гуманітарных дысцыплін Інстытута парламентарызма і прадпрымальніцтва, кандыдат педагагічных навук

У 113 У пошуках гісторыі / склад. : А. І. Калістратава, А. У. Радзевіч ; ДУА «Мін. абл. ін-т развіцця адукацыі». – Мінск : Мін. абл. ІРА, 2011. – 128 с.
ISBN 978-985-6907-90-9.

У дапаможніку прадстаўлены вопыт правядзення вуснагістарычных даследаванняў дзяржаўнымі, культурнымі ўстановамі і грамадскімі аб’яднаннямі Рэспублікі Беларусь у межах конкурсу «Гісторыя ХХ стагоддзя ў адукацыі дарослых». Матэрыялы выдання адрасаваны шырокаму колу спецыялістаў, звязаных са сферай адукацыі, і друкуюцца ў аўтарскай рэдакцыі.

Публікацыя дадзенага выдання здзейснена пры падтрымцы Прадстаўніцтва зарэгістраванага аб’яднання «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» (Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь.



**УДК 374.71 : 94 (072)**
**ББК 74.200.58 : 63**

**ISBN 978-985-6907-90-9**

## Змест

# Уступнае слова

***Галіна Уладзіміраўна Верамейчык,***
*Глава Прадстаўніцтва зарэгістраванага*
*аб'яднання «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» (ФРГ)*
*у Рэспубліцы Беларусь*

Кожны з нас робіць свае крокі ў пошуках гісторыі. Для аўтараў дадзенага выдання гэтыя крокі расцягнуліся па часе з вясны 2010 года, калі Прадстаўніцтва Нямецкай асацыяцыі народных універсітэтаў у Беларусі абвясціла ўмовы конкурсу «Гісторыя XX стагоддзя ў адукацыі дарослых», да снежня 2011 года, калі было надрукавана дадзенае інфармацыйна-метадычнае выданне, што прэзентавала не толькі вынікі асобных міні-праектаў, але і шэраг тэарэтычных і метадычных напрацовак.

Галоўная ідэя конкурсу – падкрэсліць важную ролю вывучэння і асэнсавання гісторыі краіны, рэгіёну, вёскі, сям'і і г. д. праз актуалізацыю ведаў пра малавядомыя факты з гісторыі Беларусі, праз знаёмства з біяграфіямі і лёсамі, вусную гісторыю і размовы са сведкамі. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў назіраецца цікавасць да гістырычнай тэматыкі як у значнай колькасці еўрапейскіх краін, так і на прасторы СНД. Па словах вядомага расійскага гісторыка М. Ражанскага, на працягу апошніх 20 год «…вусная гісторыя як праца з чалавечай памяццю выйшла па-за ведамасныя межы гісторыкаў»[1] і стала часткай сістэмы адукацыі дарослых.

Патрэбна адзначыць, што ўздым цікавасці да гісторыі – не новая плынь ў адукацыі дарослых, а зварот да канцэптуальных асветніцкіх ідэй.

Адукацыя дарослых і гісторыя маюць даўнія сувязі. Яшчэ ў другой палове XIX ст. знакаміты дацкі святар, паэт і асветнік Мікалай Северын Фрэдэрык Грундтвіг распрацаваў канцэпцыю народнай вышэйшай школы як «школы для жыцця», дзе значная роля ў выхаванні і станаўленні асобы адводзілася вывучэнню гісторыі і вусным формам навучання. На думку знакамітага асветніка, галоўная функцыя гісторыі – дапамагчы чалавеку ўсвядоміць, «высветліць» усю праўду аб самім сабе. І шлях да гэтага «прасветленага стану» заснаваны на выкарыстанні матчынай мовы і вуснага слова.

Вусная гісторыя набывае асаблівую актуальнасць у часы сацыяльных і палітычных пераўтварэнняў і ў тых грамадствах, дзе не лёгка знайсці кансэнсус адносна мінулых альбо сучасных падзей. У гэтым выпадку

[1]. Рожанский, М. Устная история – философия памяти / М. Рожанский // Общественные науки. – 1990. – № 6.

метады вуснай гісторыі набываюць значэнне не толькі як метады гістарычнай навукі, але становяцца падмуркам для стварэння праграм грамадзянскай адукацыі. Менавіта таму гістарычная тэматыка заўсёды знаходзіць сваё месца ў праграмах *dvv international* Інстытута міжнароднага супрацоўніцтва Нямецкай асацыяцыі народных універсітэтаў у розных краінах. Так, ва Узбекістане ўжо стала традыцыяй не толькі весці пастаянную працу ў форме «размоўных кавярняў», «размоўнай чайханы» са сведкамі тых ці іншых падзей, але і праводзіць міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі, публікаваць іх вынікі ў выглядзе зборнікаў артыкулаў (падрабязна можна даведацца на сайце www.dvv-international.uz). У Расіі зварот да гістарычнай тэматыкі падчас рэалізацыі адукацыйных праектаў звязаны з выкарыстаннем біяграфічнага падыходу, дзе жыццёвыя гісторыі, інтэрв'ю альбо вусныя апавяданні становяцца найперш вучэбным матэрыялам. У краінах Паўднёва-Усходняй Еўропы і на Каўказе вуснагістарычныя праекты разглядаюцца як узнос адукацыі дарослых у пошук кансэнсусу і прымірэння, а таксама як узнос у вырашэнне грамадскіх і палітычных праблем.

На Беларусі найбольш яскравым прыкладам такіх тыпаў праектаў, якія спалучаюць у сабе вуснагістарычны і біяграфічны падыходы, з'яўляецца шэраг праграм, рэалізаваных Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтрам імя Ёханеса Рау і аб'яднаннем гісторыкаў «Гістарычная майстэрня» і іншымі грамадскімі суполкамі. У большасці выпадкаў гэта былі інтэрв'ю і запіс успамінаў сведак часоў Другой сусветнай вайны.

Адной з адметных рысаў дадзенага выдання з'яўляецца зварот да шырокага спектра тэм. Тут і гісторыя развіцця адукацыі ў пасляваенныя часы, і штодзённае жыццё жыхароў Гродна, і аднаўленне сельскай гаспадаркі, і музычная спадчына Магілёўшчыны. Метады вуснагістарычных даследванняў крок за крокам знаходзяць сваё месца ў дзейнасці разнастайных адукацыйных і культурна-асветніцкіх устаноў, актыўна выкарыстоўваюцца грамадскімі аб'яднаннямі і разглядаюцца як неад'емны кампанент дадатковай адукацыі моладзі і дарослых.

З'яўленне выдання «У пошуках гісторыі» стала магчымым, дзякуючы самаадданай працы настаўнікаў, бібліятэкараў, выкладчыкаў, прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў – усіх тых, хто праз «мазаіку» чалавечых лёсаў захоўвае гісторыі сваіх вёсак і гарадоў для нашчадкаў. Акрамя таго, хацелася б выказаць падзяку супрацоўнікам Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі за гатоўнасць да супрацоўніцтва і намаганні, скіраваныя на папулярызацыю метадаў вуснай гісторыі, каардынацыю працы па падрыхтоўцы выдання.

# Вусная гісторыя: тэорыя і практыка

***Наталля Сяргееўна Гардзіенка,***
*дацэнт кафедры паліталогіі*
*і гуманітарных дысцыплін,*
*кандыдат гістарычных навук*
*Інстытута парламентарызма і прадпрымальніцтва*

Вусная гісторыя, як і шмат што ў навуцы, пачалася з усведамлення супярэчнасці ў бачанні мінулага. У сярэдзіне ХХ ст. амерыканскія і брытанскія навукоўцы сталі актыўна задумвацца над тым, што акадэмічная гісторыя, якая адлюстравана ў навуковых працах, не супадае з тым, як успрымаюцца падзеі гісторыі канкрэтнымі людзьмі і калектыўнай памяці грамадства. Афіцыйныя дакументы, пісьмовыя крыніцы, якія вызнавалі гісторыкі-прафесіяналы ў якасці аб'ектыўных крыніц інфармацыі, насамрэч не давалі магчымасці стварыць адэкватны вобраз мінулага, таго рэальнага жыцця, якім жыло грамадства і звычайныя людзі. Гэта была гісторыя войн на падставе рапартаў дыпламатаў або ваеннага кіраўніцтва, гісторыя дзяржаў як гісторыя дзейнасці іх кіраўнікоў.

Даследчыкі сярэдзіны ХХ ст. сталі ўсведамляць, што палітычная і эканамічная гісторыя, на якой пераважна засяроджвалася афіцыйная навука, – гэта штучны злепак з мінулага, успрыманне якога ў памяці людзей залежыць ад такіх фактараў, як узрост, пол, сацыяльнае асяроддзе, адукацыйны ўзровень, занятасць. Практычна не існуе адзінага бачання мінулага ў грамадстве, ёсць розныя гісторыі, зафіксаваныя ў памяці розных пакаленняў і сацыяльных груп. Так, памяць салдата пра любую вайну відавочна адрозніваецца ад памяці пра вайну, напрыклад, галоўнакамандуючага або бежанца. Усе гэтыя розныя ўспаміны (розныя гісторыі) і складаюць калектыўную памяць грамадства, якая, у сваю чаргу, уплывае на разуменне сучаснасці і бачанне будучыні.

Шмат якія сучасныя праблемы можна тлумачыць менавіта тым, што адбывалася ў грамадстве ў мінулым. Гэта як з асобным чалавекам: папярэдні вопыт, нават на падсвядомым узроўні, вызначае яго цяперашні стан і планы на будучыню.

Такім чынам, заходнія вучоныя ў ХХ ст. прыйшлі да разумення таго, што трэба вывучаць гісторыю не толькі на падставе дакументаў, але і спрабаваць паглядзець на мінулае вачыма саміх яго ўдзельнікаў. Так нарадзілася вусная гісторыя. Прафесійныя даследчыкі сталі мэтанакіравана займацца запісам вусных сведчанняў удзельнікаў тых ці іншых падзей, каб не толькі больш дэталёва аднаўляць іх ход, але і ўбачыць

іх ва ўсёй паўнаце фарбаў, вачыма «маўклівае большасці». У 50–60-ых гг. пры розных універсітэтах (першым быў Калумбійскі ўніверсітэт у ЗША) сталі стварацца спецыяльныя цэнтры запісу вусных сведчанняў, куды мог прыйсці любы чалавек і паведаць пра сваё жыццё, адметныя падзеі, сведкамі якіх ён быў. Да цяперашнега часу запісы ўспамінаў захоўваюцца ў згаданых цэнтрах і выкарыстоўваюцца даследчыкамі.

Адначасова выпрацоўвалася сама метадалогія вуснай гісторыі як асобнага кірунка гістарычных даследаванняў. У 1967 годзе была створана Асацыяцыя вуснай гісторыі ЗША. З 1971 года ў Вялікабрытаніі пачаў выходзіць часопіс «Oral History». У 1977 годзе пабачыла свет праца брытанскага даследчыка Пола Томсана «Голас мінулага», у якой паслядоўна была выкладзена спецыфіка падыходу да вусных крыніц і працы з імі. І гэта толькі асобныя моманты на шляху інстытуалізацыі вуснагістарычных даследаванняў.

Адрозненне вуснай гісторыі ад іншых кірункаў гістарычных даследаванняў вызначаецца спецыфікай яе крыніц: успамінаў людзей аб падзеях мінулага, сведкамі ці ўдзельнікамі якіх яны былі. Па-першае, сама прырода вуснага паведамлення прынцыпова адрозніваецца ад пісьмовага тэксту, з якім традыцыйна працуюць гісторыкі. Па-другое, з'яўленне гэтай крыніцы звязана з самім даследаваннем. Гісторык бярэ непасрэдны ўдзел у яго стварэнні: абірае рэспандэнтаў, фармулюе пытанні інтэрв'ю, так ці інакш рэагуе на аповед, уплываючы на змест атрыманага дакумента. Сам тып крыніцы і метад даследавання збліжае вусную гісторыю з сацыялогіяй і антрапалогіяй. У той жа час вусная гісторыя ніякім чынам не патрабуе адмаўлення ад выкарыстання ўсіх іншых відаў крыніц.

Такім чынам, выкарыстанне методыкі вуснагістарычнага даследавання дазваляе захаваць сведчанні пра мінулае, дапаўняючы інфармацыю, атрыманую з пісьмовых крыніц, захаваць прыгажосць і багацце жывой размоўнай мовы і культуры цалкам.

Успаміны людзей пра мінулае цесна звязаны з іх асэнсаваннем як сваёй уласнай індывідуальнай біяграфіі, так і гісторыі таго грамадства, у якім прайшло іх жыццё, гісторыі краіны і свету цалкам. Гэтыя ўспаміны ствараюць калектыўную гістарычную памяць грамадства і з'яўляюцца адной з формаў грамадскай свядомасці, другой формай якой традыцыйна выступае гісторыя як навука.

Ад моманту нараджэння вуснай гісторыі прайшло шмат часу. Яшчэ ў часы Савецкага Саюза ў Маскве былі апублікаваны першыя работы, заснаваныя на вусных сведчаннях. Так, у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце было зроблена даследаванне жыцця паэта Уладзіміра

Маякоўскага на падставе вусных сведчанняў людзей, якія яго ведалі. Пазней гэтае даследаванне ператварылася ў збіранне ўспамінаў аб універсітэце, яго дзейнасці і супрацоўніках. Сабраныя сведчанні былі пакладзены ў аснову спецыяльнага раздзелу ў навуковай бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. На мяжы XX–XXI стст. цэнтры вуснагістарычных даследаванняў сталі ствараца ў іншых расійскіх гарадах (Санкт-Пецярбургу, Петразаводску, Варонежы).

Асобныя даследаванні, заснаваныя на вусных крыніцах, з’яўляюцца і ў Беларусі. Гэта рэалізацыя ініцыятывы асобных даследчыкаў па збіранні ўспамінаў удзельнікаў вайны, асабліва партызанскага руху, рэпрэсаваных, эмігрантаў. Але спецыяльнага цэнтру пакуль няма.

У гэтай сітуацыі надзвычай важным момантам з’яўляецца папулярызацыя методыкі вуснагістарычных даследаванняў як сярод навукоўцаў, так і сярод краязнаўцаў-аматараў, каб атрыманыя ў выніку праведзеных даследаванняў матэрыялы былі зручнымі для выкарыстання іншымі даследчыкамі.

Прапануем вам некаторыя рэкамендацыі па арганізацыі вуснагістарычнага даследавання, якія, магчыма, будуць карыснымі для ўсіх тых, хто цікавіцца збіраннем вусных сведчанняў.

## I этап. Выбар тэмы і распрацоўка канцэпцыі даследавання

Пачынаючы працу над той ці іншай тэмай, даследчык павінен спачатку сфармуляваць праблему, вызначыць мэты і задачы работы, гіпотэзу і распрацаваць даследчую стратэгію.

На этапе выбару тэмы і распрацоўкі канцэпцыі вуснагістарычнага даследавання асабліва важную ролю адыгрывае ўсебаковае асэнсаванне магчымасцяў правядзення даследчай працы. Гэта звязана з праблемай адбору інфармацыі, на падставе якой павінен праводзіцца аналіз. У час збірання вусных сведчанняў можа падацца, што гісторык цалкам канструюе сваю крыніцу, бо можа задаць пытанне каму заўгодна і пра што заўгодна. На самой справе, усё значна складаней. Па-першае, інтэрв’ю магчыма толькі з асобамі, якія яшчэ жывыя; па-другое, асоба, якая мае неабходную інфармацыю, можа аказацца на значнай геаграфічнай аддаленасці ад даследчыка; па-трэцяе, чалавек можа проста адмовіцца ад інтэрв’ю або пагадзіцца адказваць толькі на асобныя пытанні. Усё гэта стварае дадатковыя складанасці ўжо на этапе планавання працы па збіранні вусных сведчанняў і распрацоўцы самой канцэпцыі даследавання. Вось чаму неабходна ўсё пралічыць загадзя.

З развіццём інфармацыйных тэхналогій запіс успамінаў усё больш становіцца простым, а зацікаўленасць у гісторыі штодзённасці і вуснай гісторыі ўзрастае. Таму існуе рызыка «баналізацыі» даследавання і запісу інтэрв'ю дзеля самога інтэрв'ю, а не дзеля правядзення аналітычнай працы на яго падставе. Неабходна памятаць, што інтэрв'ю заўсёды павінна мець дакладна сфармуляваныя мэту і задачы. Перад тым як распрацаваць план збірання вусных сведчанняў, трэба прааналізаваць існуючыя традыцыйныя (пісьмовыя) крыніцы, у якіх можа ўтрымлівацца каштоўная інфармацыя па абранай праблеме. Гэта дапамагае больш поўна ўявіць той гістарычны кантэкст, у якім жылі людзі, чые сведчанні плануецца зафіксаваць.

Распрацоўваючы канцэпцыю даследавання, вызначаючы кола тэм і пытанняў, даследчык падрыхтоўвае пераход да наступнага этапу: выбар рэспандэнтаў і складанне апытальніка для інтэрв'ю. Ужо на пачатковым этапе вызначэння тэмы і знаёмства з літаратурай важна звяртаць увагу на імёны ўдзельнікаў тых ці іншых важных для даследчыка падзей. Гэтыя імёны могуць стаць адпраўным пунктам у пошуку рэспандэнтаў (можна спрабаваць знайсці гэтых асоб або іх сваякоў, тых, хто іх ведаў).

## II этап. Планаванне інтэрв'ю

### *Выбар рэспандэнтаў і праблема рэпрэзентацыйнасці вусных крыніц*

Выбар рэспандэнтаў у першую чаргу залежыць ад самой канцэпцыі даследавання. Умоўна можна вызначыць два тыпы тэм і, адпаведна, два тыпы рэспандэнтаў. З аднаго боку, даследчык можа вызначыць сваю задачу як аднаўленне нейкай канкрэтнай сітуацыі ці падзеі. У гэтым выпадку ён будзе імкнуцца знайсці такіх людзей, якія ўдзельнічалі ў тым, што адбывалася (непасрэдныя сведкі ці ўдзельнікі падзеі). З іншага боку, гісторык можа рэканструяваць паводзіны пэўнай групы людзей у тых ці іншых абставінах (досвед рэпрэсаваных, перасяленцаў і г. д.). У такім выпадку паўстане пытанне аб тым, наколькі рэспандэнты могуць прадстаўляць сабой групу цалкам, а таксама наколькі рэпрэзентацыйнай будзе выбарка рэспандэнтаў. Традыцыйна гэтая праблема з'яўляецца актуальнай для сацыялагічных даследаванняў. Для таго каб казаць пра тое, што характэрныя рысы групы рэспандэнтаў уласцівыя сацыяльнай групе цалкам, выбарка павінна быць рэпрэзентацыйнай. Напрыклад, неабходная колькасць рэспандэнтаў выбіраецца выпадковым чынам.

Вусны гісторык сутыкаецца з некалькімі праблемамі. У адрозненне ад сацыёлагаў з самага пачатку даследчык мае вынікі натуральнай

выбаркі: некаторых з яго патэнцыяльных рэспандэнтаў няма ў жывых, а некаторыя наогул могуць адмовіцца ад інтэрв'ю.

Акрамя таго, метад рэпрэзентацыйнай выбаркі прадугледжвае разгляд сукупнасці індывідаў як носьбітаў пэўных (вызначаных самім даследчыкам) характарыстык. Іншымі словамі, кожнага рэспандэнта неабходна ў такім выпадку аднесці да той ці іншай сацыяльнай, узроставай групы, якую ён рэпрэзентуе. Такім чынам, сацыяльная група становіцца простай сукупнасцю асобаў.

Прынцыповая нязгода з такімі ўстаноўкамі вымушае шмат каго з даследчыкаў адмовіцца ад прынцыпу рэпрэзентацыйнасці выбаркі. У сітуацыі, калі ў фокусе даследчыка аказваецца ўнікальны персанальны вопыт кожнага асобнага рэспандэнта, надзвычай складана становіцца вызначаць нейкія тыповыя характарыстыкі. З іншага боку, самі сацыяльныя групы ўсё менш успрымаюцца як аб'ектыўная дадзенасць.

Тым не менш у любым вуснагістарычным даследаванні, якое выходзіць за межы гісторыі асобнага чалавека, непазбежна ўзнікае праблема суаднясення досведу асобнага чалавека з больш шырокімі гістарычнымі працэсамі. Аднак адмаўленне метада рэпрэзентацыйнай выбаркі не вырашае праблему. Рабіць нейкія высновы пра грамадства на падставе толькі вусных сведчанняў магчыма толькі ў тым выпадку, калі даследчык упэўнены, што выкарыстаныя ім інтэрв'ю адлюстроўваюць погляды і ўяўленні не толькі адной канкрэтнай асобы, але і цэлай сацыяльнай групы. Гэта тым больш актуальна, калі гаворка ідзе пра магчымасці выкарыстання вынікаў працы аднаго даследчыка іншым. Таму на практыцы незаўсёды атрымліваецца адабраць рэспандэнтаў на падставе выпадковай рэпрэзентацыйнай выбаркі, у якой былі б адэкватна вытрыманы прапарцыянальныя суадносіны полаў, узростаў і сацыяльных груп у той ці іншай грамадзе, цікавай для гісторыка. У працэсе працы над даследаваннем варта ўсё ж катэгарызаваць атрыманыя звесткі і заносіць іх у спецыяльныя табліцы, якія дапамогуць вызначыць рэпрэзентацыйнасць сабраных інтэрв'ю; падказаць, якія групы былі недастаткова прадстаўлены і г. д.

Катэгорыі, паводле якіх класіфікуюцца інтэрв'ю, залежаць ад задач даследавання. Найбольш відавочнымі і зручнымі для фармалізацыі характарыстыкамі рэспандэнтаў з'яўляюцца наступныя звесткі: узрост, пол, сямейны стан; з пэўнымі заўвагамі сюды могуць быць аднесены адукацыя, веравызнанне і сацыяльны статус. Фіксуючы гэтыя звесткі ў табліцы, даследчыку даволі лёгка правесці папярэдняе параўнанне з размеркаваннем гэтых характарыстык у грамадстве ўвогуле, вядомым паводле іншых крыніцаў.

## *Пошук рэспандэнтаў*

Даволі цяжка аказваецца падабраць рэспандэнтаў, чый сацыяльны профіль цалкам адпавядаў бы патрэбам даследавання, тым больш для невялікай групы даследчыкаў. Найчасцей вусныя гісторыкі выкарыстоўваюць метад «снежнага камяка»: першыя рэспандэнты дапамагаюць знайсці іншых (з ліку сваіх знаёмых і сяброў), якія былі сведкамі ці ўдзельнікамі цікавых для даследчыка падзей.

Даследаванне варта пачынаць з кароткіх нефармальных размоў, якія не запісваюцца на дыктафон. Мэта такіх сустрэч – вызначыць, якія тэмы і сюжэты, звязаныя з даследаваннем, уяўляюцца значнымі для рэспандэнтаў, як яны іх разумеюць, якія пытанні ўздымаюць, з якімі асобамі, з іх пункту гледжання, неабходна абавязкова сустрэцца.

Акрамя таго, рэспандэнтаў можна шукаць праз разнастайныя арганізацыі і таварыствы, газеты, гарадскія даведнікі, у час сустрэч ветэранаў і выпускнікоў навучальных устаноў і г. д.

Наладжваць кантакт з рэспандэнтамі можна, напрыклад, у асабістай размове, праз ліставанне, па тэлефоне. Вельмі важна не напалохаць людзей, не выклікаць у іх неабгрунтаваных падазрэнняў. Менавіта таму метад «снежнага камяка» бывае вельмі карысны для атрымання нефармальнай рэкамендацыі знаёмых ці сваякоў патэнцыяльнага рэспандэнта, каб да даследчыка аднясліся з большым даверам.

Неабходна скласці спіс рэспандэнтаў і вызначыць тых, каго трэба апытваць у першую чаргу. Відавочна, гэта будуць тыя асобы, якія з'яўляюцца найбольш важнымі крыніцамі інфармацыі, людзі старэйшага ўзросту, стан здароўя якіх можа раптоўна пагоршыцца. На пачатку даследавання спіс рэспандэнтаў будзе мець папярэдні характар і пашырацца ў час працы. Калі колькасць інтэрв'ю загадзя не абумоўлена патрабаваннямі рэпрэзентацыйнай выбаркі або бюджэтнымі абмежаваннямі, а нарошчваецца паводле метаду «снежнага камяка», неабходна вызначыць момант, калі даследчык павінен спыніцца. Калі становіцца зразумелым, што інфармацыя паўтараецца ўжо ў 20 раз, можна казаць пра эфект «насычэння». Гэта значыць, што працу з гэтай катэгорыяй сведкаў можна лічыць завершанай.

## *Тыпы інтэрв'ю*

Існуе некалькі тыпаў інтэрв'ю. Яны могуць праводзіцца даследчыкам сам насам з рэспандэнтам або з цэлай групай людзей; могуць будавацца паводле жорсткага плану або адбывацца ў вольнай форме свабоднай размовы; могуць быць прысвечаны канкрэтнай тэме (тэматычнае

інтэрв'ю). Калі прадметам размовы з'яўляецца ўсё жыццё чалавека, то такое інтэрв'ю называецца біяграфічным; калі запісы робяцца з пэўнай перыядычнасцю, а потым збіраюцца і аналізуюцца, то гэта дзённікавае інтэрв'ю.

*Біяграфічнае інтэрв'ю*

Гэта найбольш ёмістая форма інтэрв'ю, якая дазваляе зразумець, якія падзеі свайго жыцця рэспандэнт лічыць найбольш значнымі, якімі сэнсавымі катэгорыямі чалавек аперыруе. Гэты тып інтэрв'ю найбольш ахвотна выкарыстоўваюць даследчыкі, якіх цікавіць не столькі гісторыя рэальных падзей, колькі асобаснае ўспрыманне іх мінулага. Біяграфічнае інтэрв'ю, пабудаванае ў форме адвольнага аповеду («Раскажыце пра сваё жыццё»), дазваляе зрабіць наратыўны аналіз аповеду рэспандэнта (вывучаць яго не толькі з пункту гледжання зместу, але і формы). Аднак трэба ўлічваць, што не ўсе рэспандэнты маюць дастатковыя звычкі адвольнага аповеду і здольныя без усялякай падрыхтоўкі прадставіць інтэрв'юеру завершаны жыццяпіс. Біяграфічнае інтэрв'ю можа працягвацца ад адной да васьмі гадзін і патрабаваць 2 ці 3 сеансы. Падзел інтэрв'ю на некалькі сеансаў можа даць рэспандэнту магчымасць яшчэ раз узгадаць нейкія істотныя дэталі. Акрамя таго, гэта дазволіць зняць пэўную напружанасць, калі за адзін сеанс рэспандэнт імкнецца расказаць пра ўсё.

*Групавое інтэрв'ю*

У пэўным сэнсе групавое інтэрв'ю больш адпавядае жывому працэсу зносінаў. Абставіны групавога абмеркавання могуць быць больш звыклымі для рэспандэнтаў, могуць дапамагчы ім разняволіцца. Агульныя ўспаміны могуць актывізаваць памяць, прывесці да новага погляду на праблему. Акрамя таго, звесткі аднаго рэспандэнта можа адразу пацвердзіць ці абвергнуць іншы. Аднак групавое інтэрв'ю патэнцыйна здольнае зрабіць і адваротнае ўздзеянне: група можа ўздзейнічаць на асобных рэспандэнтаў, якія будуць менш адкрытымі, будуць імкнуцца адпавядаць настрою групы. Але немагчыма выслухаць усіх удзельнікаў групы ў аднолькавай ступені. Да таго ж самому даследчыку значна складаней сачыць за ходам інтэрв'ю. Менавіта таму ўдзельнікі групы павінны быць аднаго полу, узросту; займаць прыблізна аднолькавыя становішчы, каб усе былі дастаткова ўпэўненыя ў сабе. На абмеркаванне адводзіцца 1-2 гадзіны. Усе ўдзельнікі павінны адчуваць сябе ўтульна і быць павернуты тварамі адзін да аднаго.

Асноўны акцэнт падчас групавога інтэрв'ю робіцца на ўзаемадзеянне паміж самімі ўдзельнікамі. Інтэрв'юер у гэтым выпадку бярэ на сябе ролю пасрэдніка, мадэратара, што складаецца з неабходнасці задаць тэму і «падштурхнуць» удзельнікаў да пачатку абмеркавання. У ходзе

далейшай размовы мадэратар мусіць вырашаць дзве найбольш характэрныя для групавой дыскусіі праблемы: імкненне асобных удзельнікаў манапалізаваць абмеркаванне і навязаць асабісты погляд большасці ўсіх удзельнікаў групы. Пры групавом інтэрв'ю вельмі важна ведаць, каму з яго ўдзельнікаў належыць кожнае выказванне, таму трэба сачыць, каб рэспандэнты не размаўлялі адначасова і кожны раз, перш чым пачаць аповед, называлі сваё імя. Гэта надалей аблегчыць працу па транскрыбіраванні (даслоўны перанос аўдыёзапісу на паперу) інтэрв'ю.

### *Складанне плана-апытальніка*

Маецца на ўвазе прыкладны план будучага інтэрв'ю, дзе вызначаны найбольш цікавыя для даследчыка тэмы, сфармуляваны асобныя пытанні. У некаторых выпадках падбор фармуліровак пытанняў можа мець выключна важнае значэнне. Акрамя таго, важна загадзя прадумаць і паслядоўнасць пытанняў – стратэгію інтэрв'ю. Складанне прыкладнага апытальніка асабліва важнае, калі даследаванне мае групавы характар (некалькі даследчыкаў).

Змест пытанняў залежыць ад задач і гіпотэзы даследавання. Магчымы два варыянты: свабоднае інтэрв'ю, дзе даследчык толькі задае агульную тэму аповеду, і інтэрв'ю дакладна па пытаннях. У кожнага з гэтых варыянтаў ёсць свае перавагі і недахопы.

Інтэрв'ю з дакладным наборам пытанняў дазваляе лягчэй параўноўваць адказы розных рэспандэнтаў, аднак тут ёсць і магчымасць прапусціць нешта важнае, пра што мог бы сказаць сам рэспандэнт і пра што не ведаў даследчык, калі планаваў пытанні. Аднак цалкам «аддаванне» ініцыятывы аповеду рэспандэнту таксама небяспечнае. Чалавек можа абмежавацца кароткім расповедам на вызначаную тэму і на гэтым спыніцца. Без дадатковых пытанняў і адмысловай арганізацыі размовы складана будзе атрымаць неабходную інфармацыю. Таму трэба намагацца знаходзіць нешта сярэдняе. Наўрад ці разумна пачынаць інтэрв'ю з самага галоўнага. Першыя пытанні павінны дапамагчы рэспандэнту зразумець мэты размовы, зняць псіхалагічную напругу. Калі няма задачы вывучэння самой наратыўнай формы інтэрв'ю, то найбольш лагічна прытрымлівацца храналагічнага парадку пытанняў. Тым больш унутры храналагічнага аповеду будуць да месца «балючыя» для рэспандэнта пытанні.

Лепш за ўсё стварыць інтэрв'ю, выкарыстоўваючы па чарзе два тыпы пытанняў. Новую тэму варта пачынаць з вялікага адкрытага пытання, якое патрабуе разгорнутага адказу (адкрытае пытанне – гэта такое, якое не ўтрымлівае ў фармуліроўцы варыянты адказу). Напрыклад, «Рас-

кажыце, калі ласка, пра сваё дзяцінства (бацькоў, знаёмства з ... і г. д.)». На гэтым этапе трэба пазбягаць пытанняў, якія прадугледжваюць адназначны адказ. Пачынаючы інтэрв'ю ці асобную тэму з канкрэтнага пытання, даследчык адразу ставіць размову пад уласны кантроль, і рэспандэнт будзе пасіўна чакаць наступных пытанняў. Таму толькі пасля вялікіх адкрытых пытанняў варта пераходзіць да прыватных з мэтай удакладніць дэталі. Некаторыя лічаць, што агульнае пытанне лепей фармуляваць з двух сказаў, у першым з якіх фармулюецца праблема, а ў другім – уласна пытанне.

Пры складанні плана-апытальніка і ў час самога інтэрв'ю вельмі важна не навязваць рэспандэнту неўласцівай яму тэрміналогіі. Неабходна, каб абодва суразмоўцы размаўлялі на адной мове, у сэнсе аднолькавага разумення паняццяў.

Асабліва напачатку інтэрв'ю вельмі важна не выказваць сваю ўласную пазіцыю, пазбягаць ацэначных выказванняў. І толькі ў тым выпадку, калі рэспандэнт вядомы як прыхільнік нейкіх канкрэнтых поглядаў, можна паказаць, што даследчык, калі і не сімпатызуе ім, то прынамсі паважае.

Ацэначныя меркаванні даследчыка могуць быць схаваныя ў форме накіроўваючых пытанняў, якіх пераважна трэба пазбягаць. Лічыцца, што да такіх пытанняў належаць любыя, у фармуліроўках якіх утрымліваецца падказка пазіцыі таго, хто іх задае. Такія пытанні робяць свядомы ці падсвядомы ўплыў на рэспандэнта. Вельмі важна загадзя не згадваць пра тое, што павінен распавесці рэспандэнт.

## *Падрыхтоўка да інтэрв'ю*

Месца і час размовы звычайна ўзгадняюцца з жаданнем рэспандэнта. Часцей месцам інтэрв'ю становіцца дом рэспандэнта або яго працоўнае месца. Правядзенне інтэрв'ю ў доме даследчыка мае шэраг пераваг у сэнсе тэхнічнай арганізацыі, але тут ёсць рызыка, што рэспандэнт не будзе адчуваць сябе ўтульна ў чужым месцы. У любым выпадку неабходна стварыць спрыяльныя ўмовы. Трэба загадзя дамовіцца пра час і спланаваць, каб абодва ўдзельнікі інтэрв'ю мелі не менш 2 гадзін на яго.

*Тэхнічнае забеспячэнне*

Надзвычай важна забяспечыць тэхнічны бок запісу інтэрв'ю, спраектаваць і ўлічыць усе нюансы працы гуказапісваючай апаратуры. Калі выкарыстоўваецца адзін мікрафон, то важна размясціць яго на роўнай адлегласці ад таго, хто задае пытанні, і таго, хто на іх адказвае. Неабходна праверыць якасць запісу. Перад тым як пачаць інтэрв'ю,

неабходна праверыць, ці працуе дыктафон. Адразу пасля інтэрв’ю запіс абавязкова трэба падпісаць (ідэнтыфікаваць).

## III этап. Запіс інтэрв’ю

Перад пачаткам інтэрв’ю неабходна сціпла растлумачыць рэспандэнту мэты даследавання, вызначыць тэмы, абмеркаваць іх, адказаць на ўсе пытанні рэспандэнта. Перад тым як пачаць інтэрв’ю, важна наладзіць кантакт з рэспандэнтам, дапамагчы яму «скінуць» напружанасць праз размовы на агульныя тэмы, расповеды даследчыка пра сябе. Можна сумесна прагледзець старыя фотаздымкі, выразкі з газет ці іншыя матэрыялы, што датычыцца тэмы даследавання. Гэта дапаможа рэспандэнту зразумець мэты даследавання, актывізаваць памяць.

Вельмі важна заваяваць давер рэспандэнта, трэба даць зразумець, што яго слухаюць і яго адказы вельмі важныя для даследчыка. Неабходна вельмі ўважліва слухаць суразмоўцу і рэагаваць на ход яго думкі. Мастацтва інтэрв’ю складаецца з умення вылучаць перспектыўныя сюжэты ў аповедзе рэспандэнта і своечасова задаваць пытанні, дапамагаючыя развіццю тэмы, пра якую даследчык раней не ведаў. Нельга дапускаць, каб рэспандэнт адыходзіў ад тэмы інтэрв’ю, спыняўся на нязначных і нецікавых падрабязнасцях, выкарыстоўваў інтэрв’ю як магчымасць паразмаўляць на тэмы, якія цікавяць яго самога.

Рэзкая змена тэмы размовы не павінна заставацца без тлумачэння з боку даследчыка. Неабходна растлумачыць сувязь новай тэмы з папярэдняй або тэмай цэлага даследавання.

Ні ў якім выпадку нельга перапыняць рэспандэнта. Падчас інтэрв’ю карысна рабіць і пісьмовыя нататкі, каб не перапытваць і не спыняць адмыслова рэспандэнта.

Не варта задаваць адразу некалькі пытанняў. Звычайна ў такім выпадку чалавек адказвае толькі на апошняе. Выключэннем з’яўляецца сітуацыя, калі закранута «балючая» для рэспандэнта тэма. У гэтым выпадку даецца магчымасць выбару таго пытання, на якое рэспандэнт можа адказаць.

Калі падчас інтэрв’ю ўзнікае ўражанне, што рэспандэнт нешта ўтойвае ў сваім аповедзе, можна ў крыху іншай форме паўтарыць тое, што задавалася раней, папрасіць растлумачыць сэнс выказвання рэспандэнта або проста запытаць, ці не хоча ён яшчэ нешта дадаць. З такімі пытаннямі цесна звязаны ўдакладняючыя пытанні, якія задае даследчык, абапіраючыся на звесткі, атрыманыя ад рэспандэнта. Гэта могуць быць згадкі пра невядомых даследчыку асоб ці падзеі, абставіны, якія прадстаўляюць цікавасць для даследчыка.

Пытанні, скіраваныя на пошук сэнсу і раскрыццё ўнутранага свету рэспандэнта («Чаму так адбылося?», «Што для Вас гэта значыла?» і г. д.), задаюцца звычайна тады, калі мэтай даследчыка з’яўляецца менавіта рэканструкцыя суб’ектыўнага досведу чалавека. Але такія пытанні каштоўныя і з іншай прычыны: яны даюць магчымасць зразумець рэспандэнту, што даследчыка цікавяць не толькі нейкія факты, але і ён сам як асоба.

Пытанні на параўнанне («Чым Ваша жыццё адрознівалася ад жыцця Вашых бацькоў?» і г. д.) могуць садзейнічаць больш глыбокаму вывучэнню нейкай праблемы. Праўда, у некаторых несхільных да рэфлексіі рэспандэнтаў такія пытанні могуць выклікаць цяжкасці.

Пытанні, выказаныя ва ўмоўным ладзе або ва ўскоснай форме, звычайна дапамагаюць, калі рэспандэнт не можа выказаць сваю думку або саромеецца ў нечым прызнацца.

Калі даследчык мае дастаткова інфармацыі па тэме, ён можа задаць кантрольныя пытанні, накіраваныя на тое, каб праверыць, ці сапраўды рэспандэнт валодае тымі ведамі, якія ён сабе прыпісвае.

### *Міжасабовыя адносіны падчас інтэрв’ю. Уздзеянне інтэрв’ю на яго ўдзельнікаў*

Інтэрв’ю мае двухбаковы характар і амаль ніколі не бывае размовай «на роўных». Розныя фактары (узрост, пол, узровень адукацыі, веравызнанне і інш.) уплываюць на адносіны паміж суразмоўцамі.

Спецыфічнае ўздзеянне інтэрв’ю на рэспандэнта – магчымасць асэнсаваць ці пераасэнсаваць сваё жыццё. Пры гэтым даследчык не павінен прэтэндаваць на ролю суддзі, спрачацца ці сварыцца з рэспандэнтам. Трэба ўтрымлівацца ад выказвання ўласных суджэнняў ці ацэнак, а таксама парад, што рабіць, калі даследчык катэгарычна нязгодны з рэспандэнтам. Яго ўсё роўна трэба выслухаць і паспрабаваць зразумець. Можна паспрачацца з канкрэтнымі адказамі рэспандэнта, у мяккай форме выказаць нязгоду. Аднак нельга забываць, што даследчыка ў першую чаргу павінны цікавіць погляды рэспандэнта, а не ўласныя.

Спецыфічнае ўздзеянне робіць інтэрв’ю і на інтэрв’юера. Вынікам інтэрв’ю можа быць эмацыйны водгук даследчыка, працяг кантактаў з рэспандэнтам, эмацыйная сувязь. Варта правесці мяжу паміж сяброўскімі і прафесійнымі адносінамі.

Падчас інтэрв’ю можа ўзнікаць канфлікт інтэрпрэтацый, калі рэспандэнт і інтэрв’юер па-рознаму ўспрымаюць ці разумеюць тыя ці іншыя паняцці і падзеі.

На характар і ходу інтэрв'ю робяць уплыў таксама сацыяльна-культурныя нормы і стэрэатыпы, асаблівасці моўных камунікацый мужчын і жанчын. Напрыклад, для мужчын размова – гэта часцей за ўсе магчымасць атрымаць інфармацыю, а для жанчын – магчымасць наладзіць асабісты кантакт. Мужчыны не любяць, калі іх перапыняюць, а жанчыны часта самі перапыняюць суразмоўцу. Жанчыны часцей кажуць «мы», а мужчыны часцей выступаюць ад свайго імя.

### *Праблемныя сітуацыі падчас інтэрв'ю і магчымасці іх вырашэння*

*1. Рэспандэнт не можа ўзгадаць нейкія дэталі, імёны ці даты ў аповедзе, таму размова перапыняецца.*

Калі гэта датычыцца не прыватных фактаў біяграфіі рэспандэнта, а нейкіх гістарычных падзей, то даследчык павінен сам ведаць асноўныя даты і імёны (бо ён мусіць быць падрыхтаваны да размовы) і падказаць рэспандэнту тое, што той забыўся.

*2. У расповедзе рэспандэнта сустракаюцца памылкі ў вызначэнні датаў падзей.*

Гэта часта звязана з тым, што чалавек інтэрпрэтуе гістарычныя падзеі праз прызму ўласнай біяграфіі. Таму храналогія знешніх падзей аднаўляецца ім праз хроніку падзей свайго жыцця. Даследчык павінен гэта разумець і ўлічваць.

*3. Рэспандэнт дае кароткія адказы на адкрытыя пытанні.*

Хутчэй за ўсё рэспандэнт стаміўся або размова перастала быць яму цікавай. Можа быць, што яго размова была перапынена, і яму здалося, што яго інфармацыя нецікавая для даследчыка.

*4. У час інтэрв'ю даследчык закрануў «балючую» для рэспандэнта тэму.*

Калі задаць пытанне наўпрост, ёсць рызыка выклікаць жорсткую рэакцыю чалавека. Адзін са спосабаў пазбегнуць гэтага – працытаваць нейкую іншую крыніцу, дзе выказана пазіцыя, супрацьлеглая пазіцыі рэспандэнта («У свой час у газетах пісалі, што... », «Як Вы да гэтага ставіцеся?»).

*5. Рэспандэнт просіць выключыць дыктафон.*

Даследчык павінен ветліва, але цвёрда адмовіцца і растлумачыць, што ў мэты даследавання не ўваходзіць шырокае распаўсюджванне атрыманай інфармацыі і рэспандэнт можа абмежаваць магчымасці доступу іншых людзей да зместу інтэрв'ю.

*6. Рэспандэнт «ведае ўсё пра ўсё», ён часта распавядае іншым асобам, яго расповеды з'яўляюцца своеасаблівым мясцовым фальклорам.*

Калі даследчыка цікавяць рэальныя падзеі, то трэба вывесці рэспандэнта за межы яго традыцыйнага «рэпертуару». Добрая папярэдняя падрыхтоўка да інтэрв'ю дапаможа паказаць рэспандэнту недакладнасці ў яго аповедах. Праўда, гэта не заўсёды дапамагае. Часта ўспаміны чалавека так урастаюць у тыя байкі, што ён не адразу зможа ўзгадаць нешта іншае. У любым выпадку варта даць чалавеку выгаварыцца, а потым задаваць канкрэтныя пытанні, якія выходзяць за межы традыцыйных сюжэтаў.

*7. У даследчыка складваецца ўражанне, што яго жадаюць падмануць.*

Нават калі даследчык упэўнены, што яго ўводзяць у зман, не варта спяшацца з высновамі. Не толькі ў праўдзівых адказах можа ўтрымлівацца карысная інфармацыя. Можна прывесці меркаванні, якія супярэчаць сцвярджэнням рэспандэнта (лепш спасылацца на нейкія іншыя крыніцы інфармацыі, але не называць дакладных імёнаў), але не ўваходзіць у канфлікт з рэспандэнтам. У той жа час можа так адбыцца, што рэспандэнт падманвае самога сябе, і разбурыць яго ўяўленні будзе і карысна, і небяспечна для яго самога. Даследчык – не псіхатэрапеўт, і выправіць вынікі інтэрв'ю для рэспандэнта ён не здольны.

У любым выпадку неабходна пачынаць размову з таго, пра што чалавек размаўляе ахвотна, і такія тэмы варта загадзя прадумаць, асабліва пры падрыхтоўцы да складанага інтэрв'ю.

### *Заканчэнне інтэрв'ю*

Пасля заканчэння размовы даследчык павінен выказаць падзяку рэспандэнту. Не варта адразу сыходзіць, не паразмаўляшы на штодзённыя тэмы. Можна расказаць што-небудзь пра сябе, сваю працу, падзяліцца ўспамінамі. Гэта дазволіць змягчыць «вяртанне ў сучаснасць» і пазбавіцца ад ўражання, што рэспандэнта выкарысталі дзеля чужых мэтаў.

Часта ў апошні момант узгадваецца нешта істотнае. Калі немагчыма гэта запісаць на дыктафон, то трэба дакладна запомніць і як найхутчэй занатаваць, таксама можна дамовіцца на працяг інтэрв'ю.

Па вяртанні з інтэрв'ю карысна прааналізаваць складанасці і памылкі.

## IV этап. Расшыфроўка інтэрв'ю

### *Транскрыбіраванне інтэрв'ю*

Транскрыбіраванне – даслоўны перанос аўдыёзапісу на паперу. Працэс гэты надзвычай працаёмкі, патрабуе цярплівасці і ўважлівасці. Калі даследчык адзін і праект невялікі, то можна абмежавацца транскры-

баваннем толькі цікавых момантаў. Калі працуе група даследчыкаў, трэба праводзіць транскрыбіраванне цалкам. Прычым пажадана, каб гэтым займаўся той, хто запісваў інтэрв'ю. Гэты працэс прадугледжвае даслоўны запіс, але з яго прынцыпамі трэба загадзя вызначыцца.

### *Рэдагаванне тэксту інтэрв'ю*

Ці трэба даваць рэспандэнту магчымасць рэдагаваць інтэрв'ю? Гэта пытанне на сённяшні дзень адназначна не вырашанае. Безумоўна, у рэспандэнта можна ўдакладняць асобныя спрэчныя кавалкі, але ўсе зробленыя выпраўленні варта зафіксаваць адмыслова.

## V этап. Аналіз інтэрв'ю

### *Вядзенне дакументацыі па інтэрв'ю*

Важнай праблемай з'яўляецца захаванне запісаў і тэкстаў транскрыпцыі пасля інтэрв'ю. Лепш за ўсё было б забяспечыць доступ да запісаў іншых даследчыкаў для далейшага больш шырокага аналізу атрыманых звестак.

Істотным момантам для наступнага аналізу розных інтэрв'ю з'яўляецца вядзенне журнала або картатэкі ўліку інтэрв'ю. Тут фіксуецца агульная інфармацыя пра ходу даследавання: хто, калі і дзе запісваў інтэрв'ю; асабістыя звесткі рэспандэнта; працягласць інтэрв'ю; ці выканана транскрыпцыя; наяўнасць абмежаванняў на выкарыстанне інфармацыі; кароткая анатацыя кожнага інтэрв'ю.

Можна завесці картатэку на ўсіх рэспандэнтаў, дзе будуць змешчаны іх біяграфічныя звесткі, матэрыялы кантактаў з імі, ліставанне, пісьмовы дазвол на выкарыстанне інфармацыі, кантактныя звесткі і звесткі пра мінулыя інтэрв'ю і г. д.

Не лішняй будзе і картатэка апісанняў зместу інтэрв'ю. Стандарт такіх апісанняў выпрацоўвае сам даследчык. Гэты стандарт мусіць быць зручны для апрацоўкі. Можна заносіць сюды згаданыя імёны, назвы, якія найчасцей сустракаюцца і інш.

### *Аналіз зместу інтэрв'ю*

Даследчык павінен улічваць, што галоўнае ў інтэрв'ю – гэта яго змест. Таму вялікая і сур'ёзная праца пачынаецца ўжо пасля запісу і транскрыпцыі, калі пачынаецца менавіта аналітычная праца. Даследчык мусіць прааналізаваць не толькі змест кожнага інтэрв'ю, але і суаднесці

паміж сабою звесткі, атрыманыя ад розных сведкаў, зрабіць высновы, звязаныя з тэмай і мэтай даследавання.

## VI этап. Верыфікацыя звестак інтэрв'ю

Верыфікацыя – праверка сапраўднасці звестак, зафіксаваных у інтэрв'ю, важны этап апрацоўкі зместу запісаў. Пры гэтым найбольш адпаведным інструментам выступае суаднясенне інфармацыі інтэрв'ю з інфармацыяй, здабытай з іншых крыніц.

## VII этап. Напісанне справаздачы

Апошнім этапам вуснагістарычнага даследавання з'яўляецца фармуляванне высноў, зробленых на падставе інтэрв'ю і стварэнне канчатковага прадукту інтэрв'ю ў зручнай для чытання форме. Акрамя таго, вынікам даследавання становіцца тэкст даследчай працы, падрыхтаваны для публікацыі.

Пры навуковым цытаванні інтэрв'ю варта прытрымлівацца наступных прынцыпаў:

- цытаты трэба звязваць з агульным тэкстам;
- кантэкст цытаванага выказвання павінен быць зразумелы;
- цытаты павінны быць кароткімі, інтэрпрэтаванымі;
- неабходна, каб паміж тэкстам і цытатамі быў пэўны баланс;
- цытаты з інтэрв'ю павінны быць у форме пісьмовай мовы;
- неабходна прадставіць простую сістэму пазначэнняў выпраўлення цытат.

На падставе апрацаваных інтэрв'ю магчыма стварыць таксама эсэ, творчыя працы, публікацыі ў сродках масавай інфармацыі. Запісы інтэрв'ю могуць папоўніць музейныя экспазіцыі, архіўныя фонды; стаць падставай для правядзення тэматычных вечароў, публічных дыскусій, прэзентацый.

## Прававыя і этычныя праблемы, звязаныя з інтэрв'ю

Істотныя моманты інтэрв'ю звязаны з правам на запіс і правам на інфармацыю. Згода рэспандэнта на інтэрв'ю яшчэ не азначае яго згоду на публікацыю вынікаў. Таму варта атрымоўваць пісьмовую згоду рэспандэнта на выкарыстанне інтэрв'ю і адмыслова агаворваць умовы выкарыстання.

## Крытэрыі якасці інтэрв'ю

1. Аб'ём спантанных, падрабязных, канкрэтных і адпаведных тэме адказаў, атрыманых у інтэрв'ю.

2. Чым карацейшыя пытанні інтэрв'юера і даўжэйшыя адказы рэспандэнта, тым лепей.

3. Наколькі інтэрв'юер глыбока адсочвае і высвятляе сэнс адпаведных аспектаў адказаў.

4. Ідэальнае інтэрв'ю ў вялікай ступені інтэрпрэтуецца ў працэсе самога інтэрв'ю.

5. Інтэрв'юер намагаецца верыфікаваць свае інтэрпрэтацыі адказаў рэспандэнта ў працэсе інтэрв'ю.

6. Інтэрв'ю – гэта самадастатковы аповед, які не патрабуе вялікай колькасці лішніх апісанняў і тлумачэнняў.

## Крытэрыі кваліфікаванасці інтэрв'юера

1. Валодае шырокімі ведамі па тэме інтэрв'ю, можа падтрымліваць размову па тэме на адпаведным узроўні.

2. Фармулюе мэту інтэрв'ю, падкрэслівае ходу ўсёй працэдуры, падводзіць вынікі інтэрв'ю.

3. Задае зразумелыя, простыя і кароткія пытанні; гаворыць выразна і зразумела; не выкарыстоўвае навуковыя выразы ці прафесійны жаргон.

4. Дазваляе суразмоўцы скончыць тое, што ён гаворыць, дае яму магчымасць думаць і гаварыць у сваім уласным рытме, спакойна вытрымлівае паўзы, пазначае магчымасць абмеркавання нетрывіяльных і правакацыйных думак, а таксама магчымасць праяваў эмоцый.

5. Актыўна прыслухоўваецца да зместу сказанага, чуе ў адказе мноства сэнсавых нюансаў і спрабуе дамагчыся больш падрабязнага вызначэння адценняў сэнсу. Інтэрв'юер чуе не толькі тое, што сказана, але і тое, што не было сказана, адчувае, калі тэма робіцца занадта эмацыйнай.

6. Адчувае, якія аспекты тэмы важныя для суразмоўцы.

7. Ведае, што шукае. Ён знаёмы з мэтамі інтэрв'ю, з тым, якія веды важна атрымаць. Ён кантралюе ходу інтэрв'ю і не баіцца спыняць адыход інтэрв'ю ад тэмы.

8. Не бярэ на веру ўсё, што яму кажуць, а імкнецца праверыць праўдзівасць таго, пра што яму гаворыць суразмоўца. Гэтая крытычная праверка можа быць скіраваная як на самі па сабе выказванні рэспандэнта, так і на лагічнасць і паслядоўнасць аповеду.

9. Памятае ўсё, што казаў суразмоўца на працягу інтэрв'ю, можа аднавіць ранейшае выказванне і папрасіць разгарнуць яго, можа суаднесці

тое, што было сказана ў розныя моманты інтэрв'ю, і звязаць усё ў адзінае цэлае.

10. На працягу ўсяго імкнецца высвятліць і пашырыць сэнс выказванняў рэспандэнта, інтэрпрэтуе тое, што было сказана, прычым яго інтэрпрэтацыі могуць як пацвярджацца, так і абвяргацца суразмоўцам.

## Спіс выкарыстаных крыніц

1. *Бургос, М.* История жизни. Рассказывание и поиск себя / М. Бургос // Вопросы социологии. – 1992. – № 2. – С. 123–129.

2. *Винокур, Т. Г.* Говорящий и слушающий: варианты речевого поведения / Т. Г. Винокур. – М., 1993.

3. *Лоскутова, М. В.* Устная история : метод. рекомендации по проведению исследования / М. В. Лоскутова. – СПб., 2002.

4. *Лукина, М.* Технология интервью : учеб. пособие для вузов / М. Лукина. – М., 2003.

5. *Томпсон, П.* Устная история. Голос прошлого / П. Томпсон. – М., 2003.

6. *Урсу, Д. П.* Методологические проблемы устной истории / Д. П. Урсу // Источниковедение отечественной истории. – М., 1989. – С. 3–32.

7. Хрестоматия по устной истории / под ред. М. В. Лоскутовой. – СПб. : Европ. ун-т в С.-Петербурге, 2003. – 396 с.

# Праектны падыход да арганізацыі дзейнасці па вывучэнню і ўкараненню метадаў вуснагістарычных даследаванняў

***Алена Іванаўна Калістратава,***
*начальнік аддзела міжнароднага супрацоўніцтва*
*ДУА «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»*

> У 1956 годзе маёй маме споўнілася дзесяць гадоў. Мяне заўсёды цікавіла, які быў свет у пару яе дзяцінства...

Цікавасць да вывучэння і ўкаранення ў педагагічную практыку метадаў вуснагістарычных даследаванняў паўстала ў супрацоўнікаў Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі невыпадкова. Настаўнікі гісторыі, грамадазнаўства, філолагі, класныя кіраўнікі ў сваёй працы часта выходзяць за рамкі выключна выкладчыцкай прадметнай дзейнасці, з’яўляючыся ініцыятарамі і арганізатарамі мерапрыемстваў з удзелам прадстаўнікаў бацькоўскага калектыву і мясцовай супольнасці. Гэта праца мае на ўвазе выкарыстанне даследчых метадаў, біяграфічнага апавядання і навучання, метадаў і прыёмаў вуснай гісторыі.

У сітуацыях, калі неабходна ўсталяваць сувязь паміж «носьбітам» гістарычнай памяці, відавочцам падзеі і самім гістарычным фактам, самымі эфектыўнымі метадамі даследаванняў выступаюць вуснагістарычныя. Гісторыя, жывая, штодзённая, ствараецца ўсімі людзьмі. Чалавек з’яўляецца адначасова і тварцом гістарычнай рэчаіснасці, і «носьбітам» гістарычнай памяці. Спецыялісты розных сфер дзейнасці карыстаюцца метадамі вуснай гісторыі. Гісторыкі, сацыёлагі, антраполагі, журналісты, пісьменнікі, этнографы для стварэння жывога ладу мінулага выкарыстоўваюць вуснагістарычныя метады і прыёмы.

Паспрабуем адказаць на наступныя пытанні: «Аб чым марылі людзі ў 50-ых гг. XX ст.?», «Якое адзенне лічылася модным?», «Якія песні былі найбольш папулярнымі?», «Як бавілі час і якія стравы гатавалі да прыходу гасцей?». Як правіла, на такія пытанні не заўсёды можна знайсці адказы ў афіцыйна адобраных гістарычных кнігах і дакументах. Гістарычнае поле, акрэсленае названымі пытаннямі, не адносіцца наўпрост да абласцей палітычнага, эканамічнага, ваеннага жыцця краіны, пра якія можна прачытаць у падручніках гісторыі, знайсці адказ у архіўных дакументальных крыніцах. Хутчэй за ўсё, гэта поле быцця адносіцца да гісторыі штодзённасці. У савецкую эпоху паўсядзённыя клопаты, пачуцці, праблемы, настроі людзей разглядаліся навукай як неістотныя, не здольныя аказаць належнага ўплыву на аб’ектыўны ход гісторыі.

Аднак па словах Пушкаровай М. Л., доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыцы сектарам этнагендэрных даследаванняў Інстытута этналогіі і антрапалогіі Расійскай Акадэміі навук, «у нашы дні філасофія штодзённасці ўваходзіць у лік модных тэм, якія часта абмяркоўваюцца на навуковых канферэнцыях. Сэнсавая напоўненасць “штодзённага” можа інтэрпрэтавацца ў строгай залежнасці ад адчуванняў індывіда і ад сацыяльных фактараў, уплыў якіх пад сілу прааналізаваць этнографу, сацыёлагу, гісторыку» (http://www.perspektivy.info/history/istorija_povsednevnosti).

Разгляд грамадскіх, эканамічных, палітычных з’яў праз прызму асэнсавання адзінкавага чалавечага вопыту дазваляе адчуць дух часу, крытычна зірнуць на псіхалагічныя, дэмаграфічныя, культурныя бакі жыцця грамадства.

Калі ў красавіку 2010 года Прадстаўніцтва зарэгістраванага таварыства «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» (Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь аб’явіла конкурс праектных ідэй па тэме «Гісторыя XX стагоддзя ў адукацыі дарослых», аддзел міжнароднага супрацоўніцтва Мінскага абласнога ІРА прадставіў праектную заяўку пад назвай «Захоўваючы гісторыю, ствараем будучыню». Праблемнае поле конкурсу давала магчымасць выбару аднаго з некалькіх кірункаў праектнай дзейнасці:

• прадстаўленне і абмеркаванне «невядомых альбо малаабмяркоўваемых» падзей XX ст.;

• значныя падзеі і асобы ў гісторыі населенага пункта або мікрарэгіёну;

• вусная гісторыя і яе элементы ў адукацыйным працэсе (асвятленне падзей праз лёсы людзей);

• дыялог і пераемнасць пакаленняў;

• асновы працы з метадамі вуснай гісторыі і біяграфічнага навучання;

• метадычныя матэрыялы па тэме «Гісторыя ў адукацыі дарослых».

Фокусам нашай праектнай ідэі стала праблема вусных метадаў даследавання ў гісторыі, дзе галоўным прыярытэтам становіцца сам суб’ект і яго індывідуальнае паведамленне, асабістыя перажыванні, спосабы і прычыны прыняцця рашэнняў у складаных і паўсядзённых сітуацыях, асабістая матывацыя.

Мэта праекта была сфармулявана як «усталяванне пазітыўнай камунікацыі, дыялогу паміж людзьмі розных пакаленняў, фарміраванне ў членаў мясцовай супольнасці навыкаў узаемнай сацыяльнай адказнасці і сумеснага вырашэння праблем захавання гістарычнай і культурнай памяці рэгіёну».

У адпаведнасці з мэтай былі вызначаны наступныя задачы:

- прадаставіць магчымасць мясцовым жыхарам, мясцовым арганізацыям і ўстановам стаць актыўнымі партнёрамі ў захаванні гістарычнай і культурнай памяці рэгіёну;

- садзейнічаць станаўленню школы не толькі як адукацыйнай установы, але і грамадзянскага, культурнага, грамадскага цэнтра горада, пасёлка, вёскі.

Запланаваныя мерапрыемствы праекта былі падзелены на некалькі груп: інфармацыйныя, навучальныя, метадычныя, арганізацыйныя і праходзілі на рэгіянальным, абласным і рэспубліканскім узроўнях. Ажыццяўленне праекта пачалося са стварэння рэгіянальных ініцыятыўных груп, кожная з якіх уключала чатырох педагогаў з Мядзельскага, Любанскага і Капыльскага раёнаў Мінскай вобласці. Пры выбары ўдзельнікаў праекта рэгіёнам было прапанавана ўлічваць як прафесійныя, так і асабістыя якасці: ініцыятыўнасць, камунікабельнасць, вопыт даследчай і публіцыстычнай дзейнасці, уменне абагульняць і прэзентаваць вынікі дзейнасці.

Другім крокам праекта з’явілася распрацоўка метадычных рэкамендацый па выкарыстанні метадаў вуснай гісторыі і біяграфічнага навучання ў працы з «жывымі носьбітамі гісторыі». Рэкамендацыі ўяўлялі сабой комплекс матэрыялаў, якія разглядаюць асноўныя аспекты методыкі вуснагістарычных даследаванняў: метады збору інфармацыі, узор анкеты для правядзення інтэрв’ю са сведкам, сем этапаў даследчага інтэрв’ю, выкарыстанне метадалогіі вуснай гісторыі ў краязнаўчай працы ў школе, методыка правядзення фокус-груп. У далейшым дадзеныя матэрыялы з’явіліся інструментам арганізацыі і правядзення вуснагістарычных даследаванняў у рэгіёнах.

З мэтай папулярызацыі праекта быў абраны метад інфармавання грамадскасці, створана інфармацыйная старонка праекта ў рубрыцы «Міжнароднае супрацоўніцтва» на сайце www.moiro.by. Змест раздзелаў старонкі склалі актуальныя матэрыялы па вуснай гісторыі, метадычныя рэкамендацыі, еўрапейскія дакументы аб адукацыі дарослых, фатаграфіі мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў рамках праекта.



Дадзеная праца папярэднічала правядзенню ў верасні 2010 года абласнога навучальнага семінара-практыкума «Гісторыя ХХ стагоддзя ў адукацыі дарослых».

Удзельнікі семінара пазнаёміліся з асновамі метадалогіі вуснай гісторыі,

абмеркавалі магчымасці правядзення вуснагістарычных даследаванняў у трох рэгіёнах Мінскай вобласці, выпрацавалі ідэі выкарыстання біяграфічнага падыходу для самастойнай работы ў сферы адукацыі дарослых, разгледзелі перыяд першага пасляваеннага дзесяцігоддзя для збору біяграфічнага матэрыялу па некаторых напрамках гісторыі штодзённасці; на практыцы апрабавалі некаторыя метады і прыёмы біяграфічнай працы: канструктыўнае слуханне, «гутарковае кафэ», інтэрв'ю.

Вынікам групавой працы на семінары сталі ідэі для правядзення вуснагістарычных даследаванняў у рэгіёнах. Праектная група Капыльскага раёна спыніла свой выбар на праблеме станаўлення адукацыі ў пасляваенны перыяд, Любанскага – на лёсе чалавека ў гады аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі (1945–1950 гг.), педагогі Мядзельшчыны арыентаваліся на даследаванне побыту сям'і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.

У кастрычніку-лістападзе пачаўся рэгіянальны этап рэалізацыі праекта. Прадстаўнікі праектных груп вызначылі ўдзельнікаў, узаемадзеянне з якімі дазволіла сабраць, сістэматызаваць і прааналізаваць гістарычныя сведчанні па выбраных напрамках вуснагістарычных даследаванняў.

Педагогі і навучэнцы адукацыйных устаноў, прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі прынялі ўдзел у зборы дакументальных гістарычных матэрыялаў, правядзенні інтэрв'ю, «гутарковых кафэ» з так званымі жывымі носьбітамі гісторыі. Сустрэчы, праведзеныя ў трыядзе пакаленняў «навучэнцы–педагогі–гістарычныя сведкі» ляглі ў аснову публіцыстычных артыкулаў, тэматычных відэасюжэтаў, фотавыставаў, прадэманстраваных на рэспубліканскім форуме «Захоўваючы гісторыю, ствараем будучыню». Гэта дзейнасць мела не толькі рэчавыя вынікі, але і сацыяльна значныя, што выразілася ў кансалідацыі намаганняў мясцовага супольнасці – сельскіх саветаў, цэнтраў сацыяльнай работы, саветаў ветэранаў – пры зборы дакументальнага матэрыялу.



Выніковым мерапрыемствам праекта стаў рэспубліканскі форум «Захоўваючы гісторыю, ствараем будучыню», які аб'яднаў прадстаўнікоў праектных ініцыятыў, што перамаглі ў конкурсе «Гісторыя ХХ стагоддзя ў адукацыі дарослых».

Сярод іх былі дзяржаўныя ўстановы адукацыі і культуры,

грамадскія арганізацыі, Саюз сястрыцтваў міласэрнасці Беларускай Праваслаўнай Царквы. Шырокая палітра даследчых тэм была прадстаўлена ў ходзе стэндавых прэзентацый:

- «Нацыянальная музычная спадчына ў гісторыі і культуры Магілёўшчыны»;
- «Уклад у сусветную культуру ўраджэнцаў Капыльшчыны, якія эмігравалі ў пачатку XX ст.»;
- «Гісторыя XX ст. у лёсах і фотаздымках гарадзенцаў»;
- «Гісторыя адраджэння і развіцця дзейнасці жаночых дабрачынных арганізацый у XX ст.»;
- «Беларуская школа ў Каме: гісторыя беларускай эміграцыі»;
- «У Пошуках Гісторыі: штодзённае жыццё савецкага Гродна 50–80-ых гг.»;
- «Стварэнне музея гісторыі адукацыі г. Шчучына».

Адкрытая адукацыйная прастора дазволіла абмяняцца вопытам праектнай дзейнасці, абмеркаваць маленькія гістарычныя адкрыцці аб значных падзеях і асобах у жыцці населенага пункта і рэгіёна. У ходзе калейдаскопа праектных ініцыятыў былі вызначаны перспектывы для развіцця вуснагістарычных даследаванняў, выказаны ідэі па абагульненні вопыту праектнай дзейнасці ў форме інфармацыйна-метадычнага дапаможніка з дадаткам на электронным носьбіце.

Аб устойлівасці праекта Мінскага абласнога ІРА сведчаць створаныя групы педагогаў, старшакласнікаў і членаў мясцовай супольнасці, аб’яднаныя агульнымі інтарэсамі і магчымасцямі для правядзення вуснагістарычных даследаванняў малавядомых старонак гісторыі XX стагоддзя, багаты гістарычны матэрыял, пакладзены ў аснову дадзенага дапаможніка. Арганізацыя збору сведчанняў адкрывае магчымасці запрашаць людзей розных пакаленняў у якасці экспертаў у розных галінах дзейнасці і ведаў ва ўстановы адукацыі, культуры і сацыяльнай сферы.

Мэтай дадзенага выдання з’яўляецца прадстаўленне шырокай палітры праектных ініцыятыў, разнастайных вынікаў, атрыманых у межах конкурсу «Гісторыя XX стагоддзя ў адукацыі дарослых». Гістарычныя сведчанні, сабраныя рэгіянальнымі ўдзельнікамі праекта «Захоўваючы гісторыю, ствараем будучыню», з’яўляюцца карыснымі з пункту гледжання аўтэнтычнасці, што дазваляе выкарыстоўваць іх як дакументальны матэрыял у навукова-даследчай працы, ва ўрочнай дзейнасці выкладчыкаў гісторыі, філалогіі.

У дапаможніку прадстаўлены эсэ як форма мастацкай апрацоўкі гістарычных успамінаў. Праектная дзейнасць Капыльскага раённага

краязнаўчага музея дазволіла напрацаваць біяграфічны і фактычны матэрыял па малаасветленай тэме «Знакамітыя ва ўсім свеце эмігранты, ураджэнцы Капыльскай зямлі». Створаны музей адукацыі ў Шчучыне дэманструе магчымасці выкарыстання музейных калекцый для плённай працы на глебе адукацыі дарослых. Звярнуўшыся да вопыту грамадскага аб’яднання маладых навукоўцаў з Гародні, шырокаму колу спецыялістаў, звязаных з адукацыяй дарослых, прыйдзецца да спадобы форма правядзення інтэрактыўных сустрэч па розных аспектах гісторыі XX ст. Сістэмная праца па выкарыстанні вуснай гісторыі ў адукацыйных і асветніцкіх мэтах прадстаўлена ў артыкуле «Гісторыя XX стагоддзя ва ўспамінах гарадзенцаў. З досведу выкарыстання вуснай гісторыі ў адукацыі дарослых у Гродна». Цікавы напрамак вуснагістарычнай дзейнасці – музычная спадчына Магілёўшчыны – быў абраны Грамадскім аб’яднаннем «Лекарскі саюз».

Такім чынам, разнастайнасць праектных падыходаў да шырокай тэмы «Гісторыя XX стагоддзя ў адукацыі дарослых» дазваляе выкарыстоўваць багаты інструментарый вуснай гісторыі для захавання і перадачы памяці аб жыцці краіны праз чалавечыя лёсы.

# Упошуках гісторыі: паўсядзённае жыццё Капыльскага, Любанскага, Мядзельскага раёнаў Мінскай вобласці (1944–1954 гг.)

## Пасляваенная адукацыя ў Капыльскім раёне (1944–1954 гг.): людзі, падзеі
(з вопыту біяграфічнага даследавання)

***Барыс Мікалаевіч Дзенісюк,***
*намеснік дырэктара*
*ДУА «Слабадакучынская сярэдняя школа»*
*Капыльскага раёна Мінскай вобласці*

Будем вместе за жизнь мы сражаться,
Утверждать доброту, ей учить,
Чтоб учителем все же остаться,
Ради этого стоит нам жить!
*Г. И. Соловей «Размышление»*

Праблема, абраная праектнай групай Капыльскага раёна для даследавання з выкарыстаннем метадаў вуснай гісторыі, – адукацыя ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. Удзельнікі групы Б. М. Дзенісюк, намеснік дырэктара ДУА «Слабадакучынская сярэдняя школа»; В. М. Салавей, настаўнік гісторыі ДУА «Пацейкоўская сярэдняя школа»; С. М. Кубрак, настаўнік гісторыі ДУА «Гімназія № 1 г. Капыля»; С. К. Астрэйка, настаўнік гісторыі ДУА «Пясачанская сярэдняя школа» запланавалі як індывідуальныя сустрэчы з гістарычнымі сведкамі, так і сумесныя паседжанні, напрыклад, «гутарковае кафэ» «Адукацыя і жыццё ў першыя пасляваенныя гады» з прадстаўнікамі ветэранскіх арганізацый педагогаў, вечар-агеньчык «Памяць сэрца грэе...».

Нас цікавілі наступныя аспекты даследчай тэмы:

- адносіны вучняў да вучобы;
- школьныя памяшканні, падручнікі, сшыткі, пісьмовыя прыналежнасці;
- жыццё настаўнікаў;
- вольны час дзяцей;
- звыклая ежа, адзенне і абутак тых часоў.

На працягу праектнай дзейнасці былі аб’яднаны намаганні школ, сельскіх клубаў, бібліятэк, музеяў, мясцовых органаў улады, ветэранскіх арганізацый. Інтэрв’ю, «гутарковыя кафэ» запісваліся на відэа,

фатаграфаваліся, фіксаваліся дакументальна. Артыкулы аб выніках працы былі апублікаваны ў рэгіянальнай газеце «Слава Працы». З кастрычніка 2010 па верасень 2011 года рэгіянальная група апытала 80 жыхароў Капыльскага раёна: з вёсак Бор, Чарнічнае, Леневічы, Харытонаўка, Слабада-Кучынка, Астрэйкі, Падгорцы, Пясочнае, Лугавая, Пацейкі, Душавы, горада Капыля. Сярод апытаных прадстаўнікоў сельскай інтэлігенцыі 40 чалавек, калгаснікаў – 24, працоўных – 16.

Сабраныя ўспаміны могуць быць выкарыстаны пры правядзенні вечароў памяці, школьных сустрэч, у якасці аўтэнтычнага матэрыялу ў ходзе падрыхтоўкі рэфератаў, даследчых работ школьнікаў.

## Адукацыя на Капыльшчыне ў пасляваеннае дзесяцігоддзе (1945–1955 гг.) як адлюстраванне жыцця краіны

**Успаміны Чэславы Феліксаўны Грыгаровіч**,
1931 года нараджэння, жыхаркі вёскі Вялешына Капыльскага раёна Мінскай вобласці




«…А пачыналася ўсё так. Нарадзілася я на Капыльшчыне ў 1931 годзе ў мнагадзетнай сям'і (усіх пяцёра дзяцей). У 1937 годзе бацьку забралі. Да вайны скончыла два класы Вошкатаўскай сямігодкі. У 3-ці клас пайшла ў 1944 годзе. У 1945 годзе ў адзін дзень у нашай сям'і адбыліся дзве падзеі: вярнуўся з вайны паранены старэйшы брат і памерла васьмігадовая сястрычка ад брушнога тыфу *(хвалюецца)*.

У школе нічога для навучання не было. На сшыткі рэзалі мяхі з карычневай паперы. З буракоў, сажы і вады рыхтавалі чарніла. Вучыліся дзеці старанна з адным падручнікам на клас. Міша Мельнічэнка запісваў усё ў канспект, даваў нам чытаць. Галадалі. Мы хадзілі ў драўляным абутку. Соткі ўзорвалі на сабе: старэйшыя цягалі плуг. У шостым класе здарылася са мной бяда: зваліў брушны тыф, а лекаў не было. Палову 1947 года праляжала ў ложку, а затым поўзала на каленях. Выжыла. Нягледзячы на хваробу, экзамены за 6-ы клас вытрымала паспяхова.

На выпускным балі (скончыла сем класаў) мы з сяброўкамі былі ўжо дарослымі барышнямі. Далей была вучоба ў Нясвіжскім педвучылішчы. Помню, як маці *(плача)* сшыла палатняную торбачку, паклала ў яе бохан

хлеба, які выпякалі разам з размолатай на жорнах бульбай. Есці хацелася заўсёды. У пакоі інтэрната жылі па 30 чалавек. Але было весела: удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці, спявала ў хоры.

Так атрымалася, што ў дзіцячым доме, дзе я пачынала працаваць, апынуліся дзеці з сямей, бацькі якіх у гады вайны знаходзіліся па розныя бакі барыкад (дзеці партызан і паліцаяў). Да кожнага неабходна было знайсці падыход. Дзеці бацькоў не выбіраюць. За працу ў трох дзіцячых дамах Брэсцкай вобласці (Грудапольскі, Маларыцкі, Высакоўскі) атрымала 8 падзяк.

У сярэдзіне 50-ых гадоў вярнулася на Капыльшчыну. Спачатку настаўнікам геаграфіі (скончыла завочна ўніверсітэт), а затым дырэктарам Вошкатаўскай начальнай сярэдняй школы. Разам з настаўнікамі і вучнямі арганізавалі школьнае лясніцтва, пашылі спецыяльную форму. Неаднойчы школа станавілася пераможцам абласных і рэспубліканскіх конкурсаў па экалогіі. У 1975 годзе ўдзельнічалі ў выставе дасягнення народнай гаспадаркі (ВДНГ) у Маскве. Я вельмі ганаруся тым, што ў школе і педвучылішчы вучылася з маці будучага спевака Аляксандра Саладухі Раеўскай Аленай Зянонаўнай.

Самі бачыце, я прайшла працоўны шлях ад выхавальніка дзіцячага дома на Брэстчыне да дырэктара школы ў Капыльскім раёне. Ёсць узнагароды і званні: “Выдатнік народнай асветы”, “Выдатнік асветы СССР”, медалі “За доблесную працу” і “Ветэран працы”. Нават у 1966 годзе ў часопісе “Нататнік агітатара” пра мяне напісалі такія словы: “Светлай душы чалавек, сапраўдны спадарожнік у нашым жыцці”».

**Успаміны Надзеі Піліпаўны Зубовіч,**

1932 года нараджэння, жыхаркі вёскі Слабада-Кучынка Капыльскага раёна Мінскай вобласці



«Я руская па нацыянальнасці. Нарадзілася ў вёсцы Маскоўка (Аленінскі раён Цвярской вобласці). Нас было 8 дзяцей. У мяне тры прозвішчы: Кузняцова (ад бацькоў), Антонава (ад прыёмнай сям’і), Зубовіч (па мужу). Як я апынулася на Беларусі? У гады вайны ў горадзе Слуцку быў нямецкі канцлагер, куды вывезлі ўсю нашу сям’ю. Голад, хваробы і смерць уладарылі ў лагеры. Памёр бацька, маленькі брацік. Выжывалі дзякуючы таму,

што старэйшы брат Сяргей пакідаў межы лагера (дазваляў вартаўнік), збіраў ежу ў навакольных вёсках, нанімаўся на розныя работы. У вёсцы Крушнікі брат сустрэў сям'ю Антонавых, якія вырашылі забраць мяне да сябе (1942 год).

Прыёмныя бацькі цёпла сустрэлі, называлі "дачушкай", вывучылі жаночаму рамяству: вышыванню, вязанню, ткацтву. Пасля вызвалення Чырвонай Арміяй Случчыны пайшла ў Ленінскую сярэднюю школу, якая знаходзілася за пяць кіламетраў ад вёскі. Дакументаў пры мне не было ніякіх, таму далі прозвішча прыёмных бацькоў і запісалі прыкладны год



нараджэння – 1934. У школе вучылася старанна, не магла падвесці новых бацькоў. Вучні пісалі да 4-га класа на газетах, а ў 5-ым класе з'явіліся сшыткі ў лінейку і клетачку. Класы былі вялікія. На перапынках мы спявалі песні, чыталі казкі і прымаўкі, загадвалі загадкі. Было цікава і весела. З канцэртамі мастацкай самадзейнасці наведвалі вёскі Невязцы, Падлессе і інш. Перад кожным святам арганізоўваўся канцэрт, на які збіралася шмат людзей.

Асноўнай ежай у нас былі бульба, агуркі, капуста. У ступе таўклі ільняное семя ("макуха"). Рабілі куццю: вымочвалі ячмень, расціралі ў ступе. Пасля ўборкі калгасных палёў збіралі каласкі. Малоць зерне прыходзілі да нас, бо былі жорны. Сама навучылася расчыняць цеста ў дзяжы і пячы хлеб. Пах той залацістай корачкі адчуваю і сёння.

Класы ў школе былі вялікія. Усе мы марылі далей вучыцца. Дзясяцігодку скончыла ў год смерці Сталіна, памятаю, як людзі вельмі плакалі. Атрымала пашпарт на прозвішча прыёмных бацькоў. Але імя па бацьку запісала сапраўднае – Піліпаўна.

Два гады ў Бабруйскім настаўніцкім інстытуце прайшлі хутка. З 1955 года працавала на Капыльшчыне. Я лічу Беларусь другой Радзімай. Падчас працы ў школе я выдатна асвоіла беларускую мову. Больш за трыццаць гадоў дапамагала навучэнцам Слабадакучынскай сярэдняй школы спасцігаць асновы матэматыкі. Удастоена пяці ўрадавых узнагарод. Сёння з нашай сям'і засталіся мы, сёстры-блізняты Надзея і Люба».

## Успаміны Галіны Іванаўны Салавей,

1946 года нараджэння, жыхаркі вёскі Пацейкі Капыльскага раёна Мінскай вобласці



«Мой бацька Іван Еўдакімавіч, франтавік, быў старшынёй сельсавета, таму, як камуніст вырашыў, што трэба вучыць дзяцей. Школа была спалена падчас акупацыі, і ён прапанаваў сабраць дзетак у сваім доме. А настаўніца Тарасевіч Марыя Андрэеўна жыла за 7 кіламетраў ад нашай вёскі. Даводзілася ёй праходзіць тры вёскі. Узімку яна выходзіла з дому вельмі рана, але ніколі не спазнялася. Вучыла яна першы і трэці класы. Мама працавала ў школе на палову стаўкі прыбіральніцай. Каб апрануцца ў школу, дзеці хадзілі ў калгас церабіць лён, збіралі журавіны на балоце, дралі лыка.

Пасля вайны вельмі хацелася есці. Увесну на полі збіралі леташнюю бульбу (пампушкі), вымывалі з яе крухмал, а затым пяклі бліны. Бліны можна было есці толькі гарачымі. За працадзень у калгасе пасля вайны плацілі капейкі, якіх не давалі. А ў канцы года выдавалі трохі цукру, сланечнікавага алею, збожжа. Мама прымудралася рабіць макароны. Харчавання не хапала. Бацька на балотах паляваў на зайцоў і качак. Тым і жылі.

Я педагог у другім пакаленні. Мой дзед быў настаўнікам яшчэ да рэвалюцыі. Прафесію педагога я палюбіла, калі школа размясцілася ў нашым доме. Маленькай уважліва слухала тлумачэнне настаўніка, старалася запомніць словы, пачала пісаць вершы. Чатыры класы скончыла ўжо ў новай школе. А далей трэба было вучыцца ў школе, якая знаходзілася за 10 кіламетраў. І таму старэйшыя класы прайшлі ў гарадской школе. Дзякуючы настаўніку-франтавіку Івану Якаўлевічу вельмі палюбіла хімію і біялогію. У той час настаўнікаў паважалі.

Як вучыліся? Падручнік адзін на 30 чалавек. На ўсю ноч бралі кнігу і вучылі тэму ўрока па чарзе. Школьныя прыналежнасці: пяро-зорачка, чарніла з соку чырвонага бурака ці сажы, чарнільніца шкляная, якую прыходзілася разаграваць пасля марозу ля печкі. Усё гэта насілі ў палатняных сумачках, якія часта былі залітыя чарніламі.

...Уступалі ў акцябраты і піянеры. Дзеці імкнуліся ўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці. Сама я ўдзельнічала ў пастаноўцы спектакля “Таня-партызанка”. Кожнае лета піянеры дапамагалі калгасу нарыхтоўваць сена. Ураджаі бульбы ў той час былі вельмі маленькія, таму летам

у школе разбівалі агароды, дзе вырошчвалі агуркі, капусту, буракі. Школа мела тры навучальных будынка. Тэхнічкі грэлі імбрычак да абеду. Дзеці елі тое, што прыносілі з сабой. Гэта быў блін або хлеб, кавалачкі смажанага сала, а ў некаторых і гэтага не было. Але ўсе выйшлі ў людзі».

**Успаміны Галіны Аляксандраўны Станілевіч (Шкірыч),**
1932 года нараджэння, жыхаркі горада Капыля Мінскай вобласці



«Да Вялікай Айчыннай вайны я паспела скончыць першы клас. Наш дом згарэў, прыйшлося жыць у суседзяў. Пасля вызвалення Беларусі я пайшла адразу ў трэці клас. Угаворвалі перайсці ў чацвёрты, але настаўніца рускай мовы не дазволіла. У трэцім класе займаліся дзеці 1928, 1929, 1931, 1932, 1934 гадоў нараджэння.

Цэлую восень даводзілася хадзіць у школу басанож: абутку не было. Займаліся школьнікі па хатах. Спачатку на вуліцы Энгельса, а затым у вялікім габрэйскім доме. Класы мелі тонкія дашчаныя перагародкі, можна было нават чуць тлумачэнне настаўніка ў іншым класе. Вучні сядзелі за сталамі, збітымі з дошак, на лаўках па восем чалавек. Першы наш настаўнік Зінаіда Архіпаўна вельмі паважліва і ўважліва ставілася да дзяцей. Большая частка класа была сіротамі. Але жылі ўсе 28 чалавек дружна.

Для чарнілаў разводзілі сажу, пісалі гусінымі або жалезнымі пёрамі на газетах ці папяровых мяшках, з якіх рабілі сшыткі. Затым у 1945 годзе пачалі прывозіць з Мінска бутэлечкі з чарнільным парашком. Падручнік гісторыі быў адзін на ўвесь клас. Хлопцы збіраліся і вучылі ўрокі ў адным доме. Было холадна, так што сядзелі ў кажухах і валёнках. Педагогі былі апранутыя сціпла, але акуратна.

Увосень школьнікі дапамагалі калгасу выбіраць бульбу, хадзілі ў лес з педагогамі нарыхтоўваць дровы для школы. Хлопцы працавалі на роўных з дарослымі. Дровы складалі ў штабелі, а затым на конях дастаўлялі ў школу. У тыя пасляваенныя гады дзеці імкнуліся вучыцца. Прыходзілі нават з-пад Бабоўні за 10 кіламетраў. Большасць з выпускнікоў 1952 года знайшлі сваё месца ў жыцці. Напрыклад, Бычынскі і Кунтыш сталі лётчыкамі, Раман Малюковіч – выкладчыкам

ва ўніверсітэце. Многія сталі педагогамі. А я больш за 30 гадоў выкладала матэматыку ў Капыльскай сярэдняй школе № 2».

**Успаміны Тамары Міхайлаўны Дзенісюк (Шкілевіч),**
1936 года нараджэння, жыхаркі вёскі Слабада-Кучынка
Капыльскага раёна Мінскай вобласці



«Я пайшла ў першы клас Капыльскай сярэдняй школы ў 1944 годзе. Да школы мама Аляксандра Якаўлеўна здолела зладзіць мне і брату Уладзіміру адну безрукаўку на дваіх. Хадзілі мы ў абутку, пашытым з аўтамабільнай пакрышкі, і насілі ўсё гэта па чарзе (я вучылася ў першую змену, брат – у другую). Мне трэба было паспець прыбегчы дадому пасля заняткаў, каб у школу не спазніўся брат.

Добра запомніла, як вучылі па чарзе геаграфію. Падручнік быў распісаны па гадзінах сярод дзяцей. Добра засвоіўшы грамату, пісала лісты на фронт бацьку, бо мама не ўмела пісаць. І калі там, дзесьці ў Польшчы, бацька ўбачыў, што я пішу лісты і добра вучуся, прасіў перадаць вялізную падзяку настаўніцы Ганне Іванаўне. І гэты ліст педагог зачытала перад усім класам і заплакала. Там, на фронце, салдаты цанілі працу настаўніка!

Вучыліся па хатах. У каго былі бацькі, тыя прыносілі ў клас дровы. Каб купіць падручнікі, сшыткі, алоўкі, улетку разам з братам збіралі ягады, грыбы, якія прадавалі на рынку, працавалі на будоўлі і ў ганчарнай майстэрні.

Быў у мяне аднакласнік, якога звалі Міша Звераў. У час вайны ён страціў маці. Бацька вярнуўся з фронту з асколкамі ў целе. Доўга не пажыў. Міша і яго сястрычка сталі сіротамі. Яе забралі ў дзіцячы дом, а за хлопца заступіліся суседзі і дырэктар школы Сташэўскі Вікенцій Вікенцьевіч. Міша жыў адзін. Крыху дапамагала суседка. Адзін раз у дзень яго кармілі ў раённай сталоўцы. Часта заходзіў да мяне рыхтаваць урокі. Бывала, бягу ў школу, а ён стаіць у чарзе за хлебам. Пасля ён стаў аграномам.

Мой выпускны клас стаў першым поўным пасляваенным выпускам 1954 года (24 выпускнікі). Усе ўладкаваліся ў жыцці: 5 урачоў, 4 настаўніка, інжынер-металург, агранам, 4 электрыка-механіка, 2 будаўніка, заатэхнік, некалькі чалавек сталі рабочымі. У 2005 годзе мы ўбачыліся на вечары сустрэчы з выпускнікамі (з 24 чалавек нас

засталося толькі 12). Я скончыла Брэсцкі педінстытут па спецыяльнасці настаўнік хіміі і біялогіі. Узначальвала Капыльскі метадычны кабінет, а затым больш за 20 гадоў выкладала хімію».

**Успаміны Тамары Аляксандраўны Шкірыч (Мысліцкая),**
1939 года нараджэння, жыхаркі горада Капыля Мінскай вобласці



«У школу пайшла ў 1945 годзе. Наша сям'я была мнагадзетнай. Бацька, сувязны партызанскага атрада імя В. І. Чапаева, быў расстраляны немцамі. Школа знаходзілася за два кіламетры ў вёсцы Слабада-Кучынка. Узімку, калі ішоў вялікі снег, старэйшыя хлопцы пратоптвалі малодшым дарогу. Боты былі не ва ўсіх, летам плялі лапці. Са шпалер рабілі сшыткі. Мне мама пашыла палатняную торбу з некалькімі кішэнькамі: для сшыткаў, для палачак, для чарнільніцы. Вельмі хацелася вучыцца.

Сталы ў школе былі збітыя з дошак, іх называлі “казлы”. Для маленькіх дзяцей яны здаваліся такімі высокімі, што чытаць і пісаць даводзілася стоячы. Наша сям'я, як і ўсе, здавала дзяржаве падаткі. Было цяжка. Ратавала толькі карова. Масла таксама здавалі, а перагон пілі, варылі зацірку. На сняданак елі бульбу з малаком. У школу мама давала кавалак хлеба і памідоры, якія зрывалі яшчэ зялёнымі і клалі ў сена для захавання. Ратавала тое, што мама ўмела шыць боты. На канікулах пастаянна працавалі ў калгасе: палолі лён, збіралі каласкі, сушылі сена. Прыходзілася развязваць снапы каля малатарні. На працу ішлі з песнямі. Для таго каб хоць што-небудзь атрымаць у калгасе, акрамя працадзён, бралі дадому сушыць лён. На падручнікі і сшыткі зараблялі нарыхтоўкай торфу. За гэта адразу плацілі грошы.

Вучыліся па хатах: тры класа ў адным доме. Запомніўся Новы год. Я спявала каля елкі. Партрэты кіраўнікоў дзяржавы (Сталіна, Варашылава і інш.) упрыгожвалі дзеразой, якая і ўзімку была зялёнай.

У школе ўсе дзяўчынкі былі закаханы ў настаўніка ваеннай падрыхтоўкі Сухната Генадзія Канстанцінавіча, былога ваеннага. Яшчэ запомнілася Любецкая Леаніда Іванаўна, настаўніца рускай мовы, маладзенькая, статная, прыгожая, у джэмперы з паяском. З настаўніцай беларускай мовы Нагавіцынай Ганнай Міхайлаўнай ладзілі спектаклі, “Паўлінку” абавязкова. Выступалі ў розных вёсках.

Пасля школы вучылася два гады ў педінстытуце. Але захварэла, адказвалі ногі. Працавала піянерскай важатай, загадчыкам бібліятэкі, інспектарам аддзела культуры. Адначасова займалася на курсах дырыжораў хора ў Белдзяржфілармоніі. Дваццаць адзін год узначальвала Капыльскі ЗАГС. Адной з першых на Капыльшчыне зарэгістрыравала залатое вяселле».

**Успаміны Леаніда Міхайлавіча Вілейкі,**
1937 года нараджэння, жыхара горада Мінска

«У гады вайны я стаў сіратой. За сувязь з партызанамі ў 1942 годзе быў расстраляны бацька. У школу я пайшоў у 1945 годзе. У класе было



больш за 30 чалавек. Як і ва ўсіх дзяцей таго часу, адзін падручнік на 30 чалавек. Пісалі на чым прыйдзецца, толькі б папера была і заточаная палачка. У школу пайшоў у картовых штанах, якія былі ўсе ў заплатах. У жыце знайшоў шынель. Яе падагналі па росту.

Запомнілася, як ставілі елку, прыбіралі цацкамі. Кожны клас рыхтаваў нумары мастацкай самадзейнасці. Дзеці актыўна займаліся спортам (бег, валейбол). Па вечарах збіраліся каля школы дзеці і дарослыя, гулялі ў шахматы, гарадкі.

У адносінах да дзяўчынак мы былі сціплыя. Ніхто не дапускаў ніякіх вольнасцей. У першыя пасляваенныя гады дзяўчынкі і хлопчыкі слаба адрозніваліся: галодныя, аднолькава апранутыя. А прыходзілася, акрамя вучобы і падрыхтоўкі да ўрокаў, працаваць па гаспадарцы.

У пасляваенны час усе дзеці вельмі паважалі вайскоўцаў, ганарыліся імі. Вось чаму пасля школы я паступіў у ваеннае вучылішча. Прайшоў шлях ад лейтэнанта да палкоўніка, ад намесніка камандзіра роты да начальніка палітаддзела вайсковай арміі. Прымаў удзел у выпрабаванні танкаў Т-55, Т-64, Т-72, адным з першых фарсіраваў Днепр па дне ў раёне Звянігарада. Узнагароджаны двума ордэнамі і дваццацю двума медалямі».

*Запісаў Барыс Мікалаевіч Дзенісюк,*
*намеснік дырэктара ДУА «Слабадакучынская сярэдняя школа» Капыльскага раёна*

## Метад вуснай гісторыі ў дапамогу настаўніку

***Святлана Міхайлаўна Кубрак,***
*настаўнік гісторыі ДУА «Гімназія № 1 г. Капыля»*

З цягам часу здараецца так, што паўсядзённае жыццё нядаўніх пакаленняў пераўтвараецца ў статыстычныя дадзеныя па тых ці іншых накірунках рэчаіснасці. Думкі і перажыванні асобных людзей, якія стваралі гэтую рэчаіснасць ці вымушаны былі жыць у ёй, губляюцца, забываюцца, застаюцца незапатрабаванымі. Вуснагістарычнае даследаванне пасляваеннай адукацыі дазваляе захаваць у памяці нашчадкаў своеасаблівасці адукацыйнага быцця, сабраць каштоўныя гістарычныя сведчанні, дакументальныя крыніцы.

За гады вайны ў Капыльскім раёне ўсе школьныя памяшканні былі спаленыя або разбураныя. Спатрэбілася шмат намаганняў для іх аднаўлення, рамонту, набыцця школьнай мэблі, падручнікаў, наглядных дапаможнікаў на 1945/1946 навучальны год.

У гады вайны спалена была і школа, якая знаходзілася на месцы цяперашняй гімназіі № 1 горада Капыля, застаўся толькі паўразбураны будынак з чырвонай цэглы. Першапачаткова дзеці вучыліся ў будынку, які знаходзіўся на тэрыторыі цяперашняга аддзела ўнутраных спраў, што на вуліцы Камсамольскай.

Там было 4 класы і настаўніцкая. Вучыліся па ўзросце. Пазней падзяліліся на дзве школы: рускую і беларускую. Капыльская руская пачатковая сярэдняя школа засталася ў гэтым жа будынку (1–4 класы), частка класаў размясцілася ў прыватных дамах па вуліцы Энгельса, завулку Пушкіна (5–7 класы).

Беларуская сярэдняя школа перайшла ў даваенны будынак яўрэйскай школы. Першы клас некалькі гадоў размяшчаўся ў будынку па вуліцы Камсамольскай, затым яго перавялі ў будынак паліклінікі. Дзеці вучыліся ў жылым доме Тамашэўскай Тамары Мікітаўны, якая пражывае па вуліцы Энгельса. Дзеці займаліся ў зале, прыкладна 15 чалавек, у той час як гаспадыня з трыма дачкамі знаходзіліся ў спальні і кухні.

У 1946 годзе ўлады раёна перавезлі на тэрыторыю сённяшняй гімназіі № 1 вялікі па памерах дом і прыстасавалі яго пад школу.

## Успаміны Анны Іосіфаўны Арлоўскай,

1941 года нараджэння, жыхаркі горада Капыля, старшыні ветэранскай арганізацыі райсавета ветэранаў педагагічнай працы

«1 верасня 1948 года мяне, сямігадовую дзяўчынку, прывяла мама ў драўляны дом № 21 па вуліцы Карла Маркса. На двары ля школы было шмат дзяцей: маіх аднагодкаў і старэйшых за мяне. Усе шумелі, хвалявaліся. Шум спыніўся, калі з будынка выйшла настаўніца, маладая прыгожая жанчына. Звалі яе Алена Антонаўна Карнейчык.

У класе стаялі парты, пафарбаваныя ў чорны колер. Мы селі за парты і ўважліва слухалі. Працаваць з намі было складана. Сярод нас, сямігодак, было шмат "пераросткаў" (так называлі дзяцей, якія падчас вайны не маглі вучыцца). Не хапала падручнікаў. Адзін падручнік быў на дзесяць чалавек. "Русанкаўцы" бралі на дзве гадзіны падручнік «Роднае слова», перадавалі нам, "Варашылаўцам", а задачнікам першымі карысталіся мы і своечасова перадавалі на "Русанкі". Пісалі алоўкамі на чым папала, бо сшыткаў не было. А калі мама купляла іх у каго-небудзь ці выменьвала на прадукты (яйкі, сала), у нас была велізарная радасць.

У другім класе працягвалі вучыцца ў тым самым доме № 21 па вуліцы Карла Маркса, але ўжо за драўлянай перагародкай. Клас быў меншы, ды і за партамі сядзелі па двое. Узімку было вельмі холадна, адна паліўная не магла сагрэць два класы. Потым наш 3 "Б" вучыўся ўжо ў вялікай школе, але ў другую змену.

Пісалі мы драўлянымі ручкамі з добрым пяром. Шкляныя чарніліцы прыносілі з хаты. На апошніх уроках запальвалі свечкі, бо электрычнасць часта адключалі. Школа была перапоўненая. Да нас прыходзілі вучні з суседніх вёсак: Бабоўні, Выні, Нізкавіч, Дусаеўшчыны і інш. Неўзабаве нам абвясцілі аб будаўніцтве новай школы.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, у нашай цеснай школе бурліла цікавае жыццё. Была арганізавана садружнасць камсамольцаў-старшакласнікаў з камсамольцамі-настаўнікамі. Сумесна рыхтавалі яны канцэрты мастацкай самадзейнасці для бацькоў і жыхароў бліжэйшых вёсак».

## Успаміны Фелікса Аляксандравіча Мароза,

1936 года нараджэння, жыхара горада Мінска

«Сшыткаў тады не было, таму пісалі на газетах, бланках, розных паперах, што знаходзілі ў развалінах будынкаў. Пра ранцы і партфелі і гаворкі не было, кніжкі даводзілася насіць у палатняных мяшках.

Запомніліся і чарніліцы-невылівайкі, якія не вельмі адпавядалі сваёй назве, бо нашы сумкі заўсёды былі залітыя чарніламі.

У капыльскія школы хадзілі дзеці з суседніх вёсак: Рыма, Велешына, Якубовічы, Пацейкі і інш. Першы час зімой вучні прыносілі з сабой дровы, па два-тры палена ў залежнасці ад узросту, каб тапіць печ у класе. У халодныя дні часта сядзелі на ўроках у паліто, малодшых адпускалі дадому. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, звязаныя з пераходам да мірнага жыцця, дзеці імкнуліся вучыцца, прымалі ўдзел у мастацкай самадзейнасці, спартыўных спаборніцтвах, дапамагалі дарослым аднаўляць разбураную вайной гаспадарку, з радасцю наведвалі школу і з павагай ставіліся да настаўніка».

## Успаміны Ніны Яўгенаўны Язвінскай,

1936 года нараджэння, жыхаркі вёскі Браткава Капыльскага раёна Мінскай вобласці



«Пасля вызвалення Мінскай вобласці ў вёсцы Браткава ў 1944 годзе была адкрыта сямігодка. Школа размяшчалася ў некалькіх вясковых дамах. Кожны клас вучыўся ў асобным доме. Ішлі ў школу дзеці розных узростаў. Хто вучыўся да вайны, пайшлі ў наступны клас, а хто не вучыўся наогул – у першы. Аддаваць свае хаты на школы згаджаліся ў асноўным удовы, паколькі дзяржава плаціла хоць нейкія грошы. Школы знаходзіліся ў Чаркас Соф’і Іосіфаўны, Новік Кацярыны Фёдараўны, Стралец Кацярыны Васільеўны, Новіка Васіля Іванавіча, Кузьміч Надзеі Іванаўны.

Усе настаўнікі са сваімі сем’ямі і дырэктар школы Галаток Іван Іванавіч жылі па хатах-кватэрах. Дзяцей было шмат, вучыліся ў дзве змены. Урокі былі па 45 хвілін. Здаралася так, што ў старэйшых класах настаўнік прыходзіў у адзін дом, а на другі ўрок бег на край вёскі ў іншы.

Вучыліся мы на збітых з дошак сталах, па баках якіх стаялі лаўкі, на якіх і сядзелі. Дзяцей у школе не кармілі. Яны бралі з сабой гарбузовыя семечкі, яблыкі, грушы. Хлеба амаль не было. Таму часта было такое, калі гаспадыня хаты выходзіла на працу, дзеці на перапынку адкрывалі чужую печ і з’ядалі ўсё, што там рыхтавалася на абед: кашу, капусту.

Настаўнікамі пасля вайны працавалі Конарава Аляксандра Якаўлеўна, Станевіч Пётр Андрэевіч, Варвашэня Алег Мікалаевіч, Байдалін Сцяпан

Аляксандравіч. Першы выпуск сямігодкі быў у 1947 годзе. У пасляваенны час і ў навакольных вёсках (каля вёскі Браткава) былі адкрыты пачатковыя школы: Весялкоўская (Пузаўская), якая дзейнічала да 1972 года; Заракаўская – да 1978 года, Дзегцянская – да 1980 года».

*Запісала Святлана Міхайлаўна Кубрак,*
*настаўнік гісторыі ДУА «Гімназія № 1 г. Капыля»*

**Успаміны Була Міхаіла Рыгоравіча,**
1918 года нараджэння, жыхара вёскі Жавалкі Капыльскага раёна Мінскай вобласці

«Пасля заканчэння педкурсаў у Слуцкім педвучылішчы ў 1936 годзе да вайны працаваў у Пясачанскім дзіцячым доме. З 1946 па 1948 годы быў загадчыкам пачатковай школы Какорычскага дзіцячага дома імя А. Матросава. Былы выхаванец дзіцячага дома Грышка Левін перанёс пакуты ў лагеры смерці. Яго вызвалілі чырвонаармейцы і залічылі ў сваю частку, ён стаў сынам палка. Хлопчык помсціў ворагу за сваю маці, спаленую ў лагеры смерці. Калі на вачах Грышы загінуў кулямётчык, ён паўтарыў подзвіг юнай Нюры Кіжаватавай: стаў у кулямёта і “касіў” надыходзячых гітлераўцаў, за што быў узнагароджаны медалём “За адвагу”. Перамогу сустрэў ля сцен Рэйхстага. Другі выхаванец дзіцячага дома Міша Слухоўскі стаў сынам партызанскага атрада. Немцы забілі яго маці, а Мішу ўдарылі кінжалам па галаве, затым падпалілі дом. Ледзь не згарэў дзесяцігадовы хлопчык, але ў вёску паспелі прыйсці партызаны. З палаючага дома ў несвядомым стане Мішу вынес партызан. З партызанамі хлопчык хадзіў у разведку. Апрануты ў ірваную вопратку, ён не выклікаў падазрэнняў.

З 1948 года я працаваў у Жавальскай пачатковай школе разам з жонкай Ганнай Трафімаўнай. Школа размяшчалася ў былой сядзібе пана Расадоўскага. У двух памяшканнях пачатковай школы займалася 70 чалавек, было шмат пераросткаў, але, нягледзячы на цяжкія ўмовы жыцця, дзеці хацелі вучыцца. Бацькі з павагай адносіліся да школы і настаўнікаў, дапамагалі, чым маглі: нарыхтоўвалі дровы, апрацоўвалі прышкольны ўчастак, дзе вырошчвалі бульбу, буракі, моркву, ўпарадкоўвалі тэрыторыі школы, разбівалі клумбы, высадзілі алею. І сёння былыя выпускнікі Жавальскай школы прыходзяць адпачыць у школьны парк, прыводзяць з сабой дзяцей і ўнукаў, успамінаюць сваё дзяцінства. Дзеці хадзілі ў саматканым адзенні, лапцях з лыка. Ногі ўкручвалі анучамі

і завязвалі доўгімі аборамі, каб было цёпла. Цяжкі быт панаваў і ў хатах вучняў. Спалі на сенніках (мяхах), набітых саломай. Праз некалькі тыдняў салома збівалася, яе мянялі, сеннікі мылі.

З 1949 года можна было купіць чарніла ў шкляных бутэлечках. За кожным сталом сядзела па 6-8 вучняў, стаялі чарнільніцы, у якія настаўніца нілівала сіняе чарніла. А на настаўніцкім стале знаходзілася чырвонае чарніла для праверкі сшыткаў. У той час вялікую ўвагу звярталі на чыстапісанне. У школе праводзілі конкурс сшыткаў, а лепшыя сшыткі адвозілі ў раён.

Паколькі многія мужчыны загінулі на фронце, то старэйшыя вучні дапамагалі дзядам і жанчынам араць, баранаваць, касіць траву жывёле (аднавілі ферму ў калгасе). У каго не было кароў, трымалі авечак і коз. Ураджаі зерневых культур былі слабыя. Каб пракарміць жывёлу, вязалі пучкі лазы, бярозы, крапівы, якую распарвалі ўзімку. Гэтым кармілі курэй і свіней. Толькі працай можна было выжыць.

Зараз мне 92 гады. Пахаваў жонку, дзве дачкі. Зімой жыву ў Мінску, даглядае мяне ўнучка, а летам еду ў родную вёску. Там мая Радзіма, там мае карані!».

**Успаміны Козел Марыі Васільеўны**,

1930 года нараджэння, жыхаркі вёскі Пацейкі Капыльскага раёна Мінскай вобласці

«Вайна чорнай паласой прайшла па нашай сям'і. Мае два браты змагаліся ў партызанах. Нехта данёс. Мне з бацькам удалося вырвацца з кіпцюроў карнікаў *(плача, голас дрыжыць),* а маці і палутарагадовы брацік загінулі. У верасні 1944 года старэйшы мой брат узначаліў Уздзенскі дзіцячы дом. Забраў і мяне, таму што бацька ажаніўся ў другі раз, а я з болем на сэрцы не магла забыць маму. З аднагодкамі было крыху лягчэй перажыць страту блізкага чалавека.

Праз некалькі гадоў вярнулася ў родную вёску. Жылі бедна. Дырэктар школы Рашкевіч Павел Васільевіч і класны кіраўнік Гарэлава Ларыса Ягораўна вельмі добра да нас адносіліся. Звярталася вялікая ўвага на вучобу і дысцыпліну. Арганізавалі вучнёўскі камітэт: разбіралі тых, хто дрэнна вучыўся. Але такіх было няшмат. Падручнікаў не хапала. Помню, як брат прыслаў з Гродна падручнік па геаграфіі для шостага класа. Дык мы вучылі гэты прадмет па чарзе вёскамі: панядзелак – дзеці з Пацеек, аўторак – з Душава, серада – з Траянава.

У 1947 годзе я паступіла ў Нясвіжскае педвучылішча. Увесь час вельмі хацелася есці. Мачаха, з якой у нас склаліся добрыя адносіны, давала ў дарогу, а ездзіла я аж за 17 кіламетраў, акраец хлеба і стакан сметанковага масла. Студэнтам плацілі невялічкую стыпендыю, якой хапала толькі на тыдзень. На ежу зараблялі тым, што дапамагалі выконваць дамашнія заданні аднакурснікам з Заходняй Беларусі.

Я добра спявала. І нас з сяброўкай Наташай Уласовіч запрасілі займацца ў хоры. Выдатны педагог і кампазітар Косач Павел Мікалаевіч займаўся з намі ў сваім маленькім пакойчыку. Пад акампанемент піяніна мы спявалі рамансы. Добры чалавек частаваў нас шклянкай гарбаты, дзвюма кавалачкамі цукру і кавалачкам хлеба. І як хацелася есці, я пытала ў сяброўкі: "Калі рэпетыцыя?". Цяпер мне праз 60 гадоў крышачку і сорамна. Што ж зробіш?! Няхай даруе мне мой любімы чалавек *(уздыхае).*

Вучылася я старанна: вельмі хацелася выйсці ў людзі. І каб якасна падрыхтавацца да заняткаў, мы з Янінай Руднік пасля 24.00 (у інтэрнаце тушылі святло) займаліся дататкова. У педвучылішчы былі тры групы: пачатковыя класы, піянерважатыя і старэйшыя класы.

Вярнулася я ў родную школу. Выкладала гісторыю. Дадаткова скончыла Баранавіцкі настаўніцкі інстытут і Мінскі педінстытут.

Галоўнымі напрамкамі вучэбна-выхаваўчага працэсу з'яўляліся барацьба за якасць ведаў, выхаванне школьнікаў на баявых і працоўных традыцыях народа, удзел у грамадска-карыснай працы. Развіццё пазнавальнай актыўнасці, лагічнага мыслення, навыкаў самастойнай працы з'яўляліся асноўнымі кірункамі ў арганізацыі вучэбнай працы.

Незабыўнай старонкай у гісторыі школы стаў прыезд маці Сяргея Цюленіна, якая дала згоду на прысваенне піянерскай дружыне імя яе сына. У 1970 годзе мне прысвоілі ганаровае званне "Заслужаны настаўнік БССР". З выпуска 1947 года нас засталося зусім мала: Уладзімір Сергіеня і Валянціна Гарбацэвіч – былыя педагогі, Уладзімір Кузьміч – фельчар».

*Запісаў Вадзім Мікалаевіч Салавей,*
*настаўнік гісторыі*
*ДУА «Пацейкаўская сярэдняя школа»*
*Капыльскага раёна*

## Пасляваеннае аднаўленне гаспадаркі на Любаншчыне

## Кут свой родны з руін узнялі

***Лідзія Аляксееўна Хаміцэвіч**, бібліятэкар;*
***Анатоль Іосіфавіч Вялічка**, настаўнік гісторыі*
*ДУА «Соснаўская сярэдняя школа № 1»*
*Любанскага раёна Мінскай вобласці*

З руін паўсталі вёскі,
Пасёлкі, гарады.
Стваральнай працы людзі
Нам прыкладам заўжды.
*А. Вялічка «Сосны»*

Далучыўшыся да праекту Мінскага абласнога ІРА «Зберагаючы гісторыю, ствараем будучыню», творчая група педагогаў Любаншчыны – Л. А. Хаміцэвіч, бібліятэкар, А. І. Вялічка, настаўнік гісторыі ДУА «Соснаўская сярэдняя школа № 1»; В. М. Белькевіч, настаўнік гісторыі ДУА «Сарочская сярэдняя школа Любанскага раёна»; Р. М. Ляўчэня, настаўнік гісторыі ДУА «Загальскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад–сярэдняя школа Любанскага раёна» – працавала ў цесным супрацоўніцтве з раённым аддзелам адукацыі, адміністрацыяй устаноў адукацыі, што дазволіла аб’яднаць намаганні дзеля якаснай рэалізацыі праектнага даследавання.

Вуснагістарычная тэма кранала праблему жыцця савецкага чалавека ў пасляваенныя гады ўзнаўлення гаспадаркі. Цікавасць да тэмы была выклікана вядомымі фактамі рэгіянальнай гісторыі. Напрыклад, у пасёлку Сосны фашысты ў час карнай аперацыі спалілі 13 двухпавярховых дамоў, пошту, тэлеграф, скотныя двары, электрастанцыю, пеньказавод, пакгаузы, свірны, склады; угналі жывёлу; вывезлі трактары, машыны і прылады; узарвалі лакамабіль, а чыгуначную лінію і асушальную сетку разбурылі. Усяго было нанесена страт саўгасу «Дзесяць год БССР» на суму 11 621 337 рублёў. Аднак гаспадарка пасля вайны была ўзноўлена за непрацяглы час. Як і якой цаной удалося людзям гэта зрабіць?

З мэтай збору ўспамінаў гістарычных сведкаў у пасёлку Сосны, весках Загалле і Сарачы на працягу кастрычніка-лістапада 2010 года былі праведзены «гутарковыя кафэ», «вечар-партрэт», прысвечаны 115 гадавіне з дня нараджэння Цімафея Ягоравіча Смірнова, экскурсія ў былы калгас імя БВА, які дзесяць год узначальваў Ц. Я. Смірноў, нястомны будаўнік і арганізатар грамадскага жыцця, у гонар якога названы вуліцы ў пасёлку

Сосны і вёсцы Камуна. За азначаны перыяд былі праведзены інтэрв'ю з адзінаццаццю гістарычнымі сведкамі, мясцовымі жыхарамі.

Накірункамі збору гістарычных сведчанняў сталі наступныя:

- развіццё гаспадаркі;
- умовы працы людзей;
- умовы пражывання;
- думкі, надзеі і спадзяванні.

Сустрэчы з мясцовымі жыхарамі праходзілі ў атмасферы даверу і ўзаемаразумення, паколькі ўдзельнікамі з'яўляліся не толькі ветэраны вайны і працы, настаўнікі, але і маладшае пакаленне. Ветэраны выкарысталі магчымасць распавесці ўласную праўду аб пасляваенным жыцці. Праведзеная работа дапамагла назапасіць цікавы, змястоўны матэрыял аб узнаўленні гаспадаркі, выверыць яго з архіўнымі дакументамі і матэрыяламі кнігі «Памяць» Любанскага раёна з мэтай захавання гістарычнай паслядоўнасці і справядлівай рэчаіснасці тых падзей.

Аб выніках праведзенай работы мясцовае супольніцтва было інфармавана пры дапамозе раённай газеты «Голас Любаншчыны». Відэазапіс «гутарковага кафэ», успаміны ветэранаў, матэрыялы тагачаснага друку дазволілі скласці буклеты, рукапісныя часопісы, слайд-прэзентацыю грунтоўнай, цікавай і змястоўнай работы ў галіне вуснага даследавання актуальных праблем гісторыі XX стагоддзя.

**Успаміны Караваевай Ніны Андрэеўны,**

1929 года нараджэння, жыхаркі аграгарадка Сосны Любанскага раёна Мінскай вобласці

«Нарадзілася я ў вёсцы Пасталы 16 верасня 1929 года. У гэтым жа годзе наша сям'я пераехала ў саўгас. Бацька Андрэй Мацвеевіч працаваў трактарыстам, маці Ганна Трафімаўна – на палявых работах. У той час сеялі канаплю. У сям'і было чацвёра дзяцей. Жылі ў дамах. Было 10 двухпавярховых дамоў па цяперашняй Савецкай вуліцы. У пятым доме на першым паверсе была наша кватэра. Па суседству жылі Хрысцючыха, Мяляшчэня, а наверсе – Free Бародзіна Яўгенія, Пайграй Ульяна, Галка Вольга. Жылі добра. Трымалі карову, свіней, курэй. Вакол вёскі быў лес, каля якога знаходзіліся сараі.

У 1941 годзе пачалася вайна. Упершыню бамбіў самалёт… З Пасталоў ішла да нас жалезная дарога, а вузкакалейка – у Камуну. З Пасталоў шпалы абразалі, доскі адпраўлялі. Бальніца да вайны была там,

дзе цяпер клуб, а клуб быў, дзе магазін вялікі зараз. Яшчэ ля клуба была вялікая школа, у якой працавалі І. А. Захарык і В. А. Бяліці.

У час вайны наша сям'я жыла ў пасёлку. Колішняй саўгаснай гаспадаркай кіраваў Прорвіч Арцём (бацька Марыі Прорвіч, яна ўжо памерла).

Аднойчы наляцеў карацельны атрад. Пахваталі мужчын, праверылі ўсе хаты. Мужчын паклалі на зямлю, а потым 9 чалавек растралялі. Забілі Калыску Васіля, Труханаўца Кірыла і інш.

Прыйшлі да нас у хату немцы. Адзін прыставіў вінтоўку маме да горла, але не выстрэліў, адпусціў. Напужаныя, схапілі мы вузлы і пачалі ўцякаць. Немцы хацелі загнаць усіх у канюшню (яна была на месцы барака за Патачыцам) і спаліць. Саломы навезлі. Але не зрабілі гэтага. Самі ж немцы размясціліся ў бальніцы, а калі адыходзілі, спапалілі і клуб, і ўсе іншыя будынкі.

Партызанскі атрад Каўпака дзейнічаў у нашых мясцінах. Бацька наш глядзеў коней, авечак. Іх патрэбна было даставіць партызанам. Мы хаваліся ў паграбах, а затым пайшлі ў лес. Разам з намі пайшлі сем'і Смірнова Пятра, Савельевы. Сядзелі ў Камар Мосе, вялікае балота ў 10 кіламетрах ад сяла Ражкі, аж пакуль не скончылася вайна. Калі вярталіся ў саўгас, пусцілі ўперад кароў, а за імі ішлі самі, каб не трапіць на міны. Усё было замініравана.

Памятаю, што да вайны знаходзіўся канапляны завод, дзе зараз Глаз Н. жыве, такі кірпічны будынак. На гэтым заводзе Мані Прасвіркінай адарвала руку. Вадакачка была, дзе Скрыган Г. (сарай цяпер). Канюшня была побач. Пасля вайны не было, дзе жыць. Адразу жылі ў доме, дзе зараз жыве Бажок, потым пабудавалі зямлянкі, дзе Міцкевіча хата стаіць. Сям'ю пасялілі ў зямлянку. Побач жылі Халопавы, Поцягі, Пажыган. У зямлянцы быў палочак. Спалі на палу, на сене. Потым прыехалі Марціновіч Арына, Фядора, Палічэўская Пелагея, Заяц Міхаіл з жонкаю. Зямлянка была доўгаю, перагароджаная папалам. Печ зрабілі ў зямлянцы, есці варылі. Зрабілі баню, дзе Коўган Л. жыве, там мыліся.

На работу я пайшла ў маі 1946 года, на палявыя работы. Шыманоў Аляксандр Максімавіч быў рабачкомам. Кіраваў гаспадаркай Сушчэня. Тут была пабудавана электрастанцыя, дзе дом Анатолія Караваева і Чарнышовых, а потым яе перанеслі на гатар.

Саўчык Фёдар, Калыска Павел Лаўрэнцьевіч, Валасевіч Уладзімір і Кожух Сцяпан былі брыгадзірамі паляводчых брыгад. Сеялі ўдабрэнне рукамі. На канях падвозілі, рабілі як ішакі, без выхадных. Пазней з'явіліся сеялкі. У 1949 годзе адправіў Саўчык мяне на сеялку, на якой я працавала

да 1984 года. Саўгас займаў па сяўбе першыя месцы. Працавала з Давыдовічам Філіпам, Крывалап Еўдакіяй.

Займаліся па вечарах мастацкай самадзейнасцю, спявалі, танцавалі, ездзілі ў Бабруйск, у Мінск і па раёнах выступалі. Было весела. У 1967 годзе была на ВДНГ у Маскве. Са мною былі Зіна Бабунька, Анатоль Коўган, Надзя Куневіч і Руды Міхаіл. Атрымала ў падарунак на ВДНГ швейную машыну “Падольская”. У 1984 годзе пайшла на пенсію».

*Запісала Валянціна Мікалаеўна Рыбак,*
*настаўніца англійскай мовы*
*ДУА «Сонаўская сярэдняя школа № 1»*
*Любанскага раёна*

**Успаміны Крывальцэвіч Ганны Пятроўны,**
1930 года нараджэння, жыхаркі аграгарадка Сосны Любанскага раёна Мінскай вобласці

«У саўгас мы прыехалі ў 1933 годзе. Мне тады было толькі 9 гадоў. Аднак помню ўсё. Было хораша. Самым вялікім быў канапляны завод. Працавалі ўсе. Жалі канаплю, сушылі, пераціралі. Гатовае валакно адпраўлялі на Жыткавічы. Да Жыткавіч працавала чыгунка. Крупнарагатага ската ў саўгасе не было. Толькі некалькі кароў (для сваіх патрэб). Домікі ў асноўным былі двухпавярховыя, была школа, клуб. Маці працавала ў школе тэхнічкай. Людзі не толькі старанна працавалі, але і ўмелі адпачываць. У клубе былі канцэрты, танцы. Маці часта брала мяне з сабою. Жылося цяжка, грошай не было, але людзі жылі вельмі дружна. А яшчэ ў саўгасе была сталовая. Усе харчаваліся ў ёй. Дома есці не варылі. Да вайны я закончыла першы клас.

Як пачалася вайна? Дарослыя былі ў клубе. І тут пачалося нешта страшнае: зашумеў самалёт, пачалася бамбёжка. Ратаваліся ў канаплі. Некаторыя пазабягалі нават у вёску Забярэзінец. На другі дзень вярнуліся. Мужчын забіралі ў армію. А мы спалі ў скляпах, баяліся самалётаў. Немцы пазаганялі ў склад мужчын. Трымалі да вечара. Дзевяць чалавек забілі, астатніх выпусцілі. Пачалі паліць вёску. Уцалелі толькі два дамы. Усё помню, страшна было.

Як спалілі саўгас, мы з маці паехалі да радні ў вёску Мялешкавічы Мазырскага раёна. Пасля вызвалення зноў вярнуліся сюды. Маці забрала з сабою ўсю радню. Жылі спачатку ў зямлянцы адначасова восем сямей. Спалі на саломе. Калі раскідалі чыгунку, нацягалі шпал і зрабілі хатку.

Працавалі ўсюды, ды яшчэ і на валах: удзень жнём, ноччу возім снапы. Ніколі дома не была. А пасля 36 гадоў даіла кароў. Цяжка было. Усё трэба было рабіць уручную. Заробіш якую капейку – едзеш у Бабруйск, каб купіць што паесці.

Пачалі аднаўляць спалены пасёлак. Першай зрабілі сталовую. Адначасова гэта быў і клуб. Прывозілі кіно. Помню, як цяпер, першы фільм “Новы дом”. Прыязджалі фотакарэспандэнты, фатаграфавалі нас у час працы. А перад фільмам заўсёды паказвалі кінажурналы. За ўвесь час працы мною атрымана многа ўзнагарод, прэмій. На жаль, яны не захаваліся. На ўсё жыццё запомнілася, што людзі жылі вельмі дружна, старанна працавалі, дапамагалі адзін аднаму і не пілі, як цяпер».

*Запісала Тамара Барысаўна Хаміцэвіч,*
*настаўніца беларускай мовы*
*ДУА «Соснаўская сярэдняя школа № 1»*
*Любанскага раёна*

## Успаміны Цішкоўскай Яфіміі Адамаўны,

1920 года нараджэння, жыхаркі аграгарадка Сосны Любанскага раёна Мінскай вобласці

«Нарадзілася я ў 1920 годзе, даты нараджэння не помню.

У 1931 годзе з зусім незнаёмым чалавекам прыехала да свайго брата Дзям’яна, які працаваў трактарыстам у саўгасе “10 год БССР”. А прыехала я з вёскі Пагост Тураўскага раёна Азяранскага сельскага Савета Палескай вобласці па чыгунцы з горада Жыткавічы. Людзі, якія працавалі ў саўгасе, харчаваліся ў сталовай, цяпер там пабудаваны двухпавярховыя дамы. Калі брат прывёў мяне туды, каб пакарміць, Комлік Марыя, якая працавала поварам, прапанавала, каб я ёй дапамагала на кухні. Рабіла ўсё, што яна мне гаварыла. Потым, калі мне споўнілася гадоў 15-16, я пайшла працаваць у паляводства: нарыхтоўвала сена, капы клала, даіла кароў. Перад вайною дырэктарам саўгаса быў Прорвіч Арцём. Жорсткі быў чалавек, а можа, у той час так і трэба было.

Добра помню пачатак вайны. Я была дома (а жылі мы ў інтэрнаце, на тым месцы зараз знаходзіцца сельскі Савет). Мая родная сястра Арына Цішкоўская, 1915 года нараджэння, прыйшла з клуба і сказала, што вайна пачалася. А клуб быў там, дзе зараз прамтаварны магазін. У час вайны мы жылі ў лесе, у «куранях». У нас была карова. Было сваё малако, якое

мы дзялілі з такімі ж, як мы, бегляцамі. Часта немцы рабілі аблавы на жыхароў, якія хаваліся ў лесе. Але даў Бог – і мы выжылі.

Выйшлі з лесу: на месцы пасёлка практычна нічога не было. Пачалі рабіць зямлянкі. У зямлянцы, акрамя мяне і маёй дачкі Тамары, жылі яшчэ Арына Цішкоўская з дачкою і Ніна Дзятлава з сынам.

Як мы жылі?.. У зямлянцы былі зроблены палаці, на іх клалі сена і анучы, якімі з намі дзяліліся людзі, хаткі якіх засталіся ў час вайны (гэта каля цяперашняга клуба). Так і жылі…

Працавала там, куды мяне пасылалі: на полі, лес тралявала ўручную, вазіла дровы, малако на сепаратарны пункт. Брыгадзірам жывёлаводства быў Калыска Павел, у паляводстве – Шыманаў Аляксандр. Пасля вайны дырэктарам стаў Смірноў Цімафей Ягоравіч. Ён клапаціўся не толькі аб тым, каб мы працавалі з раніцы да вечара, але і аб людзях. Есці не было чаго, дык ён ездзіў, даставаў прадукты, прывозіў нам фасолю, муку і інш. Акрамя прадуктаў, памятаю, прывёз аднекуль парашуты, каб жанчыны маглі пашыць сабе і дзецям нейкае адзенне. Усё дзялілі на працуючых: крупы ячневыя, муку. Я запомніла, што ў яго была такая прыказка: “Не хочаш – прымусім, не ўмееш – навучым”. Смірноў быў добры, справядлівы чалавек, любіў дысцыпліну і парадак. Усіх рабочых кармілі ў рабочай сталовай саўгаса. Хлеб, які я атрымоўвала, сама не ела, прыносіла дадому дзецям. Таксама для іх мы маглі браць са сталовай ежу.

Памятаю, у 49-ым або 50-ым годзе пабудавалі першыя чатыры баракі (тры ёсць і зараз). Пачалі рассяляць людзей з зямлянак. У адным пакоі жылі па дзве-тры сям’і. Мы жылі: Надзя Драбушэвіч з трыма дачкамі, Ева Падлозная з дачкою, я з Арынай і дзецьмі. А пасля пачалі ўжо рассяляць па адной сям’і ў пакой. Працавалі ад самага рання да цямна. Днём жалі ўручную, ноччу скірдавалі, а потым ужо малацілі ўручную.

Нягледзячы ні на што, жыццё было цікавым,. Помню, клуб быў, дзе потым жыла Феня Багаедава. Там мы вечарамі танцавалі, спявалі. Было весела. Была свая мастацкая самадзейнасць. А раніцай усе дружна з песнямі ішлі на работу. Яшчэ помню добра, як займаліся фізкультураю, строілі пірамiды. Песні пелі ўсюды: ідучы на работу і з работы, пелі і на рабоце. Як бы цяжка ні працавалі, але ў нас была вера, што мы будзем жыць лепей. Па выхадных, хоць яны і былі вельмі рэдкімі, асабліва адразу пасля вайны, па святах збіраліся сем’ямі, брыгадай, адзначалі заканчэнне работ (уборку ўраджаю, пасяўную). Добра памятаю, што працавала я з Коваль Ганнай (гэта Ніны Караваевай маці), Драбушэвіч Надзеяй, Евай Жукавец, Папко Каралінай.

Зуевіч Насця прыехала ў саўгас з Гомельскай вобласці Ельскага раёна. Да вайны яна хадзіла ў спадніцы, працавала на ільнозаводзе,

будаўнічым цэху. У час вайны была ў партызанах, вярнулася назад у саўгас, працавала на валах. А жыла яна разам з Надзеяй, сястрой Ульяны Пайграй. Пасля вайны Насця ўжо хадзіла толькі ў мужчынскім адзенні. Потым Насця жыла разам з маёй сям'ёй да 1969 года.

У саўгасе быў камендант Крывальцэвіч, актыў з рабочых саўгаса. Хадзілі па кватэрах, глядзелі чысціню, парадак. Потым у саўгас правялі радыё. Не толькі ў кожным доме, але і на вуліцах былі дынамікі. Па радыё паведамлялі ўсе навіны: хто добра працуе, а хто на работу не выйшаў, які парадак у кватэрах, асабліва ў каго быў беспарадак. Радзістам быў Растаргуеў Юрый Міхайлавіч, які застаўся ў саўгасе пасля вайны, а да вайны жыў у Маскве. А дыктарам на радыё была яго маці Растаргуева Алена.

Жыць было цяжка, але цікава, бо людзі былі дружнымі».

*Запісала Лідзія Аляксееўна Хаміцэвіч,*
*бібліятэкар ДУА «Соснаўская сярэдняя*
*школа № 1» Любанскага раёна*

**Успаміны Шагун Марыі Іосіфаўны,**
1932 года нараджэння, жыхаркі аграгарадка Сосны Любанскага раёна Мінскай вобласці

«Мае бацькі, Стасіловіч Іосіф Іосіфавіч і Сцепаніда Якаўлеўна, да Вялікай Айчыннай вайны пражывалі ў пасёлку Сосны. Маці працавала паляводам, удзельнічала ў нарыхтоўцы лесу, бацька – разнарабочым: быў загадчыкам гаспадарчай часткі сталовай, займаўся нарыхтоўкай дроў. У 1937 годзе (прычына невядомая) яго арыштавалі. Я памятаю яго слаба, фота не захавалася. Пасля вайны мы пісалі ў розныя інстанцыі, каб даведацца аб лёсе бацькі. Здаецца, было паведамленне, што ён загінуў пад Сталінградам. Перад вайной мне было 8 гадоў. У школу не давялося хадзіць.

У памяці захавалася, што там, дзе зараз знаходзіцца сучасная бальніца, у пасёлку была школа, а дзе знаходзіцца баня, там быў канапляны завод (згарэў да вайны), дзе сучасная кантора – бальніца. У суботу, напярэдадні вайны, мы з матуляю паехалі на конях на вяселле нашага родзіча, які жыў у вёсцы Дзясятае, а дзяўчына была з вёскі Буда. Ехалі да маладой уздоўж чыгункі, якая абгінала балаціну каля пасёлка Краснае, таму ў народзе ён завецца Крывуляй. Затым каля вёскі Абоз быў прыпынак на ветцы чыгункі. Стаялі склады, у якія з навакольных калгасаў

прывозілі нарыхтоўку: зерне, бульбу, сена. Вярнуліся ўначы на 22 чэрвеня з нявестай з вёскі Буда, каб працягваць вяселле ў вёсцы Дзясятае. Але ранкам на машыне прыехалі вайскоўцы і аб’явілі, што пачалася вайна. Забралі мужчын на вайну. Мы сабралі пажыткі, дзед запрог каня, і мы з матуляй паехалі назад у пасёлак Сосны. Здаецца, Сосны ўжо бамбілі самалёты. Прыпамінаю, што праз нейкі час пасёлак спалілі немцы і расстралялі Калыску і яшчэ некалькіх чалавек. Дзе зараз знаходзіцца сельскі Савет, быў перад вайной вакзал. Паязды прыбывалі са станцыі Старушкі, а з другога боку – з вёскі Камуна імя БВА. Мы перабраліся на хутар Вялікі лес, дзе жыў мой дзед Рамановіч Якаў Пятровіч, па мянушцы Заяц. Гэта непадалёку ад Лысай гары. Але затым у гэтым месцы пабудавалі свой лагер партызаны (камандзір Плышэўскі Рыгор Іванавіч), атрад “Камсамолец”. База была ў весцы Ляхаўка (камандзір Шаўцоў Аляксандр Рыгоравіч). Нас папярэдзілі і прапанавалі пераехаць у вёску Дзясятае, дзе мы пражылі адзін год. У час карнай экспедыцыі вёску спалілі, але мы паспелі ўцячы і жылі ў “куранях” непадалёку ад вёскі. Нацярпеліся ўсяго: холад, голад, а галоўнае – страх, што фашысты знойдуць нашы “курані” і мы загінем.

Калі вызвалілі наш раён і горад Мінск, то да нас у «курані» прыйшлі партызаны і паведамілі, што немцы выгнаты з нашых мясцін і можна перабірацца жыць у вёску. Мы сталі жыць у вёсцы Дзясятае. Пасля вызвалення вучылася ў вёсцы Турок. Закончыла першы клас. І па вясне пачулі, што перамога. Нас павялі ўсіх на свята ў сямігодку вёскі Асавец. Сёстры і маці працавалі ў калгасе “Перамога”. Я працягвала вучыцца (вучылася тры гады), але аднойчы маці сказала, што мне трэба ісці на свой хлеб. Яна прапанавала пераехаць да родзічаў на кірпічны завод саўгаса “10 год БССР”. Так у 16 год пачалася мая працоўная біяграфія. Да выхаду на пенсію я працавала на заводзе.

У першыя пасляваенныя гады працэс прыгатавання цэглы быў вельмі цяжкі і складаны. Спачатку рылі ў зямлі ямы, у якія засыпалі гліну, пясок, дабаўлялі ваду. Гэтую сумясь мясілі коньмі, якіх паводзілі рабочыя. Гліну прывозілі за некалькі кіламетраў на конных павозках. Капалі, грузілі ўручную. Пясок дастаўлялі на конях з кар’ера. Затым прыгатаваную сумясь накладвалі ў яме тры чалавекі рыдлёўкамі ў формы, якія выраблялі мужчыны з бляхі. Формы, запоўненыя растворам, пераварочвалі на матарэлі (падстаўкі), затым цагліны даставалі з формаў і ўручную грузілі на аднаколавыя тачкі, везлі пад навес, дзе цэглу раскладвалі на сцелажы для прасушкі. Падсушаную цэглу на тачках (каб лягчэй было каціць, насцілалі з дошак насціл) везлі і складвалі, быццам зруб студні, у печ, дзе яе апальвалі, затым разбівалі замазаны глінай уваход і вывозілі

цэглу да месца складзіравання, падчышчалі месца абпальвання ад кавалкаў бітай цэглы і зноў загружалі. І так па зменах дзень у дзень, таму што цэглы патрэбна было шмат для будаўніцтва саўгаса і другіх населеных пунктаў.

У час вайны чыгунку падарвалі партызаны, а падчас адступлення немцы перабівалі шпалы і скручвалі рэльсы. На месцы вакзала ў пасёлку, у ямах, дзе разгружалі ўгнаенні, са шпал былі зроблены паўзямлянкі, каб там жылі людзі. У 1949 годзе (дырэктар Ц. Я. Смірноў) на заводзе быў устаноўлены прэс, пабудаваны навесы для сушкі цэглы, новыя печы. Усё гэта злучалі дарогі з рэек, па якіх рабочыя каталі ваганеткі з цэглай.

Асабліва складана было на паваротным крузе, калі праваронііў, дык ваганетка сыходзіла з рэек. І як не ўдавалася ўзняць на рэльсы, дык прыходзілася перагружаць. На падвозе гліны працавалі трактарысты Таргонскі Уладзімір і Давыдовіч Піліп. Да прэса штурхалі гліну бульдазерысты Шагун Сяргей, Вялічка Іосіф. Прыпамінаю тых, хто ўзначальваў завод: загадчык Лучыновіч Зміцер, масцер Шагун Павел; загадчык Шагун Іосіф, масцер Сярпінскі Франц; загадчык Шагун Васіль, масцер Царыковіч Аляксей; загадчык Гарэлік Фёдар, масцер Лучыновіч Павел; загадчык Каваленя Васіль, масцер Жаўрыд Іосіф.

Была пабудавана новая печ – “гофманка”. Гліну дастаўлялі з новага месца за шмат кіламетраў, і паступова выпуск цэглы змяншаўся. Пры пабудове печы быў зманціраваны канвеер для падвозу цэглы. Праца стала больш арганізаванай і лёгкай. Апрача работы на заводзе, пастаянна ўдзельнічалі ў вырошчванні цукровых буракоў, палолі іх, малацілі ўручную пасля вайны, зграбалі сена.

У апошнія гады завод узначальваў Мардусевіч Аляксандр Іосіфавіч, кладаўшчыцай працавала Царыковіч Эма Мікалаеўна. Нейкі час на базе завода выраблялі колы для конных павозак, але запасы гліны падыходзілі да заканчэння, і завод спыніў сваю дзейнасць».

**Успаміны Храловіча Аляксея Маркавіча,**

1926 года нараджэння, жыхара аграгарадка Сосны Любанскага раёна Мінскай вобласці

«Я нарадзіўся 20 лістапада 1926 года ў вёсцы Бранчыцы Мінскай вобласці. Удзельнік Вялікай Айчыйннай вайны. Пачыналась яна так. Прызвалі мяне ў Старобінскі райваенкам. Я быў вельмі малы ростам. Нам выдалі зброю, яна мне была да пят. Нас было каля 30 чалавек. Калі сказалі выйсці са строю, я падумаў, што дамоў. А яны нам лекцыю чытаць

аб тым, што перад намі стаіць задача, нягледзячы ні на што, павесіць знамя Перамогі над Берлінам. Я маленькі ростам, слёзы так і кацяцца з вачэй. Нас назначаюць у полк сувязі. Добрая сувязь – добры удар па ворагу. Вось і прыйшлося нам ісці. Трэба нашу катушку падняць. А мы такія маленькія, што не маглі зрабіць гэта. Дзе трэба было два чалавекі, нас патрэбна было чатыры. Мы пайшлі з палком сувязі на фронт, да Мінска. Мінск яшчэ не быў узяты, і мы пайшлі да Брэста, але не дайшлі да яго. Узялі ў палон траіх немцаў і пайшлі назад у Мінск. Пакуль мы прыйшлі ў Мінск, ён ужо быў вызвалены. Я застаўся з палоннымі і ахраняў іх.

Першую сваю ўзнагароду я атрымаў у дзень Перамогі. Нас пастроілі ўсіх і пачалі ўзнагароджваць. Ваенныя дні былі вельмі цяжкімі: спалі мала, харчаванне было дрэнным… У тылу было таксама вельмі цяжка.

У 1948 годзе прыехаў я ў саўгас "10 год БССР", які ўжо быў разбураны. Было ўсяго тры ці чатыры хаціны. Астатнія людзі жылі ў зямлянках. У адной кватэры жыло па некалькі сем'яў. Кіраўніком саўгаса быў Ц. Я. Смірноў, добры кіраўнік. Аднойчы прыехаў Смірноў у лес, дзе працавала брыгада лесарубаў. Ён спытаў у іх, як ім жывецца, і нават паспрабаваў ежу, якую яны елі. Пасля спытаў: "Як вы гэта можаце есці?" – і загадаў зарэзаць баранаў для прыгатавання ежы лесарубам.

Жыў я першыя дні, як прыехаў у саўгас, у жыхара гэтай вёскі Антанені. Летам начаваў у хляве. Пасля ажаніўся, і нам далі кватэру ў пасёлку Краснае. Пажылі некаторы час, і я стаў абсталёўваць сваё сямейнае жыццё. Хацелі высяліць мяне з кватэры, але таварыш Смірноў гэтага не дапусціў. Працаваў я на мельніцы рабочым. Мельнікам быў Ігнат Попка. Мельніца стаяла на тым месцы, дзе зараз знаходзіцца лазня. Зярно засыпалі ў мельніцу ўручную. Потым я вазіў муку на валах у Краснае, а гэта амаль паўтара кіламетра ад Сосен. Цяжка было працаваць. Працавалі ўсе: і жанчыны, і мужчыны. Тады ў нас у саўгасе быў невялічкі самалёт. Ён засяваў палеткі, і нават пырскалі бульбу ядахімікатамі, каб яе не з'еў каларадскі жук. Гэты самалёт прылятаў у саўгас на сезон.

Сажалка, якая зараз знаходзіцца каля школы, была першапаткова звычайнай ямай. Адтуль бралі пясок і вазілі, каб пракласці дарогу на кірпічны завод, што быў у вёсцы Абоз. Ён быў пабудаваны пасля таго, як я прыехаў у саўгас. Там, на кірпічным заводзе, працавала многа жыхароў саўгаса *(усхваляваўся, употай змахнуў слязіну з вачэй)*».

*Запісаў Анатоль Іосіфавіч Вялічка,*
*настаўнік гісторыі ДУА «Соснаўская*
*сярэдняя школа № 1» Любанскага раёна*

# Яны аднаўлялі свой родны край

***Рыгор Мікалаевіч Ляўчэня,***
*настаўнік гісторыі*
*ДУА «Загальскі вучэбна-педагагічны комплекс*
*дзіцячы сад–сярэдняя школа Любанскага раёна»*

Для рэалізацыі міжнароднага праекта «Захоўваючы гісторыю, ствараем будучыню» ў Загальскай школе была створана рабочая група, у якую ўвайшлі два настаўнікі гісторыі і члены краязнаўчага гуртка «Спадчына». З мэтай рэалізацыі тэмы вуснагістарычнага даследавання – аднаўленне разбуранай вайной народнай гаспадаркі перыяда 1946–1955 гадоў – была праведзена актыўная работа па пошуку людзей, якія маглі б расказаць сваю гісторыю першага пасляваеннага дзесяцігоддзя.

Імкліва бяжыць час. З кожным годам усё менш становіцца жывых сведкаў ваеннага ліхалецця, тых, хто пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны актыўна ўдзельнічаў у аднаўленні разбуранай вайной народнай гаспадаркі: працаваў на палетках, фермах, будаўнічых рыштаваннях. Такіх людзей засталося ўжо няшмат, але яны яшчэ ёсць. Гэта старажылы вёскі, ветэраны вайны і працы. Падчас сустрэч у «гутарковым кафэ», якія адбыліся ў лістападзе 2010 года ў вёсцы Загалле, былі зафіксаваны гістарычныя сведчанні аб умовах працы, вольным часе, асабістым жыцці мясцовых жыхароў. Усе матэрыялы сустрэч і праектнай дзейнасці былі сабраны, прааналізаваны і аформлены на электронных і папяровых носьбітах.

**Успаміны пра Яўгена Сцяпанавіча Чыркоўскага,**
1926 года нараджэння, жыхара вёскі Загалле
Любанскага раёна Мінскай вобласці



Нарадзіўся ён ў вёсцы Старасек. У сям'і было пяцёра дзяцей. Жыццё было вельмі цяжкім. Дапамагаў бацькам па гаспадарцы: касіў траву, пасвіў свіней, авечак, капаў бульбу, хадзіў за плугам. У вёсцы Старасек знаходзілася пачатковая школа, якую скончыў у 1939 годзе. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Яўгену ішоў шаснаццаты год. У першыя

гады вайны малады юнак дапамагаў партыза-нам: на вёску Зыслаў вазіў прадукты харчавання, падвозіў на кані партызан на баявыя заданні ў Петрыкаў і Жыткавічы.

У маі 1943 года Яўген уступіў у партызанскі атрад імя Я. Д. Гарбачова, які ўваходзіў у склад партызанскай брыгады № 25 імя П. Панамарэнкі. Атрад стаяў у вёсках Зыслаў, Гарадзячыцы, Палічын, Камуна, Старыя Юрковічы, потым перамясціўся ў вёску Новыя Юрковічы. Партызаны выкарыстоўвалі розныя формы барацьбы супраць нямецкіх захопнікаў: здзяйснялі дыверсіі, баявыя аперацыі (знішчэнне жывой сілы і баявой тэхнікі акупантаў), вялі разведку, праводзілі агітацыйную работу сярод насельніцтва.

На рацэ Пціч народныя мсціўцы падарвалі мост, па якім гітлераўцы ажыццяўлялі ваенныя перавозкі, пускалі пад адкос нямецкія эшалоны, падрывалі варожыя склады з боепрыпасамі і гаручымі матэрыяламі.

У час вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў партызанская брыгада № 25 імя П. Панамарэнкі, у склад якой уваходзіў партызанскі атрад імя Я. Д. Гарбачова, злучылася каля вёскі Засмужжа з Чырвонай Арміяй. Сустрэча воінаў і партызан была вёльмі цёплай і радаснай. Пасля гэтага Яўген Чыркоўскі каля двух месяцаў працаваў у органах сацыяльнага забеспячэння.

У пачатку восені 1944 года яго адправілі ў горад Кіраў Маскоўскай вобласці. Пасля месячнай падрыхтоўкі з размеркавальнага пункта ў Гомелі трапіў на фронт. Прымаў удзел у вызваленні Польшчы, у абароне на рацэ Вісла. Яўген Чыркоўскі ўдзельнічаў у вызваленні польскіх гарадоў Кракаў, Дэмблін, Варшава. Пасля вызвалення Польшчы ад фашыстаў яго перакінулі ў Латвію, затым у Літву. Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны праходзіў службу ў Чырвонай Арміі. Служыў у Баку, затым у Свярдлоўску.

Пасля дэмабілізацыі ў канцы 1951 года вярнуўся ў родную вёску Старасек. Хаты сваёй не было. Жыў спачатку ў бацькі да 1953 года. Пасля ажаніўся на мясцовай дзяўчыне Марыі, якая ў той час працавала цялятніцай у калгасе імя К. Маркса. Пасля вяселля Яўген і Марыя тры гады жылі ў зямлянцы. Тут нарадзіўся ў 1955 годзе першы з трох сыноў. Сваю хату пачалі будаваць у 1954 годзе. Будавалі сваімі сіламі. Матэрыял з вялікай цяжкасцю выдзяляў калгас. У новую хату Яўген Чыркоўскі з сям'ёй пераехалі ў пачатку 1957 года.

Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны Яўген працаваў спачатку ў кузні, якая знаходзілася ў вёсцы Старасек: каваў плугі, сані, сярпы, падковы. Пасля гэтага працаваў у калгасе, затым у саўгасе жывёлаводам на адкорме быкоў. Ветэран успамінаў, што амаль усе тэхналагічныя

аперацыі на вытворчасці выконваліся ўручную. Працаваў з ранку да позняга вечара. Трэба было ўручную загрузіць на тачанку фураж, а затым даставіць яго на ферму. Потым, згодна рацыёну, усе кармы неабходна было раздаць жывёлам. Затым – чыстка станкоў, загрузка гною і адходаў на тачку, адвозка на гнаясховішча. Асноўнай цяглавай сілай быў у 60-ыя гады вол, а затым – конь.

Жывёлаводам Яўген Сцяпанавіч працаваў да 1986 года, калі пайшоў на заслужаны адпачынак. Ветэран адзначаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі за баявую і працоўную доблесць, узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і шматлікімі медалямі за баявыя заслугі, мае медаль “Ветэран Працы” і ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У цяперашні час Яўген Сцяпанавіч і яго жонка Марыя Станіславаўна пражываюць у сваёй хаце ў вёсцы Старасек. Побач яны крочаць ужо амаль шэсцьдзесят гадоў. Вырасцілі і выхавалі чацвёра дзяцей. Ёсць шмат унукаў і праўнукаў. Нягледзячы на тое, што перамяшчацца, з кожным днём становіцца ўсё цяжэй і цяжэй, Яўген Сцяпанавіч і Марыя Станіславаўна не падаюць духам. Імкнуцца як мага часцей бываць на вуліцы, паразмаўляць са сваімі суседзямі. З вялікай нецярплівасцю яны чакаюць у госці да сябе сваіх дзяцей, унукаў і праўнукаў, якіх заўсёды вельмі хочацца пабачыць і якім хочацца аддаць часцінку свайго сэрца.

**Успаміны Ганны Сцяпанаўны Рудзько**,
1927 года нараджэння, жыхаркі вёскі Татарка Любанскага раёна
Мінскай вобласці



«Нарадзілася я ў вёсцы Загалле ў 1927 годзе. З красавіка 1944 па красавік 1945 года знаходзілася ў канцлагеры ў горадзе Мюльгайм (Германія). Восенню 1945 года вярнулася ў родную вёску. Жыла спачатку з маці ў зямлянцы. У адной зямлянцы жыло па тры сям’і. Там знаходзіліся невялікая печка, столік, лаўкі, драўляны ложак.

У печцы варылі есці. Маці выменьвала адзенне на хлеб у бежанцаў. Працавала спачатку ў калгасе: рэзала лес, паліла галлё, сеяла зерне, садзіла бульбу, жала жыта па 25 сотак у дзень. Потым пайшла з маці жыць у свой склеп. Унізе знаходзілася бульба, на якую клалі дошкі і сена. На іх спалі. У 1948–1949 гг. працавала

на торфараспрацоўках у Асіповічах і Мінску. У пачатку 1950-х гадоў пачала працаваць свінаркай у калгасе. Свіней было шмат. Варылі бульбу ў катлах, якую таўклі ў карытах, потым катлы залівалі ўручную вадой па 90 вёдзер у кожны. Ваду насілі з калодзежа. Перайшла жыць у хату ў 1952 годзе. Пры лучынах ткалі, вязалі, вышывалі, спявалі песні. Адзенне шылі самі з ільну, потым яго фарбавалі».

**Успаміны Адама Васільевіча Міхневіча,**
1929 года нараджэння, жыхара вёскі Старасек Любанскага раёна Мінскай вобласці



«Нарадзіўся я на хутары Зыслаў у 1929 годзе. У сакавіку 1944 года трапіў у канцлагер у горад Зынзін (Германія). Быў вызвалены ў пачатку 1945 года. Вярнуўся ў вёску Старасек. Пасля вайны ўцалела 9 хат. Жыў з бацькамі ў хаце. Жыццё было вельмі складаным. Працаваў рабочым у калгасе імя К. Маркса, старшынёй якога быў С. Т. Карнееў. Усю работу рабілі ўручную: аралі, баранавалі, апрацоўвалі бульбу, касілі. Пасля службы ў Чырвонай Арміі (1950–1954 гг.) працаваў брыгадзірам паляводчай брыгады ў калгасе.

Плацілі падатак дзяржаве прадуктамі ўласнай гаспадаркі: здавалі малако, мяса, гусей, яйкі. Здаваў дзяржаве бясплатна малако той, хто трымаў карову. Калі малако не збіралі, білі масла і здавалі ў пункт прыёму патрэбную яго колькасць.

Па выхадных днях і на святы збіраліся на вячоркі ў вялікай хаце. Пры лямпе ці лучыне жанчыны пралі, ткалі, дралі пер’е, вязалі. Гралі гармонік і бубен, пелі прыпеўкі, танцавалі. Было вельмі весела».

**Успаміны Марыі Фёдараўны Ешмантовіч,**

1931 года нараджэння, жыхаркі вёскі Загалле Любанскага раёна Мінскай вобласці



«Нарадзілася я ў вёсцы Загалле ў 1931 годзе. Пасля заканчэння вайны тут і жыла. Была свая хатка. Працавала ў калгасе. Работа была розная: жала збожжа, капала бульбу, вязала снапы, працавала на свінарніку. Працавала вельмі шмат: з шасці гадзін раніцы да вечара.

Была ўласная гаспадарка: карова, свіння, куры. Харчаваліся прадуктамі сваёй гаспадаркі. Малолі ў жорнах муку, пяклі хлеб і бліны. Калі не хапала мукі, то дабаўлялі ў яе молатыя жалуды. Збіралі марозную бульбу, якую салілі ўдабрэннем: варылі ўдабрэнне, вада адстойвалася, станавілася салёнай. Ёй палівалі бульбу. Працу калгаснікам аплачвалі не грашыма, а прадуктамі ў канцы года па колькасці адпрацаваных працадзён.

Адзенне шылі самі. Сеялі лён, апрацоўвалі, убіралі, пралі, ткалі, выбельвалі, шылі адзенне. Ніжняе адзенне шылі з горшага валакна. З шэрсці авечак, якую апрацоўвалі, вязалі адзенне. Таксама валілі валенкі, з лазы плялі лапці. Было радыё. У хаце стаялі стол, лаўка, койка. Ежу варылі ў печы. На вокнах віселі газеты. Сцены клеілі шпалерамі. На іх нічога не было. Вечарамі дома пры лямпе ці лучыне прала, ткала, вышывала. На выхадныя збіраліся на вячоркі, гралі на гармошцы, балалайцы, спявалі песні, танцавалі польку, вальс, кракавяк. Жылі бедна, але весела».

**Успаміны Васіля Іванавіча Рудзько,**
1926 года нараджэння, жыхара вёскі Татарка Любанскага раёна Мінскай вобласці



«Нарадзіўся я ў вёсцы Татарка ў 1926 годзе. У гады Вялікай Айчыннай вайны змагаўся супраць гітлераўцаў у партызанскім атрадзе. Пасля заканчэння вайны быў прызваны на службу ў Чырвоную Армію.

Пасля дэмабілізацыі з Чырвонай Арміі ў 1950 годзе працаваў у калгасе будаўніком. Будаваў дамы жанчынам-удовам у вёсцы Загалле. Пасля вайны ў вёсцы засталося каля дзесяці хат. Матэрыял для будаўніцтва рыхтавалі самі ў лесе. Працавалі па 10-12 гадзін у суткі. Налічваліся працадні, разлічваліся ў канцы года. Давалі бульбу, зерне, грэчку, проса ў залежнасці ад колькасці адпрацаваных дзён. Жыў спачатку з бацькамі ў зямлянцы, у якой было адно акенца.

У сям'і было дзевяць дзяцей, якіх трэба было пракарміць. Бацькі трымалі карову. Спаў на нарах. У хаце знаходзіліся печка, стол, лаўкі. Потым сваімі сіламі пабудаваў невялікую хату. Перайшлі туды з зямлянкі з жонкай у 1952 годзе. Адзенне было простае: яго ткалі з ільну, насіў лапці, фуфайкі, кажухі з авечак».

*Запісаў Рыгор Мікалаевіч Ляўчэня,*
*настаўнік гісторыі ДУА « Загальскі*
*вучэбна-педагагічны комплекс*
*дзіцячы сад–сярэдняя школа*
*Любанскага раёна»*

# Кок-сагыз: дзівосная сельскагаспадарчая культура на Любаншчыне першага пасляваеннага дзесяцігоддзя

***Вячаслаў Міхайлавіч Белькевіч,***
*настаўнік гісторыі*
*ДУА «Сарочская сярэдняя школа*
*Любанскага раёна» Мінскай вобласці*

Істотнымі інструментамі арганізацыі і правядзення гістарычнага краязнаўства ў школе з'яўляюцца вуснагістарычныя метады, пры дапамозе якіх з'яўляецца магчымасць раскрыць адзінства гісторыі горада, вёскі, чалавека з гісторыяй і жыццём усёй краіны. Улічваючы малаасветленасць першага пасляваеннага дзесяцігоддзя гісторыі вёскі Сарачы ў пісьмовых гістарычных крыніцах, творчая група з ліку навучэнцаў і педагогаў нашай школы аднавіла пошукавую краязнаўчую працу па збору вусных гістарычных сведчанняў у межах рэгіянальнай даследчай тэмы.

Пачаткам праектнай дзейнасці стала наведванне Любанскага музея народнай славы, дзе мы даведаліся, што пяць працаўнікоў калгаса «Чырвоная змена» (веска Сарачы) атрымалі самую высокую ўзнагароду Радзімы «Герой Сацыялістычнай Працы» і дваццаць адзін чалавек былі ўзнагароджаны Ордэнам Леніна за працоўныя пасляваенныя подзвігі. Сярод іх значацца аднавяскоўцы А. Б. Монцік, А. Я. Лаўрыеня, М. М. Коўшэр, М. М. Брагінец і інш. Гэтыя людзі праславілі калгас, імі ганарыліся, пра іх складаліся песні і прыпеўкі. І нічога, што гэтыя словы здаюцца простымі і трошкі прымітыўнымі, але яны былі ад душы:

За Орессой, за рекой
Наш колхоз стоит родной.
Там работаем, живем,
Отдыхаем и поем.
Ковшер Мани, звеньевой,
Шлем привет горячий свой.
Получила ордена,
Не один, а даже два.

***

Адгаманілі зоры над аселіцай,
І навокал машыны загулі.
Ідуць, ідуць чырвоназмёнаўцы
На фермы, на будоўлі, на палі.

Перад даследчыкамі ўзніклі наступныя пытанні: «Чым была знакаміта Любаншчына на абшары Савецкага Саюза?», «У чым сутнасць працоўных подзвігаў мясцовых жыхароў?». Высвятлілася, што прычынай знакамітасці з'яўлялася расліна з дзіўнай назвай «кок-сагыз». Вось з яго і пачалося наша вуснагістарычнае даследаванне.

Па выніках пошукавай працы была аформлена тэчка, у якую ўвайшлі запісы ўспамінаў, аўтабіяграфічныя дадзеныя Герояў Сацыялістычнай Працы, выдадзены буклет аб ардэнаносцах, зняты відэафільм «Сустрэчы ў "гутарковым кафэ"», зроблена мультымедыйная прэзентацыя «Цар палёў – кок-сагыз».

***Для даведак.***

Кок-сагыз – шматгадовая травяністая расліна роду «дзьмухавец» сямейства «астровыя», каўчуканос. Адзін з лепшых натуральных каўчуканосаў флоры СССР. З 1933 года быў уведзены ў культуру.

**Успаміны Марыі Міхайлаўны Брагінец**,
1931 года нараджэння, двойчы ардэнаносца, жыхаркі вёскі Сарачы Любанскага раёна Мінскай вобласці

«У другую пасляваенную зіму калгасу "Чырвоная змена" было даручана вырошчваць новую, дагэтуль не вядомую культуру кок-сагыз. Адвялі ўчастак балота, узаралі трактарам і пачалася крапатлівая ручная праца. Сеялі культуру ўручную, асцярожна. Кожнае зярнятка было даражэй золата. Затым пацягнуліся напружаныя дні чаканняў. Кок-сагыз узышоў. Цяпер трэба было яго прапалоць, ускалупаць, падкарміць. Як дзеці, радаваліся мы дружнаму красаванню кок-сагыза. Чаму як дзеці?... Мне ў той час было толькі 18 гадоў. Залацістым дыванам іскрылася поле. Потым яно збялела. На месцы кветак з'явіліся белыя дзьмухаўцы. Трэба было тэрмінова сабраць насенне, каб не разнёс вецер. І збіралі да болю ў спіне, хто ў фартух, хто ў мяшок. А калі прыйшла восень, трэба было выкапаць карэньчыкі кок-сагыза, ды так, каб не пашкодзіць іх, каб не выцякла каштоўная вадкасць. У першы год выгадавалі 35-40 цэнтнераў каранёў кок-сагыза з гектара. А ў 1948 годзе праславіліся на ўсю краіну: быў вырашчаны ўраджай па 80 цэнтнераў з гектара на плошчы 6 гектараў».

**Успаміны Ніны Міхайлаўны Шаплыка**,
1946 года нараджэння, жыхаркі вёскі Сарачы
Любанскага раёна Мінскай вобласці

«У 1950 годзе я была зусім юнай дзяўчынкай. Разам са збожжавымі, бульбай былі ўкаранёныя і іншыя сельскагаспадарчыя культуры: каноплі і аднекуль прывезены кок-сагыз. Вырошчванне гэтай культуры патрабавала вялікай працы. Усходы яе павінны былі старанна прапалоць некалькі разоў за лета, прарыхліць. Адным словам, да самай уборкі не схадзілі са сваіх участкаў. Ды яшчэ ўлетку трэба было збіраць кветачкі кок-сагыза. Кветкі падобныя на дзьмухавец. І вось, калі яны ператвараліся ў пухнатыя шарыкі, іх збіралі. У гарачыя пагодлівыя дні выходзілі цэлымі сем'ямі. Мы, дзеці, ладзілі цэлыя спаборніцтвы, хто больш збярэ, хоць сабраць гэты амаль бязважкі пух мог кожны з нас не так ужо і шмат.

Плацілі гаспадарчым мылам і нашым любімым ласункам – падушачкамі. Густ тых непаўторных карамелек памятаецца да гэтага часу. Прыбіралі кок-сагыз позняй восенню, часта ў золь і ў снег. Тэхнікі аніякай – працавалі рыдлёўкамі. Карані (а менавіта яны шанаваліся) знаходзіліся глыбока ў зямлі. Выкопвалі, вытрэсвалі ад зямлі, пакавалі ў мяшкі. Колькасць вымяралася не кілаграмамі, а тонамі. Затым здава на перапрацоўку дзяржаве. Выраблялі ў асноўным гуму. Кок-сагыз стаў вялікай дапамогай для калгаснікаў. Плацілі не толькі хлебам і грашыма, але і гумовым абуткам: гамашы (нешта падобнае на боты) і галёшы. Шмат галёшаў рознага фасону і памеру. Некаторым даставаліся цэлыя мяшкі такога абутку.

Краіна па тых часах высока ацаніла працу калгаснікаў. Шматлікія мае аднавяскоўцы былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. А звеннявая па кок-сагызу А. А. Шаплыка за высокія паказчыкі была ўдастоена звання Героя Сацыялістычнай працы. Старшыня калгасу К. І. Шаплыка быў узнагароджаны Ордэнам Леніна. Уручаў ім узнагароду сам таварыш Сталін. Яны ў падарунак ад калгасу паднеслі яму саматканыя ручнікі. Гэта быў вялікі гонар для ўсяго калгасу».

*Запісаў Вячаслаў Міхайлавіч Белькевіч,*
*настаўнік гісторыі ДУА «Сарочская*
*сярэдняя школа Любанскага раёна»*

# Побыт на Мядзельшчыне ў пасляваенныя часы

***Валерый Пятровіч Ільюковіч,***
*настаўнік гісторыі ДУА «Сваткаўская сярэдняя школа імя Максіма Танка» Мядзельскага раёна*

Група настаўнікаў Мядзельскага раёна з дзвюх установаў адукацыі ў складзе чатырох чалавек (В. П. Ільюковіч, настаўнік гісторыі; Г. К. Тачыцкая, настаўнік беларускай мовы і літаратуры ДУА «Сваткаўская сярэдняя школа імя Максіма Танка»; У. С. Серадзінскі, настаўнік гісторыі; І. Ч. Босы, настаўнік беларускай мовы і літаратуры ДУА «Старагабскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад–сярэдняя школа») на працягу 2010 года прымала ўдзел у праекце «Захоўваючы гісторыю, ствараем будучыню».

Для даследавання мы выбралі тэму «Пасляваенны быт на Мядзельшчыне (1944–1956 гг.)». Падчас напісання даследчай працы за аснову пры вывучэнні пытання быў пакладзены метад вуснай гісторыі. Мэтай ставілася сабраць успаміны розных груп насельніцтва аб жыцці на Мядзельшчыне ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. Былі праведзены шматлікія інтэрв'ю з жыхарамі Сваткаўскага і Старагабскага сельсаветаў. Сярод іх калгаснікі, настаўнікі, медыцынскія работнікі. Розны ў нашых рэспандэнтаў быў і ўзрост на момант заканчэння вайны. Даследаванне вялося па наступных накірунках:

- пасляваеннае будаўніцтва;
- гандаль і харчаванне;
- адзенне;
- адукацыя;
- медыцынскае абслугоўванне;
- калгаснае жыццё;
- культурнае жыццё;
- баўленне вольнага часу.

Для даследавання тэмы ў Старагабскім вучэбна-педагагічным комплексе і Сваткаўскай сярэдняй школе імя Максіма Танка былі створаны па дзве ініцыятыўныя групы: першая група займалася зборам і апрацоўкай інфармацыі, другая – тэхнічным забеспячэннем праекта.

У ходзе работы былі выкарыстаны як індывідуальныя формы апытання (інтэрв'ю), так і сумеснае пасяджэнне ўсіх прадстаўнікоў мясцовай супольнасці ў форме «гутарковага кафэ» (у лістападзе 2010 года на базе цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Танка).

З верасня 2010 года па сакавік 2011 года мы апыталі 25 жыхароў Мядзельшчыны (вёскі Брусы, Сваткі, Старыя Габы, Зані, Навасёлкі, Баяры і горад Мядзель), прадстаўнікоў розных слаёў насельніцтва. Сярод іх 7 прадстаўнікоў інтэлігенцыі, 10 калгаснікаў, 3 дзяржаўных служачых, 5 рабочых.

Сабраная інфармацыя была аформлена ў выглядзе фотабуклетаў і брашур. Усе нашы суразмоўцы, нягледзячы на вельмі сталы ўзрост большасці з іх, шчыра адказвалі на пытанні і аказалася, што яны добра памятаюць тагачаснае нялёгкае жыццё як простага калгасніка, так і прадстаўніка вясковай інтэлігенцыі.

Успаміны людзей цесна звязаны з іх асэнсаваннем мінулага як сваёй уласнай біяграфіі, так і гісторыі таго грамадства, у якім прайшло іх жыццё, а таксама гісторыі краіны і свету цалкам. Гэтыя ўспаміны ствараюць калектыўную гістарычную памяць грамадства і з'яўляюцца адной з формаў грамадскай свядомасці.

## Асаблівасці штодзённага жыцця ў пасляваенныя гады
(1946–1955 гг.)

### Успаміны Уладзіміра Мікалаевіча Казлоўскага,
1937 года нараджэння, жыхара вёскі Старыя Габы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці

«Нарадзіўся я і вырас у вёсцы, у сям'і селяніна. Бацька меў невялікі кавалак зямлі і займаўся аднаасобнай сельскай гаспадаркай. Вырошчвалі зерне, бульбу, лён… Гадавалі жывёлу *(дадае)*. У бацькавай сям'і было 5 братоў і 5 сясцёр.

Маё дзяцінства было апалена вайной. Калі пачалася вайна, мне было 4 гады. Бачыў і памятаю жывых немцаў. Памятаю, як палалі суседнія вёскі *(уздыхае)*, як хаваліся ў лесе. Да нас у вёску часта заходзілі партызаны і жылі па некалькі дзён.

Памятаю, як вызвалялі нашу мясцовасць. Ішло вельмі многа тэхнікі і салдат…

Адкрываліся ў вёсках магазіны, але тавараў там было мала, ды і не было за што іх купляць. Часта магазіны рабавалі.

Калгас быў арганізаваны ў 1949 годзе. Сяляне ішлі вельмі неахвотна. Па некалькі дзён праводзілі сходы. Пад рознымі пагрозамі прымушалі пісаць заявы ў калгас. Калі нарэшце стварыўся калгас, сяляне вымушаны былі аддаваць коней, будынкі.

Справа ішла вельмі цяжка. Аплата працы была мізэрнай. Налічваліся працадні, за якія аплату атрымлівалі ў канцы года… А аплата тая складалася з некалькіх капеек на працадзень і некалькіх грамаў зерня.

У 1944 годзе была адкрыта пачатковая школа ў суседняй вёсцы. Мне якраз споўнілася сем год і я пайшоў у першы клас. Пасля вызвалення Беларусі бацька быў прызваны ў армію. Зімой 1945 года я змог напісаць бацьку пісьмо. Восенню 1945 года ён вярнуўся з вайны паранены. Быў інвалідам вайны. Жылося цяжка.

У пасляваенны час я вучыўся ў школе. У старэйшых класах (8–10) за вучобу трэба было плаціць 150 рублёў у год. На той час гэта былі вялікія грошы і не ўсе маглі іх плаціць. Калі пачынаў вучыцца, паперы і кніжак не было. Пісалі на старых польскіх квітанцыях, на цэментных мяшках, хто на чым мог. Вучыў нас настаўнік без спецыяльнай адукацыі, але на той момант даволі граматны чалавек. Звалі яго Лук'яновіч Матвей Мартынавіч.

Пасля вайны пачалі адкрывацца медыцынскія ўстановы. Але спецыялістаў было мала. Звярталіся да старэйшых людзей і знахараў. У пачатку 50-ых гадоў была адкрыта бальніца і аптэка ў вёсцы Кавалі. Але набываць лекі не было за што, таму лячыліся living рознымі травамі, уласнымі сродкамі.

У вольны час моладзь збіралася ў хатах-чытальнях, клубах. Арганізоўвалі мастацкую самадзейнасць… Выступалі перад аднавяскоўцамі, а часам ездзілі ў суседнія вёскі.

У самадзейнасці ўдзельнічала амаль уся моладзь. Хто мог спяваць, выконваў песні, а іншыя чыталі вершы, ставілі невялікія вясёлыя пастаноўкі.

Жыццём краіны цікавіліся праз дэтэктарныя прыёмнікі, а пазней, у канцы 50-ых гадоў была радыёфіцыравана вёска. Электрычнае святло прыйшло ў нашу мясцовасць толькі ў 1964 годзе.

Часта нагадваем пра ваенныя і пасляваенныя часы. Можна па-рознаму ацэньваць той перыяд. Напрыклад, у час вайны былі і сапраўдныя партызаны, а былі і тыя, хто займаўся марадзёрствам».

*Запісаў Уладзімір Сяргеевіч Серадзінскі,*
*настаўнік гісторыі ДУА «Старагабскі*
*дзіцячы сад–сярэдняя школа*
*Мядзельскага раёна»*

## **Успаміны Ірыны Уладзіміраўны Клямяціч**,
1947 года нараджэння, жыхаркі вёскі Старыя Габы
Мядзельскага раёна Мінскай вобласці

«Нарадзілася я і вырасла ў вёсцы. Сям'я жыла ў невялічкай вясковай хатцы (бабуля, цётка, мама і тата). Я ў бацькоў была адзіная дачка. Мой брат, якому не было яшчэ і года, захварэў і памёр у час блакады, калі хаваліся ў балоце ад немцаў.

Пасля вайны бацькі пачалі будаваць лепшую хату. На будаўніцтва быў выдзелены лес. Вазілі на конях. Тое, што можна было зрабіць аднаму, бацька спраўляў сам. Дарэчы, ён быў майстрам на ўсе рукі. А дзе патрэбны былі людзі, рабілі талакой. Дапамагала ў асноўным радня.

Амаль усе прадукты ўжывалі са сваёй гаспадаркі. Хлеб пяклі самі. Ах, які гэта быў смачны хлеб! У краме куплялі толькі соль, спічкі, газу. Цукар не куплялі, не было за што. Саджалі цукровыя буракі і рабілі цукровы сіроп, які ўжывалі замест цукру. Адзенне насілі таксама сваёй вытворчасці. Ткалі палатно, якое потым ішло на вопратку. З абуткам былі праблемы. У асноўным насілі лапці, боты не куплялі, а шылі на заказ. Мой бацька рабіў басаножкі… драўляныя. Атрымлівалася ў яго гэта вельмі добра. Не было адбою ад вясковых дзяўчат. Боты ж штодзённа не насілі, а толькі па вялікіх святах. Маглі нават ісці ў царкву босыя, а абуваліся толькі там.

Як ствараліся калгасы, ведаю толькі са слоў свайго бацькі. Першыя былі створаны ў 1940 годзе да вайны. Іх тут было шмат: у Баярах, Навасёлках, Старых Габах, Займішчы. Людзі па-рознаму адносіліся да стварэння калгасаў. Хто быў бедны, ішоў з ахвотай, спадзеючыся на лепшае жыццё. Хто жыў заможна, ісці не хацеў, а ішоў таму, што баяўся. Дзед мой жыў заможна, меў вельмі многа зямлі. Але ён ведаў яшчэ да пачатку вайны пра Савецкую Беларусь. У яго быў дэтэктарны прыёмнік, слухаючы які, ён ведаў аб жыцці там. Таму ўступаць ці не ўступаць у калгас – пытання не было.

Адбылося ўз'яднанне Беларусі, прыйшлі бальшавікі, якіх ён так любіў і верыў ім. А яны неслі з сабой і новае жыццё. Дзед мой быў першым старшынёй Старагабскага сельсавета. Бацькі працавалі ў калгасе: мама – у паляводстве, тата – у будаўнічай брыгадзе, доўгі час быў яе брыгадзірам. Зарплату кожны месяц не выплачвалі, а налічвалі працадні, а зарплата выплачвалася адзін раз у год (па 5 капеек на працадзень і па 200 грамаў жыта).

“Не ўсе былі задаволены калгасным жыццём, – расказваў бацька. – Працавалі цяжка і за капейкі. Жылося нялёгка”.

У 1954 годзе я пайшла ў першы клас. Настаўніцай была Галіна Ігнатаўна Клебан. Вучылася я з ахвотай. Атрымлівала ў асноўным добрыя адзнакі, старалася. Дык як жа было не старацца! Бацька мой быў далёка не абыякавы да вучобы адзінай дачкі. Часта хадзіў у школу (гэта ж у той час!), гутарыў з настаўнікамі, праглядаў класны журнал. І не дай бог закрадзецца дзе тройка! Кары не мінаваць: гадзіна на каленях, або на гаросе. Я не крыўдзілася на яго за гэта. А цяпер, маючы ўжо сваіх праўнукаў, я вельмі ўдзячна яму за гэтыя моманты, за тыя метады выхавання, якімі валодаў гэты звычайны чалавек, мой дарагі бацька.

У Старых Габах быў медпункт. Сюды і звярталіся за дапамогай. Самымі распаўсюджанымі хваробамі ў той час былі водра, часотка, запаленне лёгкіх, педыкулёз. Была ў вёсцы бабка Паўліна (я яе таксама памятаю), якая лячыла людзей народнымі сродкамі, нават прымала роды.

Моладзь звычайна збіралася па нядзелях. Наладжвалі танцы. Дзяўчаты па чарзе выдзялялі свае хаты. У буднія дні вечарамі хлопцы хадзілі да дзяўчат. Яшчэ ставілі спектаклі, пастаноўкі, як іх называлі. Рабілі сцэну, завешвалі посцілкамі. Арганізоўвалі іх самі. Ездзілі нават у суседнія вёскі.

Прывозілі кіно. Не ўсе пападалі туды. Патрэбны былі грошы. Дзеці падглядвалі праз вокны, іх ганялі за гэта. Кіно глядзелі ў раскошнай вясковай хаце. Людзі пускалі з ахвотай, бо самім гаспадарам можна было глядзець фільм бясплатна. У хаце сядзелі на лаўцы, але такіх было нямнога, у асноўным усе сядзелі на падлозе. Паказ цягнуўся гадзіны тры, бо кінамеханік доўга корпаўся над кожнай часткай.

Пра пасляваенныя гады ўспамінаць мне амаль няма чаго, але асобныя моманты адлюстраваліся і ў маёй памяці. Добра памятаю, як перад Вялікаднем купілі крыху яблычнага павідла і схавалі да свята. Мне, хоць я і была ў бацькоў адна, не далі нават паспрабаваць. А потым разбавілі яго вадой, каб было больш, і пачалі есці толькі на першы дзень свята. Памятаю, як мне купілі цукерак «падушачак», якія зліліся ў вялікі камяк, сталі адной вялікай цукеркай. Шчасцю не было канца! Смачнейшых цукерак, здаецца, не было на свеце. І цяпер адчуваю іх смак. А як радавалася, калі мне купілі туфелькі блакітнага колеру (цяпер на такія нашы ўнукі і не глянулі б). Я не ведала, дзе іх паставіць. Памятаю, што доўга спала з імі.

Гэта самыя шчаслівыя моманты майго дзяцінства. Дык я ж была адна ў сям'і! А як жылося там, дзе дзяцей было шмат?! Жыццё ж нашых бацькоў было яшчэ горшае: цяжкая праца ад цямна да цямна за капейкі, амаль задарма».

*Запісаў Іван Часлававіч Босы, настаўнік беларускай мовы і літаратуры ДУА «Старагабскі дзіцячы сад–сярэдняя школа Мядзельскага раёна»*

**Успаміны Людмілы Пятроўны Клімовіч**,
1942 года нараджэння, жыхаркі вёскі Баяры Мядзельскага раёна Мінскай вобласці

«Нарадзілася я і вырасла на хутары каля вёскі Старыя Габы. Хутар называўся Любанскія. Сям'я была вялікая і вельмі дружная. Гаспадары – Лашук Сцяпан Васільевіч (мой дзядуля, які памёр у 1944 годзе) і Агата Сцяпанаўна (мая бабуля, якая памёрла ў 1949 годзе), іх старэйшы сын Сымон з жонкай Верай Іосіфаўнай і дачкамі Аленай і Зояй, сярэдні сын Пятрусь з жонкай Васілінай Антонаўнай і дзецьмі Люсяй, Жэняй і Сцяпанам, малодшы сын Уладзімір…

Але ж… *(задумалася).* А яшчэ ж у гэтай хаціне юціліся пасля вайны родзічы-пагарэльцы.

Запраўляла на хутары вельмі добрая і мудрая бабуля Агата Сямёнаўна. Родам сама была з Лейцаў. Бацькі яе яшчэ да рэвалюцыі ў пошуках лепшай долі выехалі ў Томскую вобласць. За ўсё жыццё яна з імі не сустракалася, сумавала вельмі па іх… Была яна ласкавая, добра спявала…

У сям'і любілі ўсе спяваць, мужчыны гралі на мандаліне. Добра помніцца, як было весела, калі збіраліся госці: песні, жарты. Але і дзяліліся ўсім тым, што мелі, гэтаму вучылі і дзяцей. Пасля вайны хадзіла шмат жабракоў і кожнаму што-небудзь давалі. Лічылася за грэх, калі чалавек пакідаў хату з пустымі рукамі.

Бацькі летам працавалі па гаспадарцы: аралі, сеялі, касілі, жалі, малацілі, даглядалі жывёлу і г. д.

У пасляваенны перыяд на канікулах працавалі ў калгасе на праполцы яравых культур, зграбалі сена, жалі жыта, ячмень, авёс; рвалі лён. Бацькі даглядалі свіней, а мы пасля ўрокаў дапамагалі… Гэта была катаржная праца, бо ўсё выконвалі ўручную.

Летам па чарзе праз дзён пяць даглядчыкі пасвілі свіней. Гэтую работу даручалі дзецям. Як гэта надакучвала!.. Таму на полі часцяком глядзелі на неба і малілі Бога, каб паслаў дождж, бо свінні яго вельмі баяліся і разбягаліся ў свінарнікі па сваіх катухах… А мы тады маглі пагуляць.

Дзёрлі і сушылі лазу, якую потым прадавалі. Ад паловы жніўня сядзелі ў балоце і сабіралі журавіны на продаж. Увесь час былі заняты працай. Без дазволу старэйшых з хутара нікуды не адлучаліся.

Пра вайну я помню з аповеду старэйшых: ад немцаў у час блакады хаваліся ў балоце ў пуні… Летам – духата і камары, зімой – холадна.

У час вайны жыллё і гаспадарка ўцалелі, а гэта галоўнае, бо потым не галадалі. Пасля вайны хаты будавалі з дрэва, якое набывалі за пэўную плату ў лясгасе. Будынкі крылі саломай. Цэглу на печы рабілі самі. Гліну мясілі нагамі, а потым яе раскладвалі ў форму і выціскалі цаглінкі, пасля іх сушылі ў цяньку. Працавалі талакой. Адзін аднаму дапамагалі. У дапамозе не адказвалі.

У асноўным ужывалі прадукты з уласнай гаспадаркі. У краме куплялі толькі спічкі, газу, соль, а на сахар грошай не хапала. Насілі дамашнюю вопратку. Але ва ўсіх была і святочная, якая ўцалела ад пажару ў час вайны. Тыя, у каго былі грошы, куплялі матэрыял у крамах і шылі ў вясковых краўцоў. Малым даставаліся абноскі ад старэйшых.

Калгас быў створаны ў 1948 годзе, першы старшыня – Ліхач Васіль. Вестку аб стварэнні калгаса ўспрымалі па-рознаму. Бедныя ўступалі ў яго з ахвотай, бо думалі, што адхопяць добры куш. Заможныя моўчкі аддавалі сваё дабро, бо баяліся быць высланымі. Заробкаў не было. У канцы года за працу атрымоўвалі мяшок жыта і пару рублёў. Працавалі за пустыя палачкі (працадні). Тагачасным калгасным жыццём не былі задаволены.

Магчымасць атрымаць адукацыю ў пасляваенны час была. Школа ў нашай мясцовасці была да вайны каля царквы. Немцы спалілі яе. І пасля, у мірны час, на гэтым месцы пабудавалі медпункт.

У 1944 годзе першым настаўнікам быў Фёдар Васільевіч Дземідовіч. З Тэраз-двору перавезлі хату былога польскага настаўніка Васькевіча ў Габы. У гэтай хаце абсталявалі два класныя пакоі і настаўніцкую. Спачатку была пачатковая, потым – сямігодка. У 1948 годзе ў крамах прадавалі кнігі, падручнікі, сшыткі, алоўкі, ручкі, партфелі… *(цяжка ўздыхае)*. Толькі не ва ўсіх было за што купіць.

У пасляваенныя гады можна было разлічваць на кваліфікаваную медыцынскую дапамогу. На Фельдшарска-адукацыйным пункце (ФАП) працавалі Котаў, Усовіч Сафія. Гэта былі на той час адукаваныя спецыялісты. Котаў пазней выехаў у Вільню і там таксама займаўся

медыцынай. Усовіч доўгі час працавала ў Мядзельскай Цэнтральнай раённай бальніцы (ЦРБ). Для лячэння часцей за ўсё рэкамендавалі аспірын… Найчасцей хварэлі прастуднымі хваробамі: прастуда, запаленне лёгкіх, у дзяцей – водра, свінка, коклюш. Былі распаўсюджаны кароста і педыкулёз.

Моладзі ў вёсцы пасля вайны было многа. Вольны час пасля работы заставаўся. Клуба не было, збіраліся па хатах. Весела было. Хадзілі ў царкву. У Габах быў фэст на Пакроўчыка (у пачатку кастрычніка) і Міколу, у Слабадзе – на Юра і Аляксандра Неўскага, у Маставых – на Іллю і Узвіжанне. У нядзелю і рэлігійныя святы арганізоўвалі вечарыны. Хлопцы па чарзе наймалі музыкаў з суседніх вёсак, а дзяўчаты абарудавалі хату для танцаў. Так доўжылася да 1957 года. А ў 1957 годзе (у гонар 40-годдзя Вялікага Кастрычніка) быў пабудаваны клуб з току, які праіснаваў да 2004 года. Збіралася вельмі многа моладзі. Наладжвалі гулянкі.

Жыццём краіны цікавіліся. Чыталі газеты. Дзядзька працаваў настаўнікам і выпісваў газеты, рабіў падшыўкі. Уся яго прэса захоўвалася. Быў патэфон з пласцінкамі. Збіралася моладзь паслухаць песні ў выкананні Русланавай, Уцёсава, Шульжэнкі. Быў радыёпрыёмнік з навушнікамі і на батарэйках. Сама я ўдзельнічала ў мастацкай самадзейнасці. Ездзілі на розныя конкурсы, агляды.

Я вельмі часта ўспамінаю тыя гады. Мне здаецца, што раней людзі жылі беднавата, але былі больш дружныя, больш цёпла адносіліся адзін да аднаго, стараліся дапамагчы… Цяпер жа не тое…».

*Запісаў Уладзімір Сяргеевіч Серадзінскі,*
*настаўнік гісторыі ДУА «Старагабскі*
*дзіцячагы сад–сярэдняя школа*
*Мядзельскага раёна»*

## **Успаміны Лашук Надзеі Сцяпанаўны**,
1917 года нараджэння, жыхаркі вёскі Старыя Габы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці

«Вырасла я тут, у гэтай вёсцы, дзе і нарадзілася. Акрамя мяне ў бацькоў былі яшчэ чатыры сыны і тры дачкі. Маці і бацька працавалі дома па гаспадарцы. Хата была свая. Мелі сваю скаціну. Я скончыла толькі пяць класаў польскай школы. Пасля вайны ўвесь час працавала паляводам у брыгадзе. Які цяжкі гэта быў час!

Замуж я выйшла ў 25 гадоў. А можа, мне ўжо 26 было? Я ўжо добра і не помню. Ды ладна. Я ўсім гавару, што ў 25. На той час гэта быў позні шлюб. А чалавек мой быў харошы. Любіў мяне крэпка. Шчаслівая я з ім была.

…У гады вайны страшная была блакада. Хавалася ўся сям'я ў балоце. У нас жа тут кругом балоты былі. Уцякалі. Хату кінулі, а скаціну з сабой у балота ўзялі. Баяліся немцаў. А пасля вярнуліся. Немцы нашай сям'і нічога благога не зрабілі. Хата наша была не разрушана. Была карова, гадавалі свіней, авечак. Бацька мой надта быў гаспадарлівы.

Пасля вайны елі, што было. Са сваёй гаспадаркі сякія-такія прадукты мелі. У краме не куплялі. Не, маню. Трохі куплялі, але ў асноўным елі сваё.

Апраналі тое, што засталося з вайны. У асноўным гэта былі льняныя вырабы. Была і святочная адзежа. Набывалі яе ў крамах. Некаторыя жанчыны, якія ўмелі шыць, шылі самі.

У нашай вёсцы калгас быў створаны, можа, у 1948 годзе. Я і старшыню першага помню – Ліхач Васіль. Ой, добры быў чалавек. Вестку аб стварэнні калгаса ўспрынялі па-рознаму. Многія не хацелі ўступаць. Ну, бедныя, лодары, ахвотна ішлі, а вось багацейшыя, як мой бацька, што ўсё са свайго мазаля, неахвотна. Мае бацька і муж новыя калёсы самі зрабілі, дык прыйшлося і іх аддаць. Аддалі і каня. Тата моцна плакаў *(задумалася, уздыхнула)*. Цэлыя суткі праплакаў.

Я працавала ўсё жыццё паляводам. Аднойчы прыбегла да нас суседка і сказала, што палучка: жыта будуць даваць. А далі ж!? Пару жменяў у торбачку. Цяжкое было жыццё? Не, я не ведаю, што сказаць. Усё ж адабралі: зямлю, каня, плугі, павозку.

Я скончыла 5 класаў польскай школы. У мяне жадання вучыцца не было. Цяжка тады было жыць, а магчымасць была: хто хацеў, той вучыўся. І з нашай вёскі некаторыя вывучыліся і нават былі начальнікамі. Школа стаяла ля царквы, драўляная. Помню добра настаўніка Дземідовіча Фёдара Васільевіча. Якраз пасля вайны яго направілі сюды паднімаць школу. Дырэктарам быў *(паўза)*. Бедным прыехаў у наш край, абутку людскага не меў, дык мой бацька пашыў яму боты, зжаліўся, шкада стала настаўніка. Добра, калі была адна кніга на ўсіх. Мая дачушка пасля вайны ў школу пайшла, дык пісалі на газетах. Чарніла рабілі з сажы і вады, дабаўлялі крушыну. Ну, яшчэ настаўнік даваў нейкае пяро для пісьма.

У нас у вёсцы быў фельчар. Котаў яго прозвішча. Да людзей, якія хварэлі, ездзіў на кані. А лячыліся найбольш травамі. Котаў даваў і нейкія каплі. Яшчэ можна было набываць лякарствы ў прыватнай аптэцы ў вёсцы

Ваўкалаты, якая знаходзіцца за 10 кіламетраў адгэтуль. Найчасцей хварэлі на запаленне лёгкіх і туберкулёз. Вольнага часу было мала, бо мелі вялікую гаспадарку. Трэба ж было неяк жыць і выжываць.

Клуба адразу пасля вайны не было. Пабудавалі яго толькі ў 50-ых гадах. На танцы хадзілі, а як жа. Моладзі было многа. Камандаваў усім клубны работнік. Свой гарманіст быў, талковы вясковы хлопец. Многія дзеўкі, што не былі замужам, на яго заглядаліся.

Пра жыццё краіны даведваліся праз прыёмнік. Усё, што там гаварылі, праўда была. Пра вайну многа гаварылі, пра будаўніцтва жыцця.

Не хочацца ўспамінаць пасляваеннае жыццё. Бясхлебіца была, людзі асаку збіралі і елі. А цяпер мы добра жывём. Дзякуй дзярждаве за ўсіх нас. Пенсія вялікая, хлеб ёсць, соль, цукар ёсць і ўсё астатняе. А купіць зараз можна, чаго толькі хочаш, чаго душа жадае».

*Запісаў Іван Часлававіч Босы,*
*настаўнік беларускай мовы*
*і літаратуры ДУА «Старагабскі*
*дзіцячы сад–сярэдняя школа*
*Мядзельскага раёна»*

## Полымя ружовых верасоў

***Анна Кірылаўна Тачыцкая,***
*настаўнік беларускай мовы і літаратуры*
*ДУА «Сваткаўская сярэдняя*
*школа імя Максіма Танка»*
*Мядзельскага раёна*

Цвілі верасы. Прывабна, кідка, непаўторна, незабыўна. Калі цвіце верас, не ўбачыш ні зеляніны, ні зямлі – спрэс ружавата-фіялетавы дыван кветак. І ад гэтага незвычайнага дывану ідзе дзівосны мядовы пах.

Шалясціць пад нагамі мох і сівец, гараць сіняватыя хвойкі верасу. Па ім поўзаюць мурашкі, вялікія, з крыльцамі, і лётаюць пчолы. Сядзе пчолка на верасовую галінку, гайдаецца, пасля нахіне яе аж да самай зямлі, абдыме ножкамі, перагнецца ўся, адтапырыць крыльцы і лезе з галоўкай ў маленькую кветачку. Пасля застыне, не кранецца, як памерла – п’е!..

Гадзінамі маленькая Галінка магла назіраць за цікавым жыццём у верасах. Тут і працавітыя мурашы, і вялізныя зялёныя стракозы,

і руплівыя пчолкі, і прыгажун-баравік сустрэнецца. Зямля пахне смалой, хмелем, мёдам… І дзядуля, які заўсёды раскажа лясную казку.

Адцвіталі верасы. Пад нагамі шоргала, трашчэла ігліца. Некалі такі прывабны вясёлы верасовы дыван пабурэў, парыжэў. І толькі там-сям яшчэ гарыць маленькае вочка асенняй верасовай кветкі, ірдзіцца барвінкай-кропелькай. Ногі бязлітасна наступаюць на сухую галінку – вочка пырскае на зялёны бруснічнік, коціцца агеньчыкам-зніччкай з лістка на лісток, стукаецца недзе ў шчарнелым імху, апошняй іскрынкай успыхвае і затухае…

Угрэтыя верасы пахнуць чаем і дымам.

Нясцерпна ныюць-баляць ножкі, яны не спраўляюцца з хуткай хадой дарослых. Сэрцайка стукае моцна-моцна, не хапае дыхання. Тата бярэ на рукі – дзіцячыя ручкі моцна абдымаюць яго за шыю. Галінка мацней прыціскаецца да грудзей. Сям'я ўцякае ад вайны… Пад нагамі трывожна і балюча асыпаюцца верасы... З памяці сціраецца, хочаш ці не, пачутае, убачанае, адчутае. Хутчэй ці павольней. Час стварае, час і абкрадае чалавека. Кажуць, і лечыць. Толькі не ўсе раны гояцца часам.

Колькі, пэўна, жыць давядзецца, мабыць, будзе ўспамінаць Галіна Уладзіміраўна Балаховіч, гледзячы на ружовыя верасы, той чорны дзень, калі палілі вёску. І будзе прыходзіць нечакана і раптоўна невыносна цяжкі пах, што працінае душу і цела, што даводзіць да няматы язык, да нясцерпнага болю душу. Пах спаленага двара, пах спаленай скаціны, пах спаленай вёскі… А ў вушах стаяць шалёнае ціўканне куль, калі мама прыкрывала яе сабой, і стук каваных ботаў па брукаванай вуліцы, калі палілі вёску…

Добрая дзіцячая памяць адгортвае старонку за старонкай яе нялёгкага жыцця… Ёй хочацца больш успамінаць не страшнае, чорнае, жудаснае, балючае, а тое, пасляваеннае, што заўсёды дорага дзецям: хату, сям'ю, бацькоў, школу. І няхай яшчэ смылелі раны, было вельмі балюча, галадна і холадна, але радасць перамогі, міру, таго, што вярнуўся тата, саграваліа дзіцячую душу. Дзіцячая памяць выхоплівае незабыўнае…

Людзі вярталіся на папялішчы, капалі зямлянкі, будавалі «ўрамянкі». Жылі па некалькі сем'яў. У цеснаце ды не ў крыўдзе. Дзяліліся ўсім, дапамагалі адзін аднаму. Цяжка было з ежай. Раскопвалі на пажарышчах у варыўнях бульбу. Спаленая, гнілая тая бульба. Які непрыемны пах ад яе ішоў, можна толькі сабе ўявіць. Але ў сярэдзіне заставалася трошачкі драўнінкі, жывой мякаці. Адбіралі, мылі тую бульбу і з крахмалу рабілі зацірку. Колькі не мылі, а пах заставаўся. Але ж голад рабіў сваё. А хлеб які! Праснакі. Заквашвалі на суткі: замешвалі мучыцы збор (быў і авёс, і ячмень, і жыта) і дабаўлялі лебяду, змолатыя галоўкі канюшыны, верасу… Вымешвалі, пяклі ў печы праснакі. І якія ж смачныя здаваліся

тыя нішчымныя праснакі, падзеленыя клапатлівай мамінай рукой крыж-накрыж на ўсю сям'ю. На канюшыне, на любімым верасе… А лубін… Горкі сіні лубін, яго вымочвалі, а потым елі. А ён усё роўна гарчыў…

Занарацкі край быў непагарэўшы. Людзі ішлі туды зарабіць, а плацілі гарцамі ячменю ці аўсу, ці мукой якой. Спрытныя ўвішныя жанчыны рабілі з аўсу такую смачную мілту, што не расказаць, смак яе не забыўся і сёння. Вось толькі ўдосталь можна было наесціся. З болем, са слязамі ўспамінала яна, як панесла тату падвячорак: кавалачак праснака, стакан той мілты. А ён, спрацаваны, стомлены, аддаў яе галоднай дзяўчынцы… А смак чарнічных бліноў і цяпер адчуваецца ў роце. Найпершыя прысмакі! Так хацелася салодкага! І ў магазіне дзеці мянялі яйка на пранік або цукерку-падушачку.

А якое шчасце было гатаваць вячэру на ламу (сумесна). Знасілі да кастра ўсё, што ў каго было. І гэтак весела было каля гэтага кастра. Спявалі дарослыя, гулялі дзеці, усе радаваліся, што скончылася вайна, вярнуліся дадому аднавяскоўцы. І тая цёплая атмасфера, і добразычлівыя адносіны, што ўсталёўваліся ля кастра, і водбліскі вогнішча нагадвалі ўражлівай дзяўчынцы ружовыя верасы – верасы дзяцінства… І лілася маміна песня, родная, чароўная:

Там за гаем, за Дунаем,
Там дзяўчына жыта жала.
У правай ручцы серп дзяржала,
А леваю сабірала…

Яна пранізвала густую ноч, вяртала ў маленства, падбадзёрвала ў працы. Як сябе памятае Галіна Уладзіміраўна, у сям'і заўсёды гучала песня: і калі жалі, і калі пралі, і калі ткалі. І ў будзень, і ў свята «звінела» вёска. Песні і танцы ва ўсіх канцах былі. Ігралі і на балалайцы, і на цымбалах, і на скрыпцы, і на гармоніку, і бубен звінеў – цэлы аркестр. Запоўнілася ёй, як дружна святкавалі (амаль што ўсёй вёскай, бо ўсе ў той ці іншай ступені родзічы) Каляды, Вялікдзень, Дзяды… У Дзень Перамогі заўсёды пачыналі застолле песняй «Вставай, страна огромная». Потым ішлі іншыя ваенныя песні, а затым народныя, маміны, любімыя… Увесь адрэзак жыццёвага шляху Галіны Уладзіміраўны прашнураваны песняй. Спачатку чула матчыну калыханку, затым спявала, прадучы за маленькім калаўроцікам разам з маці; седзячы на печы, слухала песні ў бяседах; спявала, жнучы жыта, працуючы ў школе… Больш за трыццаць год спявае ў фальклорна-этнаграфічным Народным калектыве «Вузлянка»…

Настаўніца па прафесіі, яна добра памятае сваю пасляваенную школу, якая адкрылася ў адной з незгарэўшых хат. Як жа яна імкнулася ў школу!

І хоць маці не хацела пускаць, бо малая, сем гадочкаў, але настаўнік Сцяпан Фёдаравіч Балаховіч угаварыў. Тое школьнае жыццё Галіна Уладзіміраўна памятае да драбніц. Вучыліся па адным буквары. Якім цудам ён патрапіў? А дзяцей многа. І большасць пераросткаў. Пісалі вуглем па белай дошцы. Цяжка было яе сцерці, адмыць, але адмывалі. Чарніла спрабавалі рабіць з ягад крушыны, з сажы. Але найлепш упадабалі чарніла, што прыдумалі рабіць з чырвонай ракеты, але яно вельмі мазалася. Сядзелі дзеці, умазаныя чырвоным, бы тыя ружовыя верасочкі, і смяяліся адзін з аднаго. А пісалі, на чым прыйдзецца: на газетах, на картоне. Прыдумалі шыць сшыткі з карычневых мяшкоў ад толу. Гэта быў цэлы складаны працэс. Мяшкі тыя чысцілі, сушылі, разгладжвалі качалкай, рэзалі на старонкі і сшывалі ў сшыткі. А якая радасць была, калі вярнуўся тата і прывёз сапраўдныя сшыткі (і тоўстыя, і тонкія), самапіскі-ручкі, алоўкі, бутылачку чарніла!

Але найбольшае шчасце было ад таго, што тата вярнуўся, няхай паранены, але ж жывы. Пэўна, пачуў Бог шчырую малітву дзяўчынкі з вогненнай вёскі, якая, удзельнічаючы ў конкурсе сачыненняў «Пісьмо на фронт», пісала: «Каб даў Гасподзь Бог, каб ты, тата, вярнуўся дамоў…». І дзялілася маленькая Галінка сваёй радасцю: хоць па лісточку, ды дзялі-лася з дзецьмі…

Жыццё працягвалася. Дарослыя будавалі хаты, дапамагалі адзін аднаму талакой. Будавалі з вялікімі шматлікімі вокнамі, бо так надаелі цёмныя цесныя зямлянкі («урамянкі»). Дзеці вучыліся, дапамагалі дарослым па гаспадарцы, знаходзілі час і пагуляць у спрадвечныя дзіцячыя гульні: пікара, скаканкі, коўзанкі. Праўда, незаўсёды вытрымліваў абутак. Ліпавыя лапцікі, лапцікі з ільняных вяровачак, падшытыя скуркай, былі лёгкімі, але ў слякаць (ад вады, снегу) размакалі. Больш практычна зарэкамендавалі сябе кляпанікі з гумы.

Кару вольхі выкарыстоўвалі ў якасці фарбавальніка посцілак, коўдраў, адзення. І яшчэ адзін арыгінальны спосаб знайшлі вяскоўцы фарбаваць тканіну. Каля Вузлы было месца ў прытоку ракі, дзе была гразь. Менавіта з гэтага месца бралі яе, дабаўлялі жыжу кіслай капусты, хавалі туды тканіну, ніткі і фарбавалі. Клубочак такіх нітак і да гэтага часу дзесьці захоўваецца ў Галіны Уладзіміраўны.

Такой жа чорнай, з бураватым адценнем, бы тыя верасы пасля зімы, ніткай пранізвае яе ўспамін пра калгаснае жыццё: і добраахвотнае ўступленне, і аб'яднанне маёмасці, і абрэзка зямлі пад самыя вокны, і нішчымныя працадні, і непасільная цяжкая праца. І той страшны момант, жахлівы для дзіцячага розуму, і цяпер стаіць перад вачамі: брыгадзір, выганяючы маці жаць, давіць-топча канём маленькіх гусянят, жоўтых,

цёплых, бездапаможных камячкоў… Яшчэ нядаўна жвавыя, сонечныя, пушыстыя, яны цяпер крывавымі ашмёткамі ляжалі ў гразі. А дзіцячае сэрцайка заходзілася ад невыноснага болю, ад неразумення «чаму?», «за што?». І нямы крык адчаю і болю зрываўся з дзіцячых вуснаў, а вочы засцілалі слёзы. І зноў крывавым вогнішчам успыхвалі верасы.

Яна і сёння не можа спакойна прайсці па верасах. Яны як успаміны яе дзяцінства: ружовыя – светлыя і шчымлівыя, радасныя і шчаслівыя, чырвона-фіялетавыя – вогненныя і балючыя, чорныя і горкія, з пахам дзяцінства, абпаленага вайной.

## Птушкі яе ўспамінаў

***Анна Кірылаўна Тачыцкая,***
*настаўнік беларускай мовы і літаратуры*
*ДУА «Сваткаўская сярэдняя*
*школа імя Максіма Танка»*
*Мядзельскага раёна*

Сустрэча з гэтым чалавекам заўсёды жаданая і цікавая, яркая і запамінальная, эмацыянальная і шчымлівая. Сустрэчы-радасць, сустрэчы-свята, сустрэчы-урокі. Сустрэчы з Вольгай Іванаўнай Пястун, былой настаўніцай нямецкай і беларускай моў і літаратуры, выдатнікам народнай асветы БССР, ветэранам працы, кавалерам ордэна «Знак пашаны», чалавекам надзвычай цікавым і непаўторным, прыгожым і абаяльным, мудрым і вопытным, інтэлігентным і таленавітым, вытанчаным і простым.

Вось і сёння адна з такіх незабыўных сустрэч сустрэча-успамін. Я гляджу ў яе задумлівыя, крышку стомленыя, але такія яшчэ маладыя (з іскрынкай, гарэзлівыя!) вочы, слухаю яе мяккі грудны голас, поўны розных эмацыянальных адценняў, і разам з ёю пераношуся ў той далёкі жнівень 1950 года, калі 20-гадовая настаўніца ўпершыню ступіла на Сваткаўскую зямлю, якую лёс наканаваў для яе стаць другой радзімай.

Першыя незабыўныя ўражанні былі ад мясцін, якія так адрозніваліся ад родных глыбачанскіх прастораў. Балоцістая, лясістая мясцовасць больш нагадвала маладой настаўніцы коласаўскую палескую глуш. І тым не менш вабіла сваёй непаўторнай маляўнічасцю.

Вёска размяшчалася на ўзгорку над ракой Вузлянка, ахінутай падковай векавечнага бору. На той час яна была не такая ўжо і вялікая: хат 55-57, непранумараваных, новых, наспех пабудаваных пасля ваеннага пажарышча і яшчэ далёка не даведзеных да пэўнага ладу. Вуліца адна,

шырокая. Дзе-нідзе ўцалеўшыя ад агню старыя дрэвы: ліпы, дубы, бярозы. І велізарны сад дзеда Якуба вабіў у тую восень мноствам яблыкаў і дуляў (сорт груш). Захавалася на той час і некалькі зямлянак (часовае прыстанішча пасля пажару), пэўны час служыўшых за лазні.

Знаёмячыся з вёскай, маладой дзяўчыне кінулася ў вочы хата Пестуна Сцяпана Марцінавіча (яна стаіць і сёння!), дабротная, вялікая, з пяццю вокнамі да вуліцы. Пасля высветлілася, што толькі адна яго хата і ўцалела ў час пажару, а падобных хат да пажару было многа.

Вясковую вуліцу перасякала дарога з Халмоўкі на Мядзель, раздзяляючы Сваткі на дзве палавіны. Ускрай раскрыжавання захаваўся шырокі цвінтар (ад польск. cmentarz – магільнік), відаць яшчэ было многа магіл. На некаторых помнікі з выяўнымі надпісамі; цэментныя моцныя слупы ад быўшай агароджы цвінтара, неразбураная брама (існуе і па сённяшні дзень!), каменны абчосаны брук, што вёў да былой царквы, ад якой застаўся толькі каменны падмурак. Па сведчанні мясцовых жыхароў, і царкву, і вёску спалілі не нямецкія карнікі, а тутэйшыя партызаны з мэтай перашкодзіць дыслакацыі нямецкіх войск.

Такой запомнілася вёска Вользе Іванаўне Драгун.

Жоўтым кляновым лістком, нясмелым захлібістым званком, што ліўся з ваеннай гільзы, паклікала школа 1 верасня 1950 года Вольгу Іванаўну на яе першы ўрок.

Дзяцей было многа пасля вайны. Школа за ракой не магла змясціць у сабе ўсіх вучняў. Класы мнагалюдныя: 2 пятых, 2 шостых, сёмы, чатыры пачатковых. Заняткі ў 8-ым класе пачаліся далёка не з першага верасня, а дзесь пад Новы год. Васьмікласнікі вучыліся ў Княгініне, Мядзелі, Крывічах, Слабадзе – дзе каму было зручней. І толькі ў канцы другой чвэрці вярнуліся ў сваю школу 11 чалавек. Займаліся ў дзве змены. А РАНа наймаў прыватныя дамы для класных пакояў у вёсцы: у Пестуна Сцяпана Марцінавіча, Пестуна Серафіма Марцінавіча, Хацяновіча Андрэя, Хацяновіча Спірыдона, Калбуна Якуба.

З усмешкай Вольга Іванаўна ўспамінае, як настаўнікі займаліся кросам, бегаючы з аднаго будынка ў другі, ледзь паспяваючы за перапынак. А старэйшыя педагогі былі задаволены і гэтым, бо толькі пару год таму школа поўнасцю пераехала ў Сваткі з Замашша.

*Што гэта былі за гады!* – не то з сумам, не то з болем зазначае субяседніца. – *І хоць ніхто з настаўнікаў на той час не меў закончаную вышэйшую адукацыю, і не меў магчымасці ў тыя гады карыстацца дапаможнай літаратурай і тэхнічнымі сродкамі, працавалі ад усёй душы, шчыра, добрасумленна, з энтузіязмам. А вучні цягнуліся да навукі, як парасткі да веснавога сонца. І ні цяжкія тагачасныя хатнія ўмовы*

*(беспрасветная беднасць), ні далёкая адлегласць ад школы (хадзілі пехам за многа кіламетраў у любую пару года), ні адсутнасць вучэбнай нагляднасці (сшыткаў – пісалі на газетах, алоўкаў – рабілі чарніла з сажы, ягад крушыны) – нішто не з'яўлялася перашкодай для іх старанай, упартай работы.*

У пачатку 50-ых гадоў працаваць настаўнікам было складана: радыёфіксацыі на вёсках не было, кінаперасоўка прыязджала 1-2 разы ў месяц, у бібліятэках кніг як кот наплакаў. Аб тэхнічных сродках і не чулі. І толькі адзін настаўнік быў цэнтрам увагі. А класны кіраўнік мусіў быць не толькі арганізатарам і інфарматарам, але і дырыжорам, і рэжысёрам, і балетмайстрам, і мастацтвазнаўцам, і Бог ведае яшчэ кім. А з другога боку, дзеці былі больш усім зацікаўленыя, актыўныя, адказныя ў любых мерапрыемствах, толькі падай ідэю. І па сённяшні дзень саграваюць былую настаўніцу ўспаміны пра школьны драматычны гурток. Да драбніц памятае першы дэбют з Купалаўскай «Паўлінкай», тую ўпартую працу, рэпетыцыі, што нараджалі ў душы сапраўднае свята. Тыя першыя школьныя гады Вольга Іванаўна ўспамінае як першыя крокі свайго педагагічнага росту, сталення, вопыту, першыя крокі таго школьнага шляху даўжынёй у 43 гады. На дзіва, яна і сёння памятае кожны свой выпуск, кожнага свайго выхаванца, але свой клас-«першынец» – да драбніц. Як усё першае, непаўторнае, незабыўнае…

А памяць зноў закранае балючае: прымусовую арганізацыю калектыўнай гаспадаркі. Для селяніна гэта быў шок: аддай бясплатна зямлю, каня, інвентар, будынкі – няма за што рук зачапіць. Ручная праца, не вельмі ўраджайная глеба (пяскі, падзол), мізэрны ўраджай, львіная доля якога належыла дзяржаве. З калгаснікамі разлічваліся працаднямі, на якія атрымлівалі ў канцы года па некалькі грамаў зярна, г. зн. за ўвесь год працаўнік мог зарабіць ад сілы мяшок збожжа. Чым было карміць сям'ю? Беднасць ва ўсім. Вельмі ўразіла маладую настаўніцу, як на той час была абута большасць дарослых і дзяцей у гумовыя кляпанікі, а ногі абматаныя анучамі. Такое яна бачыла ўпершыню. На Глыбоччыне нават пасля вайны жылі намнога багацей. І калгасы арганізавалі толькі ў 50-ых гадах, а тут, на Мядзельшчыне, з вясны 1948 года. Людзі, як маглі, уладкоўваліся на работу па-за калгасам, некаторыя сем'і пакідалі бацькаўшчыну і ўцякалі ў Карэлію, Латвію, Паволжа…

Усталяваўся новы від падаткаў. Бяздзетны, жанаты ты ці халасты, раз не маеш траіх дзяцей – плаці.

А яшчэ дзяржаўны заём – «дабравольны». Але яго падпісвалі прымусова. І Вольга Іванаўна не проста з болем, але і з сорамам расказвае, як настаўнікаў прыцягвалі дапамагаць раённым упаўнаважаным:

*– Бывала, сядзім 4-5 чалавек у сялянскай хаце цэлую ноч! Не спім самі і не даём спаць гаспадару, угаворваючы, прымушаючы, пагражаючы падпісаць тую суму, якую назначыў сельсавет. Чым і як ён выплачваў заём за цэлы год (на наступны год будзе новы!), уявіць цяжка… Дэфіцыт у магазінах тавару: хлеб (і то не заўсёды – хто выпякаў свой, а хто хадзіў-ездзіў у Мядзель, Вілейку), соль, газа, кансервы, цукеркі-падушачкі…*

З усмешкай успамінае Вольга Іванаўна і пра такую дапамогу калгасам: настаўнікам трэба было хадзіць з лекцыямі на фермы, агітаваць людзей лепш працаваць. І вось аднойчы ішла яна з сяброўкай з такой місіяй на ферму. Снегу – ні пралезці. Гурбы – па пояс. Едзе брыгадзір на кані, прыпыніўся і з рогатам: «Ну, заўтра каровы дадуць малака!» – сцебануў каня і быў такі. А дзяўчаты патэпалі далей па снезе. Вось такія пагардлівыя адносіны начальнікаў да простых людзей… А людзі маўчалі. За выпадковае слова абурэння – турма ці вываз…

І людзі неяк выжывалі. Адбудоўваліся, дапамагалі адзін аднаму, жаніліся, выходзілі замуж… Вечарамі спявалі, танцавалі…

З цеплынёй у голасе, з любоўю ўспамінае Вольга Іванаўна пра сваё любімае дзецішча – знакаміты, самабытны калгасны хор – гонар усяго раёна. Ён стварыўся па ініцыятыве тагачаснага старшыні Жоглы Аляксандра Ігнацьевіча, любіцеля мастацкай самадзейнасці. І Вольга Іванаўна кіравала ім на працягу 28 гадоў!!! Гэта частка яе жыцця. Жыцця, аддадзенага песні.

Мне сёння цяжка ўявіць, як у тыя нялёгкія пасляваенныя гады маладая настаўніца, маці траіх дзяцей, паспявала ўсюды: і ў школе, і па гаспадарцы, і ў сям'і. Вытрымала і шматлікія школьныя праверкі, і бытавыя сямейныя клопаты, і праблемы з рэпетыцыямі, бо сабраць спевакоў было не проста: людзі сямейныя, стомленыя калгаснай працай, затрымлівала ўласная гаспадарка. І ўсё ж яна бегала да кожнага ў хату, угаварвала, упрашвала, умальвала. Адкуль толькі сілы браліся ў гэтай худзенькай, сярэдняга росту жанчыны? І не зламалася, выстаяла, бо сэрцам любіла песню, родную, беларускую. І вяскоўцы гэта адчувалі. Слухаліся і паважалі сталыя ўжо дзядзькі і цёткі маладзенькую настаўніцу, да якіх яна заўсёды звярталася па імені і па бацьку.

Не зламалася, выстаяла і дабілася вялікага поспеху, бо хор «грымеў» не толькі ў раёне, але і ў вобласці, рэспубліцы. Высокую ацэнку яму давалі Народны артыст СССР Р. Р. Шырма, народны артыст БССР Г. Н. Цітовіч, народны артыст СССР В. У. Роўда, а таксама Раговіч, Шутаў і многія другія знатакі спеваў. Пра хор пісалі і раённыя, і рэспубліканскія газеты, яго паказвалі па тэлебачанню. За 28 год ён даў сотні

канцэртаў, удзельнічаў у рэспубліканскіх і раённых фестывалях, конкурсах-аглядах, святах, узнагароджваўся ганаровымі граматамі і дыпломамі. Але самай большай узнагародай была тая радасць, свята душы ад той духоўнай еднасці, якая ўзнікае толькі падчас заняткаў любімай справай.

З Вольгай Іванаўнай можна гаварыць бясконца. і ніколі не стомішся, не засумуеш, заўсёды адкрыеш для сябе нешта новае, атрымаеш мудрыя жыццёвыя ўрокі. З ёй заўсёды спакойна, цёпла, добра і ўтульна. Хата яе і сёння гасцінна расчынена для аднавяскоўцаў, настаўнікаў, вучняў, гасцей. Яна і сёння жыве актыўным жыццём: неабыякавая ні да спіленых каля помніка дрэў, нераўнадушная ні да просьбаў, з якімі да яе звяртаюцца людзі (і ніколі не маюць адказу!), баліць-смыліць душа за школьны музей Максіма Танка, хвалюецца за лёс роднай мовы і піша мемуары, дзеліцца ўспамінамі, якія няўрымслівымі разнакаляровымі птушкамі вяртаюцца да яе.

Яркія, шчабятлівыя птушкі дзяцінства…

Чорныя і вогненныя птушкі вайны…

Шэрыя, трывожныя і гарластыя, пасляваенныя…

Руплівыя, працавітыя ластаўкі педагагічнай нівы яе дзейнасці…

Вяртаюцца спеваком-салаўём яе незабыўнага кахання…

Нарачанскімі сціплымі галасістымі чайкамі, што луналі над азёрнымі хвалямі «Пеўчага поля»…

Белымі бацянамі, гордымі птахамі, чыстымі і вернымі, якія заўсёды вяртаюцца ў родныя гняздоўі…

## Той бераг далёкі…

***Анна Кірылаўна Тачыцкая,***
*настаўнік беларускай мовы і літаратуры*
*ДУА «Сваткаўская сярэдняя*
*школа імя Максіма Танка»*
*Мядзельскага раёна*

Вёска спіць…

Ціха-ціхутка ў хаце. Даўно скончаны ўсе тэлеперадачы, маўчыць радыё. На двары ўжо густая, цёмная ноч. Святло ліхтара, нягледзячы на занавескі, сарамліва прасочваецца ў хату. А ёй усё не спіцца… Баляць, ныюць ногі, мярцвеюць рукі, спрацаваныя, пакручастыя, мазолістыя. Яна варочаецца з боку на бок, быццам шукаючы паратунку ад нязванай госці-бяссонніцы. Пільна ўслухоўваецца ў начныя гукі: дзесьці за шпалерамі

заскрэблася надаедлівая мыш, саскочыў з печы кот і, асцярожна крадучыся, затаіўся ў засадзе; па вуліцы праімчала запозненая машына, праразаючы вокны яркім святлом; недзе азваўся сабака… І зноў усё сціхла. Ёй не спіцца… Мерна цікае гадзіннік-ходзікі, адлічваючы стужку часу назад.

Гады і дзесяцігоддзі. Сцяжынкі і дарогі, шляхі і гасцінцы, радасці і неспакой… Усё гэта робіць сваё. Але яе памяць, яе ўспаміны, як усплеск душы, што ніколі не ведае спачыну, як туга сэрца, якое пастаянна рвецца да незабыўных гадоў маленства, юнацтва. І тое, што назаўсёды пранікліва запала ў памяці, згадваецца штораз, быццам гэта было ўчора. Той бераг такі далёкі…

Бераг ракі дзяцінства. Вузлянка… Пакручастая, звілістая загадкавая стужка. Яна падыходзіла пад самую вёску, адлюстроўваючы ў сабе цяністыя векавыя вербы і густы маладняк вербалозаў. Маляўнічая мясціна! Асабліва вясной, калі рака выходзіла са сваіх паўнаводных берагоў і затапляла не толькі прыбярэжныя лазнякі, але і бліжэйшыя будынкі: лазні, пуні, пунькі, павеці… Грэбля-дарога выглядала тады так, быццам сялянкі разаслалі саматканыя палотны, каб адбяліць іх на сонцы і ў вадзе. На масту ў час паводкі дзяжурылі мужчыны з баграмі, накіроўваючы паміж паляў крыгі, што плылі з Наўранскага возера.

Яна памятае незабыўную карціну: звілістая сіняя стужка на агромністым залатым дыване лотаці і дзіцячыя босыя ногі шлэпаюць па цёплай вадзе, разганяючы палахлівых сонечных зайчыкаў. Можна крыху падурасліваіцца, але мама загадала нарваць кошык лапуху (лотаці) карове. Пазней бегалі збіраць свіннакроп, гігель гладкі (хвошч)… А летам… Кошыкамі цягалі з ракі ракаў, ментузоў, галавачоў, крумлёў. Моладзь пераходзіла раку па вузкай кладцы. Колькі было смеху, піску, жартаў! І вада чыстая-празрыстая! І хлопчыкі з самаробнымі вудачкамі ўскрай берагоў.

Тыя берагі памятаюць, як гарэла вёска, гарэла царква на ўзгорку, падпаленая партызанамі з мэтай перашкодзіць дыслакацыі нямецкіх войск. Агромністае полымя, нібы ў пекле, скакала-адплясвала д’яблаў танец у вогненнай віхуры, адбівалася ў воднай гладзі ракі згараючай свечкай царква, і аплаўленым воскам боль асядаў у сэрцах і душах людзей. А нястомная Вузлянка ціха кацiла свае воды далей…

Той бераг памятае і яе першае, трапяткое, нясмелае каханне. Векавечныя вербы, схіленыя над самай вадой, дурманлівы пах чаромхі і салаўіныя песні-трэлі для закаханых. Здавалася, салаўі спявалі толькі для іх, дваіх. І яны, разлучаныя ліхалеццем, прагна пілі хвіліны шчасця за сябе і за тых, каму не наканавана было вярнуцца дадому.

Вечары і ранкі на мурожных берагах юнацтва… Яны мала змаглі пацешыцца спакойным сямейным жыццём, не паспелі ўстаць на ногі пасля разбураных гаспадарак, як навалілася новая бяда – прымусовая арганізацыя калгасаў, і праца ў калгасе… Тыя берагі з'яўляюцца сведкамі і калгаснага жыцця. Ручная праца (адна машына на калгас!), малаўрадлівая падзолістая глеба, мізэрныя ўраджаі, разлік за працадні – мяшок збожжа за год. Як жыць? Чым карміць сям'ю? А плаціць падаткі? А падпісваць дзяржаўныя заёмы?

Выжывалі, як маглі: хто ўладкоўваўся на работу па-за калгасам, як яе муж, хто пакідаў бацькаўшчыну, як многія вяскоўцы. Каб плаціць меншыя падаткі, у лесе хавалі скаціну. За нездадзеную скуру жывёлы – штраф! Ёй ніколі не забыцца, як брыгадзір выганяў (у прамым сэнсе гэтага слова) людзей на работу, не глядзеў ні на якія прычыны: мог выліць у печ вядро вады, хоць там гатавалася ежа для дзяцей; абшукаць, нібы следчы, дварышча, хлявы, пуні. А яна аднойчы схавалася проста пад ложак. Ён яе не знайшоў, не здагадаўся.

Затым нарадзіліся дзеці: Ларыса, Віцька, Саша. І замест доўгачаканай радасці – новыя клопаты. Як гадаваць? Толькі тры тыдні дазвалялася пабыць з дзецьмі-груднічкамі. А там, як можаш. І каб не мама (гадавала ўсіх унукаў, як у яслях!), то як бы і справілася.

Праца выматвала. Хоць маладая была, дужая, але ж уручную ўсё: жыта жалі, бульбу капалі, сена касілі, сушылі, на сабе цягалі. А з ільном колькі работы! Пасеяць, вырасціць, прапалоць, вырваць, звесці, высушыць, абабіць, страпаць. Ад вечнай работы так хацелася спаць, хоць крышачку адпачыць. А аднойчы, калі сушылі ў лазні лён і спявалі, каб не заснуць, кожны сваю песню, справілі такі гвалт, што мёртвага можна было падняць.

А дома чакалі дзеці, свая гаспадарка, якая і дапамагала неяк выжываць. І трэба было на сям'ю напрасці (лён па жмені кралі з калгаса, бо не было калі расціць свой), наткаць, бо зношвалася тое, што было прыхавана ў ямах у гады вайны, а ў крамах нічога не было, і купіць не было за што. А яшчэ замясіць хлеб, выпячы так званую сітніцу. Рэцэпт гэтай «сітніцы» памятае і цяпер: вараную бульбу таўклі ў ступе з аржаной мукой (мукі было мала), у драўлянай дзежцы замешвалі з вадой, давалі падкіснуць, затым цёрлі сырую бульбу, дабаўлялі соль, тмін па смаку, вымешвалі – і выпякалі сітніцу. Яна атрымлівалася белая, пульхная… А на смак… Смак гэтага хлеба і цяпер адчувае ў роце.

Дзень – праца ў калгасе, ночы не хапала, каб перарабіць хатнія справы. Стомленая, нераспранутая, валілася прама на падлогу, каб хоць гадзіны дзве, што засталіся да першых промняў сонца, да першых крыкаў

пеўняў, звесці вочы. А раніцай выпаліць у печы, справіцца па гаспадарцы, адправіць дзяцей у школу… І зноў праца ў калгасе… І скрашвалася тая цяжкая, непасільная, нежаноцкая праца песняй, роднай, матчынай, неўміручай. Яна лілася над берагамі Вузлянкі заўсёды: і калі жалі жыта, і калі сушылі сена, і калі палолі і рвалі лён, і калі ехалі ў адкрытай машыне, і калі ішлі дадому. Прытуплялася стома, адыходзіў сон, цяплела на душы ад гаючых гукаў песні. Спявалі і ў будні, і ў святы, і народныя і савецкія.

Яна даўно ўжо не спявае, але мелодыі любімых песен і сёння гучаць у яе душы: «Зарасла мая дарожанька», «А ў полі тры дубы», «Каліна ў лесе», «У бары-бары тры дарожанькі», «Купало, кацілася сонца, Купало»… Як сябе памятае, заўсёды спявала: спачатку з маці, затым у царкоўным хоры, на вячорках, на жытнёвай ніве, на прырэчных лугах, ля вогнішчаў на беразе Вузлянкі ў Купальскую ноч, на вяселлях, заручынах, радзінах… У хоры калгаса «Зара» спявала з дня яго нараджэння (7 лістапада 1956 г.) усе 28 год яго існавання і не прапусціла ніводнай рэпетыцыі… Чаго ёй гэта каштавала – не перадаць словамі. Але спявала разам з мужам, дома дапамагалі дзеці, маці. А песня была не толькі любімым захапленнем, але і акенцам у вялікі свет: шматлікія паездкі давалі магчымасць пабачыць новыя мясціны.

Сённяшняя моладзь не помніць (ды, пэўна, і не ведае!), што да 70-ых гадоў існаваў закон, па якому ні адзін калгаснік без дазволу і спраўкі старшыні калгаса (а тады пашпартоў калгаснікам не выдавалі) не мог пакінуць свой калгас, яго без спраўкі нідзе на работу не прымалі, а судзілі як бегляка. Нават выпускнікі школы прасілі-выпрашвалі ў старшыні (праўлення калгаса) спраўку, каб паехаць вучыцца ў горад.

Шмат часу прайшло з той пары. Шмат вады ўцякло ў Вузлянцы. Ды і Вузлянка ўжо не тая… Там, дзе журчэла-звівалася, пятляла рака, дзе рыбы было хоць порткамі лаві, зараз гэта прамая амаль што траншэя. Меліярацыя ў 60-ых гадах пракапала для Вузлянкі новае рэчышча. Прыроднае русла спрасцілі, выраўнялі, выпрамілі, а тым самым загубілі прыродную прыгажосць ракі, яе звілістую паўнаводную стужку. І не тыя яе ўжо берагі, далёка не тыя. Гарачыя галовы загубілі, звялі тысячы рачулак, што журчэлі ў самых розных вугалках нашай Беларусі, напаўняючы дзяцінства нашых бацькоў і нашае шчаслівым звонам.

Той бераг далёкі… Бераг ўспамінаў Роўда Валянціны Іванаўны, адной з многіх тысяч беларускіх жанчын-сялянак, самаахвярных працаўніц, на чый лёс выпала адбудоўваць спаленыя хаты, падымаць сельскую гаспадарку, раджаць і гадаваць дзяцей і заставацца Жанчынай, Маці, Чалавекам…

# Уклад у сусветную культуру ўраджэнцаў Капыльшчыны, якія эмігрыравалі на пачатку ХХ стагоддзя

***Таццяна Аляксандраўна Варанцова,***
*старшы навуковы супрацоўнік*
*ДУ «Капыльскі раённы краязнаўчы музей»*

Музей у сучасным свеце заўжды шукае новыя формы і метады работы. Прэзентацыі, музейныя і літаратурныя вечарыны, этнаграфічныя святы і іншыя формы музейнай дзейнасці сталі сёння звычайнай з’явай у кожным музеі. Калі сюды яшчэ дадаць такія формы пазамузейнай дзейнасці, як лекцыі, перасоўныя выставы, музейныя заняткі, стане відавочна, што сродкаў для ажыццяўлення дадзеных мерапрыемстваў у музеі не заўжды і хапае. Добрым вырашэннем пытання стаў удзел музея ў розных праграмах і праектах. Гэта дало магчымасць выдаваць буклеты, брашуры як вынік работы для папулярызацыі музейных калекцый і для ажыццяўлення аднаго з відаў дзейнасці музея – чытання лекцый.




У 2010 годзе Капыльскі раённы краязнаўчы музей сумесна з прадстаўніцтвам зарэгістраванага аб’яднання «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» (Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь рэалізавалі праект «Уклад у сусветную культуру ўраджэнцаў Капыльшчыны, якія эмігрыравалі на пачатку ХХ стагоддзя» ў рамках конкурсу «Гісторыя ХХ стагоддзя ў адукацыі дарослых». Тэма праекта была выбрана не выпадкова, паколькі гісторыя эмігрантаў з Капыльшчыны была мала вывучана, а знакамітыя імёны за межамі краіны заставаліся невядомымі на нашай зямлі.

Прыкладам могуць служыць паэтэса Зоф’я Манькоўская (Тшашчкоўская) з Дарагавіцы, якая 25 год пражыла па-за межамі радзімы, але пахавана на Капыльшчыне ў весцы Бабоўня; вядомая амерыканская пісьменніца Іда Мазэ, якая эмігрыравала ў ЗША; кампазітар Марвін Духаў (Адухоўскі), ураджэнцы вёскі Вуглы; вядомы інжынер-будаўнік, па праектах якога пабудаваны шматлікія масты ў ЗША; Ян Сільвестр Наркевіч-Ёдка, які нарадзіўся ў вёсцы Кацельнікі і эмігрыраваў у ЗША,

потым у Польшчу. Сярод эмігрантаў у Польшчы ёсць і Казімір Петрусевіч, ураджэнец вёскі Душава, дэлегат 1 з'езда РСДРП, вядомы адвакат, які абараняў Якуба Коласа, Янку Купалу, Максіма Танка, пасля Вялікай Айчыннай вайны – член Вярхоўнага суда Польскай Народнай Рэспублікі. Імя паэта Леанарда Падгорскага-Аколава, які нарадзіўся ў вёсцы Рымя (зараз Дусаеўшчына), часта звязваюць з польскай літаратурай. Аднак дзякуючы любові да родных мясцін, у яго нараджаецца зборнік «Беларусь» (1924 г.), які, па меркаванні сучаснікаў, стаў вяршыняй творчасці паэта, і дзе неаднаразова сустракаецца ўспамін пра Капыль.

У гісторыю беларускай літаратуры на мяжы XIX–XX стст. увайшло нямала творцаў, чыя літаратурная спадчына ствaралася на польскай мове, але па свайму зместу была і застаецца вельмі цесна звязанай з беларускай рэчаіснасцю. Сярод іх пісьменніца Міхаліна Даманская з вёскі Чыжэвічы, творы якой напісаны па-польску. Застаецца толькі спадзявацца, што з цягам часу вядомыя творы нашай зямлячкі будуць перакладзены на беларускую мову.



У рамках рэалізацыі дадзенага праекта праведзены пошук біяграфічных і фактычных звестак эмігрантаў з Капыльшчыны. Вынікам рэалізацыі праекта сталі стварэнне перасоўнай выставы і выданне буклета «Навекі постаць сваю захаваўшыя...». З праектам, які разлічаны на дарослую аўдыторыю, супрацоўнікі музея ўдала падарожнічаюць па Капыльшчыне. І рабіць гэта зусім нескладана, таму што пры рэалізацыі праекта былі набыты зручныя планшэты-трансформеры, дзякуючы якім нават у глыбінцы можна даведацца пра лёс сваіх землякоў, якія эмігрыравалі на пачатку XX ст.

У планах музея прадоўжыць пошук эмігрантаў, што дазволіць дакладна прадставіць жыццё і дзейнасць нашых землякоў па розных краінах, ацаніць іх уклад у развіццё духоўнай культуры, іх прызнанне еўрапейскім і сусветным згуртаваннем. Незалежна ад палітычных поглядаў гэтых людзей нельга выкрасліць з гістарычнай памяці беларускага народа.

# У пошуках гісторыі: з пасляваеннага жыцця савецкага Гродна

***Чарнякевіч Андрэй Мікалаевіч,***
*кандыдат гітарычных навук,*
*сябар праўлення Гродзенскага абласнога*
*грамадскага аб'яднання маладых навукоўцаў «ВІТ»*
***Вашкевіч Андрэй Фрыдрыхавіч,***
*каардынатар асветніцкіх праграм у галіне гісторыі*
*Гродзенскага абласнога грамадскага аб'яднання*
*маладых навукоўцаў «ВІТ»*

Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне маладых навукоўцаў «ВІТ» у межах конкурсу «Гісторыя ХХ стагоддзя ў адукацыі дарослых» выступіла з ініцыятывай даследавання «У пошуках гісторыі: з пасляваен-нага жыцця савецкага Гродна». Ініцыятары праекта звярнулі ўвагу на тое, што з гістарычнай памяці гарадзенцаў пачынае знікаць савецкі перыяд (1939–1941 гг., 1944–1991 гг.). Гэта звязана і з тым, што практычна адсутнічаюць прафесійныя гістарычныя даследаванні гэтага перыяда, так і з тым, што ў грамадска-палітычным дыскурсе савецкі перыяд успрымаецца альбо як «залаты час», альбо, наадварот, як нешта выключна адмоўнае. Каб нейкім чынам паправіць сітуацыю і заахвоціць гарадзенцаў да вывучэння нядаўняй гісторыі свайго горада, было вырашана прапанаваць ідэю інавацыйнага праекта аднаўлення асобных аспектаў гісторыі Гродна савецкага перыяду.

Праект спалучаў у сабе распрацоўку спецыялістамі асобных тэм гісторыі савецкага горада, актуалізацыю і збор успамінаў гарадзенцаў, а таксама сродкаў мемаралізацыі гэтых успамінаў. Праект з'явіўся спробай інавацыйнага падыходу да адукацыі дарослых у галіне гісторыі, які грунтуецца на сумесным вывучэнні штодзённасці савецкага горада на прыкладзе Гродна групай удзельнікаў праекта сумесна з арганізатарамі і экспертамі ў пэўных тэмах.

У межах праекта на працягу верасня–снежня 2010 года прайшлі інтэрактыўныя сустрэчы ў выглядзе экскурсій, якія вярнулі нас у мінулае на некалькі дзесяцігоддзяў:

1. Верасень 1939 года. Нараджэнне савецкага Гродна.

2. Паміж ідэалогіяй і штодзённасцю: жыццё праз прызму савецкай ідэалогіі.

3. Гродна за партай: савецкая культура і адукацыя.

4. Новыя гарызонты: архітэктура Гродна савецкага часу.

5. Людзі ў форме: соцыятапаграфія савецкага горада.

6. Нефармальны Гродна: грамадства ў пошуку выбара.

Сустрэчы правялі гісторыкі, чые імёны добра вядомы сярод аматараў гарадзенскай гісторыі: В. Саяпін, І. Трусаў, А. Вашкевіч і А. Чарнякевіч. Падчас інтэрактыўных сустрэч адбываліся дыскусіі, абмен меркаваннямі і ўспамінамі паміж экспертамі і ўдзельнікамі сустрэч.

Выніковае мерапрыемства праекта – выстава «Паўстагоддзя савецкага Гродна вачыма аднаго гродзенца», прысвечаная нашаму гораду савецкай эпохі. Матэрыялы выставы сумесна сабраны арганізатарамі і ўдзельнікамі праекта з асабістых архіваў, лагічна пабудаваны такім чынам, каб адлюстраваць жыццё гродзенца, які нарадзіўся на пачатку савецкай эпохі і чыё дзяцінства, маладосць і сталасць прайшлі ў савецкім Гродна.

Дзейнасць у межах праекта – гэта спроба звярнуцца да нашага зусім нядаўняга мінулага з мэтай пабачыць той самы няўласны момант, калі штодзённае жыццё ператвараецца ў факт гісторыі. Гэта не толькі спроба замацаваць сувязь паміж рознымі пакаленнямі, але і крок насустрач Гродна, які збольшага існуе пакуль што ва ўспамінах.

Прапанаваныя матэрыялы будуць цікавыя не толькі для гарадзенцаў, якія захочуць самастойна паўтарыць прапанаваны шлях па гісторыі савецкага Гродна, але і для даследчыкаў, краязнаўцаў і адукатараў з іншых мясцін нашай краіны і замежжа.

## Як вывучаць гісторыю савецкага Гродна?

(некалькі парадаў аматарам гісторыі)

Паволі да нас прыходзіць разуменне, што Гродна – гэта не толькі храмы і замкі, але і шараговыя камяніцы, дзе, магчыма, жылі зусім звычайныя людзі. Часам адзінае, што нас усіх аб’ядноўвае, – гэта ўласна тыя вуліцы горада, на якіх мы раз-пораз сустракаемся...

Гарадскія вуліцы – гэта найперш будынкі, якія гэтыя вуліцы і фарміруюць. У дадзенай публікацыі мы паспрабавалі згадаць усе больш-менш цікавыя гістарычныя пабудовы Гродна, звязаныя з савецкім перыядам. А распавесці ёсць пра што, бо шмат якія з гродзенскіх камяніцаў пабачылі лёсавызначальныя падзеі найноўшай беларускай гісторыі, іншыя самі з’яўляюцца непадзельнай часткай сучаснага гарадскога ландшафта.

Кожны з нас так ці інакш звязаны з савецкім мінулым. На жаль, не заўсёды мы маем дакладныя дадзеныя пра тыя ўстановы, інстытуты, крамы, што знаходзіліся ў горадзе ў савецкі час. Улічваючы, што гэта толькі першы досвед сістэматызацыі нашых ведаў, аўтары палічылі магчымым абмежавацца той інфармацыяй, якая будзе ў першую чаргу карыснай дзеля самастойнай ці сумеснай працы па вывучэнні і папулярызацыі ведаў па гісторыі савецкага часу.

Для аматараў гісторыі прапанаваны даведнік-пуцявод па вуліцах і будынках савецкага Гродна. У гэтым даведніку гістарычныя звесткі пададзены ў альфавітным парадку згодна з сённяшнімі назвамі вуліц і сучаснай нумарацыяй будынкаў на іх. Карыстальнік дапаможніка можа сам свабодна спалучаць атрыманыя веды і тым самым значна пашыраць сваё ўспрыманне эпохі.

У сваю чаргу, падсумоўваючы ўжо атрыманы досвед, увазе чытачоў прапанавана апісанне шасці праведзеных у межах праекта інтэрактыўных сустрэч-экскурсій, якое ўтрымлівае назву, мэту, прапанаваны маршрут. Уводны матэрыял даецца ўсім удзельнікам перад пачаткам сустрэчы.

## Сустрэча 1. Верасень 1939 года. Нараджэнне савецкага Гродна

**Мэта:** азнаямленне з падзеямі 1939 г., уваходжанне ў ролю абаронцы або вызваліцеля Гродна.

*Маршрут 1: вул. Маставая – вул. Антонава (Каталіцкія могілкі) – вул. Белуша (Вайсковыя могілкі) – вул. Леніна – вул. Ажэшкі;*

*Маршрут 2: вул. Гарнавых – Савецкая плошча – вул. Савецкая – вул. Ажэшкі.*

### Уводны матэрыял

У верасні 1939 года наш горад выразна падзяліўся: частка гродзенцаў гераічна абараняла свой горад ад «чырвоных захопнікаў», другая частка дапамагала Чырвонай арміі. Гэтае супрацьстаянне было вынікам усіх тых супярэчнасцей, якія накапіліся ў жыцці горада на працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў. Нам жа, аднак, трэба ўспомніць пра падзеі верасня 1939 года, успомніць не на аснове гераічных тэкстаў, а грунтуючыся на ўспамінах сведак і сучаснікаў, каб уявіць сабе тыя дні без прыкрас.

### Праграма і парады па правядзенні сустрэчы

Удзельнікам сустрэчы прапануюць падзяліцца на дзве групы. Адна пойдзе па шляху абаронцаў Гродна ў 1939 г., другая – па шляху вызваліцеляў Чырвонай Арміі і прыхільных да яе гродзенцаў. Групы ідуць па розных знакавых для адных і для другіх «сімвалічных» маршрутах і сустракаюцца ў месцы, якое мае важнае значэнне для абодвух варыянтаў гістарычнай памяці. Паколькі сярод удзельнікаў сустрэчы няма сведкаў падзей 1939 года, то галоўная арыентацыя робіцца на ўспаміны сваякоў удзельнікаў сустрэчы, якімі тыя, папярэдне падрыхтаваўшыся, дзеляцца з іншымі.

## Сустрэча 2. Паміж ідэалогіяй і штодзённасцю: жыццё праз прызму савецкай ідэалогіі

**Мэта:** вывучэнне ўплыву ідэалогіі на штодзённае жыццё савецкага Гродна.

*Маршрут: Савецкая плошча – вул. Савецкая – вул. Ажэшкі – плошча Леніна – плошча Тызенгаўза.*

### Уводны матэрыял

Усе жадаючыя змогуць даведацца аб штодзённым жыцці гродзенцаў 40–70-ых гадоў. Гэта быў час пасляваеннай адбудовы, час узнікнення новай ідэалагічнай сістэмы, якая пранікала ва ўсе сферы жыцця нашага горада і выражалася не толькі ў помніках Леніну, Сталіну, якіх багата было на нашых вуліцах.

Гэта таксама быў і час святкаванняў (100 год са дня нараджэння Леніна, 50 год СССР і БССР і інш.), «чырвоных» дзён календара і многага іншага, што назаўсёды сышло (ці амаль сышло) у мінулае. Між тым гродзенцы працягвалі жыць сваім звычайным жыццём: любілі пасядзець у неіснуючых цяпер піўных і кавярнях, пасылалі сваякам купленыя на Грандзіцкім рынку польскія сумачкі або іншыя вырабы замежнай лёгкай прамысловасці.

### Праграма і парады па правядзенні сустрэчы

Удзельнікі сустрэчы рухаюцца па загадзя вызначаным маршруце, прысвечаным як ідэалагічным установам, так і гродзенскай штодзённасці. Сустрэча будуецца па наступным плане: эксперт паведамляе аб важных ідэалагічных установах (калі будаваліся савецкія адміністрацыйныя будынкі і інш.), а ўдзельнікі расказваюць пра свой удзел у тагачаснай са-

вецкай штодзённасці. Напрыканцы сустрэчы яе ўдзельнікі параўноўваюць штодзённую рэчаіснасць і прапаганду.

## Сустрэча 3. Гродна за партай: савецкая культура і адукацыя

**Мэта:** азнаямленне з культурнай палітыкай савецкай улады, асноўнымі ўстановамі адукацыі.

*Маршрут: вул. Сацыялістычная – вул. Савецкая – вул. Дзяржынскага – вул. Горкага.*

### Уводны матэрыял

Сістэма адукацыі выконвала важную ролю ў выхаванні чалавека новай эпохі – савецкага грамадзяніна. Выхаваць такога чалавека з простага гродзенца было даволі няпроста, аднак у савецкі час наш горад выпрацаваў значныя педагагічныя традыцыі, праславіўся многімі разумнымі і свабодалюбівымі выкладчыкамі. Чарговая сустрэча ў рамках праекта «Савецкі Гродна: у пошуках штодзённасці» прысвечана савецкім адукацыйным установам – школам і інстытутам.

### Праграма і парады па правядзенні сустрэчы

Кожны жыхар Гродна, старэйшы за 26 гадоў, прайшоў праз савецкую адукацыйную сістэму. Пад час гэтай сустрэчы галоўная ўвага аддаецца меркаванням удзельнікаў, якія дзеляцца сваімі згадкамі пра розныя адукацыйныя ўстановы Гродна (вядучы фактычна толькі падводзіць удзельнікаў да гэтых устаноў). Напрыканцы сустрэчы вырашаецца галоўнае пытанне: «Чаго больш было ў адукацыі ў савецкі час: рэальнага навучання або ідэалогіі?».

## Сустрэча 4. Новыя гарызонты: архітэктура Гродна савецкага часу

**Мэта:** вывучэнне ўплыву савецкай архітэктуры на развіццё горада і свядомасць гараджан.

*Маршрут: вул. Горкага (ад рынка «Карона» да плошчы Тызенгаўза).*

### Уводны матэрыял

Савецкі Гродна – гэта час прынцыповых зменаў не толькі ва ўнутраным абліччы горада, гэта час вялізарных прамысловых абшараў, пабудовы першых спальных раёнаў, час, калі горад фантастычна хуткімі тэмпамі павялічваўся ў памерах. У 1950–1980-х гг. у горадзе паўсталі не толькі новыя будынкі тэатраў, кінатэатраў і ўстаноў улады, якія павінны былі засведчыць перамогу новага ладу, але і мноства звычайных шэрых шматпавярховікаў, якія далі прытулак усім тым, хто перабіраўся з вёскі ў горад да больш заможнага і свабоднага жыцця.

Наступная сустрэча ў рамках праекта «Савецкі Гродна: у пошуках штодзённасці» была прысвечана толькі адной вуліцы Гродна – вуліцы Горкага (у даваенны час Грандзіцкая), у якой лёсы жыхароў горада пасляваеннага часу адбіліся вельмі выдатна. Пройдзем яе ўсю, пазнаёмімся з яе архітэктурай, прамысловымі прадпрыемствамі, установамі і помнікамі, параўнаем даваенную і пасляваенную часткі.

### Праграма і парады па правядзенні сустрэчы

Удзельнікі ідуць па вуліцы Горкага, згадваюць сваю працу на прамысловых прадпрыемствах гэтай вуліцы, абмяркоўваюць, як будаўніцтва змяніла сацыяльнае аблічча Гродна. Каля тэлерадыёцэнтра разважаюць аб ролі тэлебачання і радыё ў жыцці савецкага Гродна. Важна таксама абмеркаваць гісторыю адсоўвання мяжы горада, бо пашырэнне горада ў савецкі час асабліва добра відаць па вуліцы Горкага.

## Сустрэча 5. Людзі ў форме: сацыятапаграфія савецкага горада

**Мэта:** вывучэнне разнастайных савецкіх установаў, іх ролі ў жыцці горада.

*Маршрут: вул. Замкавая – вул. Горкага – вул. Дзяржынскага.*

### Уводны матэрыял

Гродна быў не проста ідэалагічнай «вітрынай» Савецкага Саюза. Наш горад, як і ўся Беларусь, быў часткай вайсковага ўдарнага кулака краіны саветаў, накіраванага супраць НАТА. Танкісты, пяхота, артылерыя, сувязь, пагранічнікі – увесь горад быў напоўнены войскам у большай ступені, чым у часы Расійскай імперыі ці міжваеннай Польшчы.

Салдаты, прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей СССР, надавалі гораду непаўторнае аблічча, шмат хто заставаўся тут і пасля службы. Адсюль

многія жыхары Савецкага Саюза накіроўваліся на службу ў Чэхаславакію ці ГДР. Горад таксама доўга памятаў і аб трагедыях, якія адбываліся па віне вайскоўцаў, напрыклад, гібель некалькіх студэнтаў Гродзенскага сяльгасінстытута пад гусеніцамі танка ў 1964 годзе.

Але ў форме ў Гродне 50-60-ых гг. хадзілі не толькі вайскоўцы. Міліцыянеры, супрацоўнікі КДБ, пажарныя, супрацоўнікі юстыцыі і чыгуначнікі. Навучэнцы сярэдніх навучальных установаў таксама хадзілі ў форме. Цікавую супольнасць людзей у форме ў нашым горадзе складалі мытнікі.

### Праграма і парады па правядзенні сустрэчы

Удзельнікі сустрэчы ідуць па вызначаным экспертам маршруце, звязаным з мясцінамі, дзе знаходзіліся ўстановы, у якіх людзі насілі форму. Паколькі ў той час форму насілі амаль усе (пачынаючы ад школьнікаў да супрацоўнікаў сілавых структур), то ўдзельнікі размовы лёгка дапаўняюць эксперта сваімі ўспамінамі. Напрыканцы сустрэчы ладзіцца перфоманс. Адзін з удзельнікаў сустрэчы, перапрануты ў форму (у нашым выпадку гэта была форма беларускага мытніка), прапаноўвае ўдзельнікам сустрэчы выканаць нейкую характэрную чыннасць (напрыклад, раздае для запаўнення мытныя дэкларацыі).

## Сустрэча 6. Нефармальны Гродна: грамадства ў пошуку выбара

**Мэта:** азнаямленне з гісторыяй «падземнага» Гродна, нефармальнага боку жыцця савецкага горада.

*Маршрут: вул. Ажэшкі (ад помніка Элізы Ажэшкі) – вул. Леніна – вул. Тэльмана – вул. Савецкая.*

### Уводны матэрыял

Нягледзячы на тое, што Гродна 70–80-ых гг., як любы савецкі горад, поўніўся партрэтамі правадыроў і заходзіўся ад чырвані сцягоў на вялікія савецкія святы, у ім заўсёды існавала магутная плынь нефармальнага жыцця. Гэта было выклікана ці блізкасцю Польшчы, ці самой атмасферай свабодалюбівага горада над Нёманам. Адзін з важных асяродкаў руху хіпі, месца ўзнікнення рокавых (і не толькі) гуртоў і іншых андэграўдных плыняў, месца натхнення і працы беларускіх пісьменнікаў з пакалення шасцідзесятнікаў…

## Праграма і парады па правядзенні сустрэчы

Эксперт паказвае ўдзельнікам сустрэчы найбольш знакавыя мясціны нефармальнага Гродна савецкага часу: месцы «тусовак», кватэры найбольш знакамітых музыкаў, мастакоў і інш. Кожны з удзельнікаў хоць у нейкай ступені меў дачыненне да нефармальнага Гродна. Гэта можа быць нават успамін пра набыццё дарагой пласцінкі «Бітлоў» або пра выступ універсітэцкага начальніка, які забараняў студэнтам звязвацца з «хіпанамі», насіць даўгаватыя валасы і раскляшоныя нагавіцы.

*Па матэрыялах дапаможніка*
*«У пошуках гісторыі: паўсядзённае*
*жыццё савецкага Гродна»*
*(аўтары: В. Саяпін, А. Вашкевіч,*
*І. Трусаў, А. Чарнякевіч)*

# Стварэнне музея «Гісторыя адукацыі Шчучыншчыны» і гісторыя адукацыі дарослых XX стагоддзя

***Лісоўская Алена Яўгеньеўна**, намеснік дырэктара*
*па вучэбна-метадычнай рабоце*
*ДУА «Гімназія г. Шчучына»*
***Пасюта Алена Васільеўна**, намеснік дырэктара*
*па вучэбна-выхаваўчай рабоце*
*ДУА «Гімназія г. Шчучына»*

Шчучыншчына – рэгіён з багатымі традыцыямі ў галіне адукацыі. Яшчэ ў XVIII–XIX стст. у Шчучыне дзейнічаў калегіум піяраў, адна з лепшых навучальных установаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у якой на той час выкладалі шэсць прафесараў. Ужо ў XVIII ст. кожны трэці жыхар Шчучына быў так ці інакш звязаны з адукацыяй: або вучыўся, або вучыў.

Сярод вядомых выкладчыкаў калегіума С. Б. Юндзіл, аўтар першых падручнікаў па батаніцы і заалогіі на тэрыторыі Заходняй Еўропы, заснавальнік батанічных садоў у Вільні і Вене, доктар багаслоўя, прафесар Віленскага ўніверсітэта. Выкладаў таксама Я. З. Фалькоўскі – адзін з заснавальнікаў навучання глуханямых. Менавіта па яго ініцыятыве і пры падтрымцы дзяржавы быў створаны першы інстытут для глуханямых у Варшаве. Сярод другіх вядомых выпускнікоў і выкладчыкаў Шчучынскага калегіума піяраў І. Дамейка, нацыянальны герой Чылі; філосаф Доўгірд; Казімір Нарбут, аўтар першага ў Рэчы Паспалітай падручніка па логіцы; Фрэдэрык Вольфганг, заснавальнік аптэчнай справы на землях гістарычнай Літвы; Ануфры Петрашкевіч, паэт і сябра А. Міцкевіча, захавальнік беларускамоўнай спадчыны членаў таварыства «Філаматаў і філарэтаў»; Юліан Корсак, вядомы перакладчык твораў Дантэ.



**ДУА «Гімназія г. Шчучына»**

**Будынак, у якім раней знаходзіліся настаўніцкая семінарыя, польская гімназія і ліцэй**

Сёння педагогі гімназіі г. Шчучына адчуваюць сябе прадаўжальнікамі багатых педагагічных традыцый горада, які ўжо ў XVIII ст. быў цэнтрам адукацыі Заходняга краю. Унікальны і будынак нашай гімназіі, у які

мы вярнуліся толькі ў 2004 годзе, а ён быў пабудаваны ў 1902 годзе. Спачатку пры Мікалаі II у ім знаходзілася настаўніцкая семінарыя, у 30-ыя гг. XX ст. – польская гімназія. Вельмі прыемна, што сучаснае пакаленне гімназістаў мае магчымасць вучыцца ў будынку, сцены якога літаральна пранізаны духам навукі.

Мы маем такую ўнікальную гісторыка-культурную спадчыну, якая ўтрымлівае ў сабе вялікі выхаваўчы патэнцыял, але не маем у горадзе краязнаўчага музея. Безумоўна, матэрыялы пра дзейнасць калегіума піяраў, яго знакамітых выкладчыкаў і выпускнікоў, унікальныя старонкі дзейнасці польскай гімназіі выкарыстоўваюцца педагогамі і класнымі кіраўнікамі на ўроках і пазакласных мерапрыемствах установы адукацыі. Для таго каб вывучэнне багатай гісторыка-культурнай спадчыны ішло сістэмна і выкарыстоўвалася ў педагагічнай дзейнасці падчас навучання дзяцей і дарослых, было вырашана стварыць на базе гімназіі музей «Гісторыя адукацыі Шчучыншчыны». Менавіта такі музей быў проста неабходны як сацыякультурны цэнтр, як неабходны фактар устойлівага развіцця гімназічнага згуртавання і Шчучынскага рэгіёна. Стварэнне музея, работа ў ім садзейнічала фарміраванню свядомых адносін да гістарычнай рэчаіснасці, каштоўнасных адносін да падзей, з'яў і артэфактаў мінулага. Праз усведамленне значнага ў гісторыка-культурнай спадчыне, прасочванне ўзаемасувязей паміж мінулым і сучасным адбываецца фарміраванне чалавека адказнага, сацыяльна і па-грамадзянску сталага, здольнага задумвацца пра сэнс уласнай дзейнасці.

Сумесная работа педагогаў, дзяцей, бацькоў і прадстаўнікоў соцыуму, звязаная з арганізацыяй дзейнасці музея, адпавядае вядучым прынцыпам адукацыі ў інтарэсах устойлівага развіцця:

- усеагульнасць і непрэрыўнасць адукацыі, пераход ад адукацыі на ўсё жыццё да адукацыі праз усё жыццё;
- міждысцыплінарны падыход;
- узаемадзеянне выкладчыка і навучэнца, прадстаўніка соцыуму, бацькоў;
- навучанне з дапамогай вопыту, творча-практычнага і інавацыйнага падыходу.

Разумеючы, якую важную ролю будзе адыгрываць дзейнасць музея ў выхаваўчай рабоце ўстановы адукацыі, у справе фарміравання грамадзянскасці і патрыятызму, творчая група педагогаў і вучняў прыступіла да збору матэрыялаў па гісторыі гімназіі. З гэтага пачалася падрыхтоўка да адкрыцця экспазіцыі музея «Гісторыя адукацыі на Шчучыншчыне». Члены Савета музея вырашылі, што неабходна сабраць інфармацыю пра адукацыю дарослых у Шчучынскім рэгіёне. Сваімі напрацоўкамі вучні

падзяліліся ў рамках праекта «Гісторыя ХХ стагоддзя ў адукацыі дарослых», які быў арганізаваны Прадстаўніцтвам зарэгістраванага таварыства «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» (Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь. Работа атрымала высокія ацэнкі журы. Узнагарода конкурсу – фінансаванне з мэтай набыцця стэндаў для размяшчэння першай экспазіцыі музея «Гісторыя адукацыі Шчучыншчыны».

Рэалізоўваючы пастаўленую ў рамках конкурсу задачу, члены Савета музея перш за ўсё зацікавіліся тым, як у сценах сучаснай гімназіі працавалі з дарослымі, бо першымі студэнтамі семінарыі, якія навучаліся ў пачатку ХХ стагоддзя ў будынку сучаснай гімназіі, былі ўжо дарослыя людзі. Другі накірунак пошуку – дзейнасць польскай гімназіі ў 30-ыя гады ХХ стагоддзя, трэці – дзейнасць вячэрняй школы для працоўнай моладзі, якая таксама размяшчалася ў будынку нашай гімназіі, чацвёрты – магчымасці адукацыі дарослых у Шчучынскім рэгіёне ў гэты перыяд.




**Гімназічнае пасведчанне Н. Токць**

Клапаціцца пра адукацыю дарослых на Шчучыншчыне пачалі ўжо ў пачатку ХХ стагоддзя. Каб павысіць узровень адукацыі ў галіне агранаміі, пачалі дзейнічаць сельскагаспадарчыя школы ў Шчучыне, Ляшчанцы, Лябёдцы (зараз гэта вёскі Шчучынскага раёна). Гаспадарка Іваноўскіх у Лябёдцы была ўзорнай па тых часах. Лепшыя гатункі садавіны давалі багаты ўраджай, які паступаў на базары Масквы, Санкт-Пецярбурга, Варшавы. Для абслугоўвання такой гаспадаркі патрабаваліся адукаваныя спецыялісты.

Збор інфармацыі адбываўся падчас сустрэч са сталымі жыхарамі горада: вучні бралі ў іх інтэрв'ю, жыхары самі запісвалі ўспаміны. Мы размясцілі зварот да жыхароў горада ў раённай газеце «Дзянніца», на польскім сайце «Класса» (бо многія жыхары рэгіёна пасля 1939 года выбралі ў якасці сталага жыхарства Польшчу). Творчая група дасканала вывучыла краязнаўчую літаратуру пэўнага перыяду.



Из воспоминаний бывшей гимназистки Александры Владимировны Мазуро (родилась 28.09.1921 года, с 1946 по 1949 г.г. работала учительницей [illegible] языка в средней школе №1 г. Щучина, позднее – в средней школе № 6 города Вильнюса Литовской ССР)

Для поступления в гимназию надо было иметь начальное шестилетнее образование. Поступающие сдавали вступительные экзамены. Проучившись 4 года, гимназисты сдавали свои первые гимназические экза[illegible]

Падчас пошукавай работы ўдалося звязацца з дзвюма былымі вучаніцамі польскай гімназіі, якія зараз пражываюць у г. Вільнюсе і маюць па 86 гадоў. Выражаем вялікую ўдзячнасць Ніне Георгіеўне Токць і Сафіі Собаль за дапамогу ў зборы матэрыялаў пра гісторыю гімназіі. Дасланыя імі ўспаміны і арыгінальныя фотаздымкі аказалі вялікую дапамогу пры вывучэнні пытання пра дзейнасць польскай гімназіі ў Шчучыне. Шчыра дзякуем былой настаўніцы сярэдняй школы № 1 г. Шчучына Н. А. Мінкявічэні за запісаныя ўспаміны сваёй маці А. В. Мазуры, 1921 года нараджэння, былой выпускніцы шчучынскай гімназіі. Карысныя кансультацыі атрымаліся пад час сустрэчы з дацэнтам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы С. В. Данскіх, са шчучынскім краязнаўцам В. Дзежыцам (яго брат І. Дзежыц быў выпускніком шчучынскай гімназіі ў польскі час). Каштоўныя экспанаты – кнігі з бібліятэкі польскай гімназіі, сшыткі гімназістаў (перададзены Д. Райко, настаўнікам гісторыі і грамадазнаўства Гродзенскай гімназіі № 1, былым выпускніком Сярэдняй школы № 1 г. Шчучына). Шчыра дзякуем Н. Г. Швед, настаўніцы нашай гімназіі, за работу з польскімі крыніцамі і пераклад матэрыялаў на рускую мову.

Дапамогу ў зборы інфармацыі пра арганізацыю адукацыйнага працэсу ў школе працоўнай моладзі на пачатку 50-ых гадах аказалі былыя настаўнікі Л. С. Ляхоўская, Т. М. Майко Навучаліся ў школе тыя, хто па розных прычынах не меў сярэдняй адукацыі. Заняткі ў школе праводзіліся 4 дні на тыдзень і пачыналіся пасля работы ў 19.00 і, здаралася, доўжыліся да 23.30.

Стварэнне музейнай экспазіцыі «Гісторыя адукацыі Шчучыншчыны» стала сумеснай справай гімназістаў і жыхароў Шчучынскага рэгіёна. Пасля выхаду шэрагу нататак, артыкулаў у раённай газеце пра арганізацыю збору матэрыялу для музея жыхары Шчучынскага рэгіёна, грамадзяне Польскай Рэспублікі сталі наведваць нашу гімназію, перадаваць каштоўныя матэрыялы. Сярод апошніх экспанатаў – падручнікі польскіх гімназістаў, школьныя прылады, стос часопісаў «Вестник знания» за 1912 і 1913 гг., тэатральны агляд за 1886 г., пасведчанне аб за-

канчэнні школы, гімназіі і інш. Зносіны з жыхарамі рэгіёна перарасталі ў далейшую сумесную адукацыйную дзейнасць.

31 студзеня 2011 года ў гімназіі адбылося ўрачыстае адкрыццё экспазіцыі музея «Гісторыя адукацыі Шчучыншчыны». У рамках дадзенага мерапрыемства адбылася сустрэча ў «гутарковым кафэ» «Адукацыйныя традыцыі на Шчучыншчыне» з удзелам прадстаўнікоў рэгіянальнай прэсы, гімназічнага згуртавання і асоб, якія дапамагалі ў зборы экспанатаў і інфармацыі па тэме экспазіцыі. Зараз усім жадаючым наведаць музей прапануецца наступная інфармацыя:

1. «Жывая повязь часоў» (пра адукацыйныя традыцыі Шчучыншчыны, пачынаючы з дзейнасці ў Шчучыне калегіума піяраў, агляд лёсаў і ўклад выкдадчыкаў і выпускнікоў калегіума ў гісторыка-культурную спадчыну рэгіёна і свету).

2. «Старонкі гісторыі настаўніцкай семінарыі» (дзейнасць настаўніцкай семінарыі пры Мікалаю ІІ).

3. «Дзейнасць польскай гімназіі ў 30-ыя гг. ХХ ст.».

4. «Адукацыя праз усё жыццё» (традыцыі адукацыі дарослых у Шчучынскім рэгіёне).

5. Гісторыя ДУА «Гімназія г. Шчучына».



Шчучынскія гімназісты ў 30-ыя гг. ХХ ст.

На дадзены момант у музеі налічваецца 82 экспанаты, у тым ліку 39 экспанатаў асноўнага фонду (арыгінальныя фотаздымкі, дыпломы, пасведчанні, падручнікі, сшыткі, выразкі з газет, запісаныя ад рукі ўспаміны і т. п.).

Савет музея прапаноўвае вучням і педагогам гімназіі, школ рэгіёна і рэспублікі, жыхарам рэгіёна, гасцям горада наступныя паслугі:

- экскурсіі «Адукацыйныя традыцыі Шчучыншчыны», «Знакамітыя выпускнікі Шчучынскай школы піяраў», «І. Дамейка – выпускнік Шчучынскага калегіума піяраў, нацыянальны герой Чылі», «Да 250-годдзя з дня нараджэння С. Б. Юндзіла», «Настаўніцкая семінарыя ў Шчучыне», «Дзейнасць польскай гімназіі ў Шчучыне», «Настаўнікі-ветэраны», «ДУА “Гімназія г. Шчучына”»: гісторыя стварэння, традыцыі і дасягненні», «НТВ “Арыён”», «Першы выпуск ДУА “Гімназія г. Шчучына”», «Спартыўнае жыццё гімназіі», «Адукацыя ў інтарэсах устойлівага развіцця і практыка гімназічнага жыцця» і інш;

- інтэлектуальныя краязнаўчыя гульні;
- «гутарковыя кафэ» «Адукацыя – гэта…», «Што значыць быць гімназістам?»;
- стварэнне індывідуальных партфоліа ўсіх членаў гімназічнай суполкі;
- Інтэрнэт-праект «След чалавека – след жыцця».

Члены Савета музея прымалі ўдзел у арганізацыі і правядзенні рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Прырода і адукацыя: праблемы ўстойлівага развіцця», якая была прысвечана 250-годдзю са дня нараджэння С. Б. Юндзіла і праходзіла на базе гімназіі.

Музейная экспазіцыя запатрабавана не толькі ў членаў гімназічнага згуртавання, але і ў жыхароў рэгіёна і гасцей горада. Аднымі з першых наведвальнікаў музея былі прадстаўнікі Шчучынскага таварыства інвалідаў. У кнізе водзываў ёсць запісы і дэлегацыі з горада-пабраціма польскага Шчучына. Усё гэта ўказвае на тое, што экспазіцыя музея, створаная па выніках конкурсу «Гісторыя XX стагоддзя ў адукацыі дарослых», які арганізаваны прадстаўніцтвам зарэгістраванага таварыства «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» у Рэспубліцы Беларусь, заняла значнае месца ў адукацыі дарослых і ў нашыя дні. Дзейнасць музея накіравана на паўнацэнную рэалізацыю прынцыпа «адукацыя праз усё жыццё» і садзейнічае не толькі захаванню, але і працягу лепшых адукацыйных традыцый рэгіёна (Дадатак).

# Гісторыя XX стагоддзя ва ўспамінах гарадзенцаў. З досведу выкарыстання вуснай гісторыі ў адукацыі дарослых у Гродна

***Вітаўт Руднік**, грамадскае аб’яднанне «Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятыў “Трэці сектар”» (г. Гродна)*

Даследаванне і выкарыстанне ў адукацыйных і асветніцкіх мэтах вуснай гісторыі найноўшага часу было ў фокусе інтарэсаў нашай арганізацыі ад моманту яе заснавання ў 1997 годзе. Спачатку гэта быў цыкл успамінаў Міколы Таранды (аднаго з арганізатараў гісторыка-краязнаўчага клуба «Паходня» ў Гродна ў сярэдзіне 80-ых гадах мінулага стагоддзя) пра грамадскае і культурнае жыццё ў горадзе і рэгіёне ў вірлівыя часы прызабытых ужо «Перестройки» і «Гласности», які друкаваўся ў выдаваемым арганізацыяй часопісе «Трэці сектар». Затым былі спарадычныя публікацыі ўспамінаў іншых вядомых на Гарадзеншчыне грамадскіх дзеячоў, краязнаўцаў.

У 2010 годзе па ініцыятыве сяброў і валанцёраў арганізацыі ўзнікла ідэя зрабіць цыкл відэаінтэрв’ю з людзьмі з Гарадзеншчыны і Брэстчыны, якія зрабілі значны ўнёсак у захаванне і папулярызацыю беларускай гісторыі і культуры. Так з’явіўся мультымедыйны дыск «Постаці», які ўтрымлівае 14 цікавых відэаролікаў, прысвечаны такім людзям, як мастакі і пісьменнікі, краязнаўцы і народныя майстры, грамадскія дзеячы і музыкі. Прэзентацыі дыску адбыліся ў Брэсце і Гродна. Адзнятыя ў час падрыхтоўкі дыска матэрыялы можна знайсці таксама ў рубрыцы «Глядзі» на сайце «Твой стыль» (www.tstyl.fm).

Сістэмная праца па выкарыстанні вуснай гісторыі ў адукацыйных і асветніцкіх мэтах распачалася ў арганізацыі ў 2010 годзе, калі з нашай ініцыятывы ў горадзе з’явіўся «Універсітэт Залатога Веку» (УЗВ). Мэтай гэтай праграмы з’яўляецца інтэлектуальная, фізічная і сацыяльная актывізацыя сталых людзей. Тэма вуснай гісторыі з’явілася ў праграме УЗВ ад самага пачатку. Ужо вясной 2010 года пачала працаваць секцыя «Жыццёвы дзённік». У аснову яе працы была пакладзена ідэя, што сталыя людзі Беларусі з’яўляюцца сведкамі вялізнай колькасці падзей як сусветнага, так і лакальнага маштабу. Вельмі часта інфармацыя, якой яны валодаюць, не выходзіць за межы ўласнай сям’і і кола блізкіх сяброў. Гэтая жывая гісторыя, якая часта перадаецца з пакалення ў пакаленне, з’яўляецца каштоўнай не толькі з пункту гледжання гістарычнай навукі, але і пераасэнсавання грамадствам тых альбо іншых падзей, абмеркавання

складаных пытанняў, якія засталіся нам у спадчыну ад папярэдніх пакаленняў.

Для Беларусі вывучэнне вуснай гісторыі мае асабліва важнае значэнне. У XX стагоддзі краіна перажыла шмат драматычных падзеяў: Першую Сусветную вайну, калі вялікая частка насельніцтва краіны вымушаная была стаць уцекачамі, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, стварэнне БССР, падзел краіны на Заходнюю і Усходнюю Беларусь, кароткі перыяд нацыянальнага Адраджэння ў 20-ыя гады, камуністычныя рэпрэсіі і катастрафічная па сваіх наступствах Другая сусветная вайна. Усе гэтыя падзеі па-рознаму адлюстроўваліся ў падручніках і папулярных выданнях па гісторыі Беларусі.

Тое ж датычыцца і жыцця беларусаў пад нямецкай акупацыяй, пасляваенных гадоў, жыцця беларускіх гарадоў і вёсак у 50–80-ыя гады XX ст., першых гадоў незалежнасці Беларусі. Адныя і тыя ж асобы падаваліся героямі, а затым ворагамі народу і наадварот. Па некалькі разоў пераглядаўся змест і сэнс розных падзеяў (сталінскія рэпрэсіі, Катынь, увод савецкіх войскаў у Афганістан, разбурэнне храмаў, аварыя на Чарнобыльскай АЭС, адраджэнскі рух канца 80-ых гадоў і г. д.).

Сведкамі гэтых і многіх іншых падзей былі нашыя першыя наведвальнікі секцыі «Жыццёвы дзённік». На сустрэчах яны распавядалі гісторыі сваіх сем’яў, паказвалі старыя фотаздымкі, дыскутавалі пра розныя гістарычныя падзеі. Некаторыя з гэтых гісторый былі апублікаваны на блогу «Універсітэт Залатога Веку» (www.uzv-hrodna.blogspot.com), некаторыя ўвайшлі ў кнігу «Гісторыя XX стагоддзя ва ўспамінах гарадзенцаў». Апроч успамінаў, якія фіксаваліся намі на сек-цыі «Жыццёвы дзённік», яшчэ адным метадам збору інфармацыі па падрыхтоўцы гэтай кнігі былі інтэрв’ю з грамадскімі дзеячамі, журналістамі, краязнаўцамі, дзеячамі культуры і адукацыі, якія актыўна ўдзельнічалі ў знакавых для Гродна і краіны падзеях, імкнуліся фіксаваць іх у фотаздымках, артыкулах, кнігах.

У выніку ў кнігу ўдалося ўкласці ўспаміны пра жыццё заходнебеларускай вёскі ў 30–40-ыя гады, цяжкі акупацыйны і пасляваенны перыяды, культурнае жыццё Гродна ў 60–70-ыя гады, а таксама пра вірлівыя падзеі канца мінулага стагоддзя. Найстарэйшаму з трынаццаці нашых аўтараў ужо споўнілася 85 гадоў, а наймалодшаму няма і 40. Прэзентацыя кнігі ў Гродна выклікала вялізную цікавасць. Невялікі наклад выдання, якое ўбачыла свет дзякуючы падтрымцы Прадстаўніцтва зарэгістраванага аб’яднання «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» (Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь, разышоўся ў лічаныя дні.

Закладзеныя на гэты момант падмуркі працы па зборы і выкарыстанні вуснай гісторыі ў адукацыйных і асветніцкіх мэтах даюць свой плён ужо зараз: сёлета ў секцыю «Жыццёвы дзённік» прыйшло ўжо ў два разы больш людзей, на блогу «Універсітэт Залатога Веку» з'яўляюцца новыя ўспаміны. Вялізнай папулярнасцю карыстаецца цыкл гістарычных вандровак па горадзе ў межах секцыі УЗВ «Падарожжы ў часе і прасторы». Жаданне выкарыстаць наш досвед працы з вуснай гісторыяй выказалі нашыя партнёры з Універсітэта Трэцяга Узросту пры Уроцлаўскім універсітэце (Польшча). Таму праца ў гэтым кірунку намі абавязкова будзе працягвацца. Запрашаем да супрацоўніцтва!

***Для даведак.***

Выдадзеная ў 2010 годзе кніга «Гісторыя XX стагоддзя ва ўспамінах гарадзенцаў» складаецца з успамінаў жыхароў Гродна, прысвечаных розным перыядам гісторыі горада і Беларусі XX ст. Адрасуецца спецыялістам, якія займаюцца вывучэннем вуснай гісторыі, а таксама ўсім аматарам гісторыі роднага краю. Выкладзеныя аўтарамі ўспамінаў погляды на тыя або іншыя гістарычныя падзеі не абавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання стваральнікаў дапаможніка, а таксама Прадстаўніцтва зарэгістраванага аб'яднання «Deutscher Volkshochschul-Verband e. V.» (Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь, пры падтрымцы якога здзейснена гэтае выданне. З дзейнасцю грамадскага аб'яднання «Цэнтр "Трэці сектар"», якое падрыхтавала кнігу да выдання, можна пазнаёміцца на сайце www.3sektar.by.

# Музычная спадчына і вусная гісторыя

***Сяргей Сяргеевіч Кунцэвіч***,
*старшыня Грамадскага аб'яднання*
*«Лекарскі саюз» (г. Магілёў)*

З ліпеня па снежань 2010 года ў Магілёве Грамадскім аб'яднаннем «Лекарскі саюз» быў рэалізаваны праект «Нацыянальная музычная спадчына ў гісторыі і культуры Магілёўшчыны».



Асноўнымі ўдзельнікамі праекту былі сябры Клуба сеньораў, які існуе пры доктарскай арганізацыі з 2005 году і аб'ядноўвае медыкаў-пенсіянераў, а таксама студэнцкую моладзь. З Магілёўскай зямлёй звязалі свой лёс шматлікія знакамітыя музыкі. І добра, што яшчэ жывуць тыя, хто з імі працаваў ці быў іх вучнем. Напярэдадні правядзення музычных салонаў былі здзейснены дзве экскурсіі па магілёўскіх мясцінах, дзе нарадзіліся і працавалі вядомыя музыкі. Агульная колькасць удзельнікаў – больш за 90 чалавек. Таксама на працягу некалькіх месяцаў ішла работа над слайд-фільмам, напоўненага тэкстам і фатаграфіямі нашых герояў-кампазітараў.

Усяго было праведзена 3 вечарыны. Агульная колькасць іх удзельнікаў – 120 чалавек. Вялі вечарыны Святлана Кунцэвіч, якая ў свой час прайшла падрыхтоўку ў межах семінара-трэнінга па тэматыцы вуснай гісторыі, і магілёўскі гісторык-музыкавед Уладзімір Зарэмскі. На мерапрыемствах з успамінамі выступілі выкладчыкі музыкі Алена Чуркіна, Наталля Барынава і Тамара Варашэнь. Яны распавялі пра невядомыя і малавядомыя факты з жыцця кампазітараў Мікалая Чуркіна, Яўгена Глебава, Яўгена Цікоцкага і Уладзіміра Алоўнікава.



Праз метад вуснай гісторыі госці данеслі ўдзельнікам мерапрыемстваў назвычай цікавыя факты аб гэтых кампазітарах, факты, якія не знайсці ні ў манаграфіях, ні ў энцыклапедыях.

Падчас вечарынаў гучалі музычныя творы гэтых кампазітараў, у тым ліку ў выкананні моладзі – студэнтаў магілёўскіх музычных навучальных устаноў. Некаторыя песні ўсе прысутныя спявалі разам. Гэта стварала надзвычай цёплую атмасферу.

На мерапрыемствах адзначалася думка аб важнасці захавання сямейных і прафесійных традыцый. Як неаднаразова падкрэслівала вядучая С. Кунцэвіч, неабходна фіксаваць расповяды і іншыя формы ўспамінаў людзей, бо тое, што яны ведаюць, не прачытаць у кнігах, і гэта ёсць праўдзівая гісторыя жыцця.

Слайд-фільм аб музыках, якія жылі і працавалі на Магілёўшчыне, быў распаўсюджаны па музеях, бібліятэках; а быў перададзены ва ўніверсітэты, Акадэмію музыкі, магілёўскія турыстычныя фірмы.

# Метады навучання дарослых

## Асаблівасці навучання дарослых: метадычны агляд

***Алена Уладзіміраўна Радзевіч***,
*метадыст аддзела*
*міжнароднага супрацоўніцтва*
*ДУА «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»*

У цяперашні час значна ўзрасла цікавасць да праблем навучання дарослых людзей. Ад разумення асаблівасцяў навучання дарослых залежыць эфектыўнасць ужывання адукацыйных тэхналогій і методык. Дарослыя вучацца з большым жаданнем, чым дзеці і падлеткі, на добраахвотнай аснове, што дазваляе абапірацца на іх здольнасць да свабоднага выбару адукацыйных курсаў і семінараў. Дарослыя менш гатовы вучыцца дзеля далёкай будучыні. Яны павінны бачыць прамую сувязь падлягаючых засваенню ведаў з іх прафесійным развіццём і ведаць, што гэта для іх важна.

Дарослыя, якія маюць вопыт прафесійнай працы, яшчэ менш, чым дзеці і падлеткі, хочуць, каб іх разглядалі і звярталіся да іх як да аб’екта вучэбнай дзейнасці. Яны ахвотней уключаюцца ў адукацыйны працэс, калі прадастаўляецца магчымасць прымаць актыўны ўдзел у яго арганізацыі, абмяркоўваць хвалюючыя іх пытанні і праблемы, дзяліцца з іншымі сваімі ведамі і досведам.

Пры выбары метадаў мадэратары павінны не толькі ўлічваць гэтыя асаблівасці, але і абапірацца на іх пры арганізацыі працэсу навучання. Гэта неабходна ўлічваць як у час адбору зместу і распрацоўцы канцэпцый адукацыйных праграм, так і пры выбары метадычных прыёмаў і тэхналогій іх рэалізацыі.

Метады навучання дарослых заклікаваны аказаць дзейсную дапамогу ў арганізацыі і правядзенні семінараў, трэнінгаў, «гутарковых кафэ», «круглых сталоў». Выкарыстанне гэтых метадаў дазваляе вырашаць наступныя задачы:

- забяспечваць матывацыю і актыўнасць удзельнікаў;
- выяўляць іх надзённыя праблемы і чаканні;
- інтэграваць тэарэтычныя веды і практычны досвед удзельнікаў;
- арганізоўваць працэсы самакіравання і самаарганізацыі;
- ствараць атмасферу калегіяльнага супрацоўніцтва.

Выкарыстанне актыўных метадаў працы з дарослай аўдыторыяй не з’яўляецца самамэтай. Метады і прыёмы арганізацыі дзейнасці выкон-

ваюць сваю функцыю ў межах дыдактычнай структуры, забяспечанай мэтамі, зместам, тэхнічнымі сродкамі, рэсурсамі і канкрэтнымі ўмовамі, у якіх ажыццяўляецца ўзаемадзеянне з дарослымі.

У гэтай шматкампанентнай структуры перад вядучымі (мадэратарамі) стаіць задача метадычнага забеспячэння адукацыйнай дзейнасці дарослых, а таксама іх міжасабовых зносін.

Метады працы з дарослымі будуюцца ў асноўным на дыялогу, які прадугледжвае вольны абмен думкамі аб шляхах вырашэння той ці іншай праблемы. Арганізацыя семінараў, «круглых сталоў», «гутарковых кафэ» і г. д. характарызуецца высокім узроўнем актыўнасці ўдзельнікаў. Магчымасці розных метадаў навучання залежаць ад прыроды і зместу адпаведнага метаду, спосабаў іх выкарыстання, майстэрства вядучага. Кожны метад актыўным робіць той, хто яго ўжывае.

Эфектыўнасць працэсу і вынікаў заняткаў з дарослымі з выкарыстаннем актыўных метадаў вызначаецца тым, што распрацоўка метадаў грунтуецца на сур'ёзнай псіхалагічнай і метадалагічнай базе. Магчымасці актыўных метадаў розныя не толькі ў сэнсе актывізацыі вучэбнай і вучэбна-вытворчай дзейнасці, але і ў сэнсе разнастайнасці дасягнутых адукацыйных эфектаў. Акрамя дыялогу, актыўныя метады выкарыстоўваюць і палілог, забяспечваючы шматузроўневую і рознабаковую камунікацыю ўсіх удзельнікаў адукацыйнага працэсу.

Акрамя гэтага, працэс узрастання аб'ёму інфармацыі і аб'ёму ведаў у інфармацыйным грамадстве імклівы і бясконцы. Каб забяспечыць канкурэнтаздольнасць дарослага чалавека ў грамадстве, неабходна бесперапынна асвойваць новыя веды і ўменні. Аднак немагчыма бясконца павялічваць тэрміны навучання. Рашэнне дадзенай супярэчнасці неабходна шукаць на шляху інтэнсіфікацыі атрымання адукацыі, менавіта таму актыўныя метады навучання сёння становяцца важнай часткай адукацыйнага працэсу дарослых.

## Апісанне метадаў навучання дарослых

### «Выбяры дыстанцыю»

Трэнер аб'яўляе які-небудзь прадмет «сімвалам» тэмы заняткаў і ставіць яго ў цэнтры аўдыторыі. Напрыклад, гэта можа быць прадмет, які характарызуе пэўны перыяд гісторыі (пёравая ручка, чарнільніца, акцябрацкая «зорачка», пласцінка і г. д.). Пасля трэнер прапануе ўдзельнікам стаць на такой адлегласці ад прадмета, якая магла б лепш за ўсё прадэманстраваць іх блізкасць або аддаленасць да тэмы абме-

кавання. Затым кожны з удзельнікаў адным сказам тлумачыць выбраную ім адлегласць.

*Каментарыі*

Дадзены метад падыходзіць для высвятлення сітуацыі ў групе. Таксама ён дае магчымасць выказацца па тэме семінара тым удзельнікам, якіх не заўсёды атрымаецца выказаць словамі сваё стаўленне да чаго-небудзь.

## «Пчаліны вулей» («кірмаш»)

Па заканчэнні этапу ўспрымання інфармацыі (у вуснай або пісьмовай форме, праз аўдыёвізуальныя сродкі) або этапу інтэнсіўнай індывідуальнай працы ўсім удзельнікам прадастаўляецца магчымасць у свабоднай форме абмяняцца думкамі са сваімі суседзямі аб тым, хто што даведаўся. Для гэтага ўдзельнікі дзеляцца на мікрагрупы з двух, трох або чатырох чалавек. Абмен меркаваннямі ў мікрагрупах можна выкарыстоўваць для абдумвання і распрацоўкі пытанняў да мадэратара «гутарковага кафэ», семінара, дакладчыка, пытанняў па тэксце, пытанняў з нагоды ўбачанага і пачутага.

*Каментарыі*

Успрынятая інфармацыя можа быць адразу перапрацавана ў абмеркаванні з партнёрамі. Акрамя таго, становяцца відавочнымі цяжкасці, якія ўзніклі ў сувязі з разуменнем інфармацыі. Удзельнікі з большай адвагай будуць задаваць пытанні, калі ўбачаць, што і іншыя маюць падобныя або тыя ж самыя пытанні. Калі мадэратары часта выкарыстоўваюць «пчаліны вулей», то колькасць не асабліва жаданых «гутарак па-за вочы», як правіла, зніжаецца, таму што ў «пчаліным вуллі» ўсім удзельнікам даецца аднолькавая магчымасць весці «гутаркі па-за вочы». І яны не па-вінны пазбаўляць сябе гэтага права.

Часта, калі па заканчэнні паведамлення пытаюцца, ці ёсць у ўдзельнікаў якія-небудзь пытанні да мадэратара, усталёўваецца няёмкая цішыня. «Пчаліны вулей» вызваляе ўсіх ад гэтай цішыні і спрыяе з’яўленню пытанняў.

## «Калаж»

Мадэратары дзеляць удзельнікаў на мікрагрупы, кожная з якіх атрымлівае заданне зрабіць па прапанаванай тэме калаж. Усе мікрагрупы могуць працаваць па адной і той жа тэме, або ім прапаноўваюцца розныя тэмы, або яны працуюць па самастойна абраных падтэмах у рамках агульнай тэмы.

Па заканчэнні працы ў мікрагрупах арганізуецца выстава выробленых калажаў, пры гэтым кожная група тлумачыць свой выраб.

Выраб калажаў займае шмат часу. Кожная мікрагрупа павінна быць забяспечана ўсім неабходным для сваёй працы. Таму мадэратарам неабходна стварыць усе ўмовы для максімальнай праявы творчых здольнасцяў удзельнікаў семінара. Няўменню маляваць не павінна надавацца абсалютна ніякага значэння. Праца над калажамі дастаўляе пераважнай большасці ўдзельнікаў радасць. Яны бачаць канчатковы вынік сваёй дзейнасці і, як правіла, ганарацца ім.

*Рэквізіт:* вялікія аркушы паперы, каталагі, часопісы, газеты, фламастары, клей, нажніцы, абрэзкі тканіны, дрот, вяроўкі, шнуры, рэшткі сінтэтычных матэрыялаў (пластмаса, пенапласт і інш.). Зусім не абавязкова наяўнасць усіх пералічаных матэрыялаў, удзельнікі могуць самі заняцца пошукамі патрабаваных матэрыялаў.

## «Апытанне эксперта»

Для атрымання дадатковай інфармацыі, спецыяльных ведаў і кампетэнтнай думкі па тым ці іншым пытанні, якое разглядаецца ў межах «гутарковага кафэ» або семінара, у групу можа быць запрошаны эксперт адпаведнага профілю. Гэты чалавек павінен быць спецыялістам у сваёй галіне.

У якасці падрыхтоўкі да размовы з экспертам удзельнікі рыхтуюць пытанні, якія яны спачатку запісваюць на асобныя карткі, потым збіраюць іх і сістэматызуюць. Падчас свайго выступу эксперт арыентуецца на гэтыя карткі. У ходзе выступлення дапускаюцца дадатковыя пытанні.

*Каментарыі*

Да сустрэчы з экспертам удзельнікі рыхтуюць пытанні, звязаныя з пэўным гістарычным перыядам. Праблематычнымі могуць быць якасць і колькасць інфармацыі, якая перадаецца экспертам. Існуе небяспека, што пры адборы і абагульненні ён можа не ў поўнай меры ўлічыць інтарэсы ўдзельнікаў «гутарковага кафэ». Да ліку задач, якія паўстаюць перад экспертам, адносіцца таксама задача экспертнай ацэнкі падрыхтаваных удзельнікамі пытанняў, акрамя таго, іх удакладненне і дапаўненне ў выпадку неабходнасці.

## «Святло маланкі»

Па заканчэнні семінара або «гутарковага кафэ» ўдзельнікам прадастаўляецца магчымасць выказацца. Можна задаць наступныя пытанні:

– Якім быў для Вас сённяшні дзень?

– Як Вы цяпер сябе адчуваеце?

Удзельнікі абменьваюцца думкамі (каментаваць думкі іншых ім не дазваляецца). Меркаванне кожнага з іх па магчымасці павінна складацца з адной прапановы пазітыўнага альбо негатыўнага характару. Пасля выступлення апошняга ўдзельніка магчыма групавое абмеркаванне з нагоды выказанага. Чарговасць выступленняў можа быць самай разнастайнай. Можна даваць слова ўдзельнікам па чарзе. Кожны наступны суразмоўца прымае ад папярэдняга «мікрафон гаварэння».

*Каментарыі*

Дадзены метад можна выкарыстоўваць як пасля асобных заняткаў у ходзе правядзення шматдзённага семінара, так і па яго заканчэнні. У выпадку, калі «святло маланкі» завяршае працу семінара, правядзенне пасля яго агульна групавога абмеркавання з'яўляецца не актуальным.

Асновай для правядзення «святла маланкі» могуць служыць і іншыя пытанні. Напрыклад:

– Як Вы ўспрынялі дадзеную гістарычную інфармацыю?

*Варыянты:* спачатку праводзіцца рэтраспектыўны агляд работы (мадэратары яшчэ раз апісваюць ход семінара або сустрэчы з носьбітамі гістарычнай памяці, згадваючы, якія метады выкарыстоўваліся), а затым – «святло маланкі».

## «Мазгавая атака»

Мадэратары запісваюць праблему ці тэму на дошцы або дэманстрацыйным стэндзе. Калі ў ўдзельнікаў узнікаюць пытанні па тэме, адразу на іх адказваюць. Пасля мадэратары тлумачаць наступныя правілы і адначасова вывешваюць іх на асобных картках для агульнага агляду:

1. Любая ідэя вітаецца, нават калі яна на першы погляд здаецца памылковай ці нерэальнай.
2. Часам колькасць важней, чым якасць.
3. Крытыка забараняецца.
4. Хай ідэі іншых натхняць Вас.
5. Удзельнікі на працягу загадзя ўсталяванага часу выказваюць любыя ідэі па прапанаванай тэме (праблеме), якія адразу фіксуюцца вядучым або удзельнікам, якому гэта даручана, на дэманстрацыйным стэндзе (дошцы).

*Каментарыі*

Часта зона пошуку прадуктыўных рашэнняў пастаўленай праблемы аказваецца занадта малая. Калі ўдзельнікі працуюць вельмі сур'ёзна, адкінуўшы жарты ў бок, то ёсць небяспека страты элементаў вольнай творчасці, а разам з гэтым і магчымых новых ідэй. Таму ўяўляецца вельмі важным вызваліць удзельнікаў ад добраахвотнай, часцяком неўсвядомленай самацэнзуры і заахвоціць іх да свабодных ідэй.

### «Шклянка чаю»

Удзельнікі сядзяць у крэслах, расстаўленых па крузе. У цэнтры круга на падлозе ляжыць прадмет, які магчыма звязаць з тэмай. Гэты прадмет валодае дастатковай сацыяльна-бытавой значнасцю і здольны выклікаць у памяці ўдзельнікаў розныя жыццёвыя сітуацыі, у якіх ён адыгрываў для іх істотную ролю. Напрыклад, патэфон, белыя панчошкі, старыя газеты, шуфляда і г. д. Удзельнікам прапануецца выказвацца спантанна.

Гутарка заканчваецца агульнай рэфлексіяй выказванняў. Пры гэтым паміж рэфлексіяй і спантаннымі выказваннямі ўдзельнікаў варта праводзіць дакладнае размежаванне.

*Каментарыі*

Калі вядучы зможа знайсці такі прадмет, які быў бы здольны закрануць эмацыйную сферу ўдзельнікаў, то ажыўлены абмен думкамі і інфармацыяй забяспечаны. Мадэратарам варта імкнуцца да стварэння аптымальных умоў для праявы спантанных рэакцый сведкам гістарычных падзей. Таму вялікія групы ўдзельнікаў павінны быць падзелены на мікрагрупы (у адваротным выпадку можа адсутнічаць неабходная для размовы атмасфера даверу).

*Рэквізіт*: прадмет, здольны выклікаць зносіны па тэме.

### «Канкрэтная сітуацыя» («Кейс»)

Удзельнікі атрымліваюць апісанне канкрэтнай гістарычнай падзеі, аналізуюць яе, спрабуюць асэнсаваць прычыны, сутнасць і знайсці магчымыя шляхі пераадолення праблемы. Гістарычная сітуацыя можа прапаноўвацца ў выглядзе друкаванага тэксту, відэароліка або відэафільма.

Усе выказванні адносна ўдзельнікаў гістарычных падзей ва ўмовах зададзенай сітуацыі аналізуюцца і абмяркоўваюцца ў ходзе пленума, які завяршае гэтую працу.

*Каментарыі*

Усе сітуацыі варта падбіраць з улікам разглядаемых на семінары праблем. Схема аналізу сітуацыі або прапанаваныя вядучымі рабочыя заданні па яе разбору могуць у значнай ступені палегчыць удзельнікам семінара мэтанакіраваны пошук аптымальных прыёмаў аналізу і ацэнкі гістарычнай падзеі, а таксама міжасобасных узаемадзеянняў.

### «Мова фотаздымкаў»

Вядучы раскладвае на падлозе фотаздымкі, непасрэдна звязаныя з вуснагістарычнымі даследаваннямі. Кожны з удзельнікаў выбірае адну

з іх і, назваўшы спачатку свае імя і прозвішча, коратка каментуе свой выбар. Прычым ён выказвае ўслых, якія асацыяцыі, думкі, пачуцці ўзніклі ў яго ў сувязі з фотаздымкам, і ўстанаўлівае іх сувязь з тэмай семінара.

*Каментарыі*

Колькасць чалавек у групе павінна складаць не больш 15 чалавек. Паколькі ўдзельнікі могуць свабодна хадзіць па аўдыторыі, разглядаючы і выбіраючы фотаздымкі, то не ствараецца эмацыйнага напружання, характэрнага для першай сустрэчы, і ў групе ўсталёўваецца спрыяльны псіхалагічны клімат. Прапанаваныя ўдзельнікам фотаздымкі служаць штуршком да разважання над тэмай семінара. Выкарыстоўваючы дадзены метад, вядучыя маюць магчымасць аб’яднаць пачатак працы ў рамках вуснагістарычных даследаванняў са знаёмствам удзельнікаў адзін з адным.

*Рэквізіт*: вялікая колькасць (не менш 30) фотаздымкаў са старых газет, часопісаў, даведнікаў і г. д.

## «Пытальна-адказныя зносіны»

Кожнаму з удзельнікаў прапаноўваецца прыдумаць па адным пытанні па тэме семінара і запісаць яго на паперы. Затым гэтыя лісткі перадаюцца ад аднаго ўдзельніка да другога. Кожны, хто жадае напісаць адказ на пытанне, запісвае яго ў калонку пад адказам папярэдняга ўдзельніка. Хто не жадае адказваць на пытанне, можа перадаць гэты лісток наступнаму ўдзельніку без адказу. Потым усе пытанні і адказы зачытваюцца ўслых і фіксуюцца на дэманстрацыйным стэндзе ці плакаце.

*Каментарыі*

Колькасць удзельнікаў груп не павінна перавышаць шасці чалавек, таму што толькі ў гэтым выпадку магчымы сапраўдны абмен інфармацыяй.

*Рэквізіт*: лісты паперы, пісьмовыя прыналежнасці.

## «Гутарка без змолку»

Удзельнікі сядзяць у крэслах, расстаўленых па крузе. Ім прапануецца ўявіць, што яны знаходзяцца на рынкавай плошчы, а затым устаць і свабодна хадзіць па ёй у любым кірунку. Пры гэтым яны могуць кудысьці спяшацца ці, наадварот, ісці павольна, нібы шпацыруючы, вітаць адзін аднаго, ухіляцца ад сутыкненняў, спыняцца. Вядучыя паказваюць прыклад, шпацыруючы па «рынку», вітаючыся з удзельнікамі, усміхаючыся ім. На гэтай «рынкавай плошчы» ўсе ўдзельнікі шукаюць сабе партнёра, па магчымасці малазнаёмага, і садзяцца разам з ім.

Цяпер мадэратары называюць тэму, па якой кожны з суразмоўцаў павінен па чарзе выказвацца на працягу 4 хвілін. Тэмы могуць быць звязаныя з канкрэтным гістарычным досведам удзельнікаў ці агульнай тэмай сустрэчы. (Пакуль адзін з партнёраў выказваецца, другому дазваляецца толькі яго слухаць, г. зн. дэманстраваць навыкі актыўнага слухання, выказваючы сваё стаўленне да выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў. Калі ўзнікае паўза, партнёр цярпліва чакае і не паказвае свайго нецярпення.)

Пасля таго як усе ўдзельнікі выказаліся, на «рынку» арганізуюцца новыя пары. Пасля 3-4 такіх гутарак у парах удзельнікі зноў садзяцца разам у расстаўленыя крэслы і аналізуюць праведзеную імі працу. Яны дзеляцца думкамі аб тым, наколькі лёгка або цяжка было спадзявацца выключна на невербальныя сігналы, устрымлівацца ад дапаўненняў, вытрымліваць паўзы, якія ўзніклі ў размовах.

*Каментарыі*

Гэты метад варта выкарыстоўваць у першую чаргу ў тых групах, дзе ўдзельнікі зацікаўлены ў павышэнні сваёй кампетэнтнасці ў зносінах і сацыяльным узаемадзеянні з іншымі людзьмі.

*Варыянты:* падчас другой гутаркі ў парах разам з невербальным сродкамі зносін дазваляецца таксама выкарыстоўваць кароткія зваротныя рэплікі, («так», «дакладна» і інш.); падчас трэяй размовы ўдзельнікі атрымліваюць заданне: у вербальнай форме перапытваць свайго партнёра, ці правільна яны яго зразумелі: «Гэта значыць, што ты лічыш...», «Я зразумеў, што...».

### **Групавая праца** (1-ая частка)

Падрыхтоўчы этап: падрыхтоўка працоўнага задання.

Пры арганізацыі працы ў мікрагрупах выдзяляюць, як правіла, тры этапы: падрыхтоўчы, правядзенне і падвядзенне вынікаў (прадстаўленне вынікаў, аналіз і ацэнка).

Праца ў мікрагрупах эфектыўная толькі ў тым выпадку, калі вядучыя могуць стварыць пэўныя перадумовы:

- выразна сфармуляваная мэта заняткаў (у пісьмовай форме, напрыклад, на прэзентацыі або фліп-чарце);
- пэўнае заданне, якое выключае дваякае тлумачэнне (у пісьмовай форме, каб кожная мікрагрупа магла ўзяць яго з сабою);
- прадастаўленне магчымасці ўдзельнікам працаваць у мікрагрупах;
- забеспячэнне мікрагруп усімі неабходнымі для працы матэрыяламі (літаратурай, тэхнічнымі сродкамі, «інструментамі»);

- дамоўленасць з мікрагрупай аб формах прэзентацыі вынікаў іх працы і формы творчай справаздачы аб яе праведзенні;

- у якасці прыкладу магчымы паказ вынікаў дзейнасці іншых такіх жа мікрагруп;

- графік выканання працоўнага задання, уключаючы ўказанне працягласці перапынкаў на адпачынак;

- размеркаванне мікрагруп па аўдыторыях;

- інфармаванне мікрагруп пра месцазнаходжанне і дзейнасць мадэратараў падчас працы груп;

- вызначэнне колькасці чалавек у кожнай з мікрагруп (мікрагрупы з 4-6 чалавек з'яўляюцца найбольш працаздольнымі);

- унясенне прапаноў адносна фарміравання мікрагруп.

**Групавая праца** (2-ая частка)

Падрыхтоўчы этап: фарміраванне груп.

Прынцыпы фарміравання малых груп могуць быць рознымі:

*а) па волі выпадку:*

- па месцы знаходжання ў аўдыторыі (тыя, хто сядзяць побач, аб'ядноўваюцца ў адну групу);

- па ліку (1-2-3-4, 1-2-3-4 і г. д., удзельнікі, якія маюць аднолькавы разліковы нумар, аб'ядноўваюцца ў адну групу);

- па жэрабі (у якасці жрэбія могуць быць выкарыстаны нумар групы або яе літара);

- ігральныя карты (кароль, дама і г. д.);

- цукеркі (удзельнікі, якія выцягнулі цукеркі аднаго гатунку, аб'ядноўваюцца ў адну групу);

- рассыпаліся малюнкі (удзельнікі, якім дасталіся часткі аднаго малюнка, аб'ядноўваюцца ў адну групу);

- сімвалы;

*б) па інтарэсам:*

- удзельнікі самі выбіраюць цікавую для іх тэму;

- удзельнікі разбіваюцца на групы, аддаўшы перавагу паняццям, якія адносяцца да розных тэм: сімвалам, малюнкам і г. д.

Усе ўдзельнікі працуюць над адной тэмай, аднак утвараюць групы, зыходзячы з розных падыходаў да арганізацыі школьнага навучання (напрыклад, па канцэпцыі дапамогі адсталым вучням), або з розных паданняў з нагоды кантралявання функцый настаўніка (напрыклад, дыферэнцыяванае назіранне за паспяховасцю вучняў), або ўдзельнікі аб'ядноўваюцца па працы ў розных тыпах школ (школа, ліцэй, гімназія).

**Групавая праца** (3-яя частка)

Для арганізацыі плённай групавой дзейнасці і прадстаўлення яе выніка можна падрыхтаваць для кожнай групы карткі, якія будуць структураваць працоўны працэс.

Для аптымізацыі ўнутрыгрупавога ўзаемадзеяння мэтазгодна таксама надзяліць членаў мікрагрупы пэўнымі паўнамоцтвамі (абавязкамі, ролямі). Удзельнік, які ўзяў на сябе тую ці іншую ролю, атрымлівае ад вядучага картку з адпаведным надпісам і эмблемай, якая сімвалізуе круг яго абавязкаў. (У адваротным выпадку можа здарыцца, што па заканчэнні працы ў мікрагрупе не знойдзецца нікога, хто б правёў прэзентацыю вынікаў дзейнасці групы на пленуме, таму што ніхто не вёў працоўны пратакол.) Размеркаванне абавязкаў (роляў) зніжае няўпэўненасць ва ўдзельнікаў і ўносіць выразнасць ў працу мікрагруп.

Мадэратарам варта падрабязна распісаць і абгрунтаваць сваю ўласную дзейнасць падчас групавой працы, напрыклад: «Мы будзем працаваць у групах А і Б, таму што гэтыя групы самыя малыя. Перш чым пачаць працу, мы пройдзем па ўсіх групах, каб даведацца, ці няма да нас якіх-небудзь дадатковых пытанняў. Калі ў Вас узнікнуць пытанні, то нас заўсёды можна будзе знайсці ў аўдыторыях, дзе працуюць групы А і Б».

Безумоўна, вядучыя могуць наогул не ўдзельнічаць у рабоце груп і заняцца якой-небудзь іншай дзейнасцю: аналізам групавой працы, падрыхтоўкай наступнай дзейнасці, расстаноўкай у патрэбным парадку тэхнічных сродкаў у аўдыторыі, праглядам неабходных навучальных матэрыялаў і інш. Не выключана, што вядучым захочацца ў гэты час проста адпачыць.

***Ролевыя функцыі ў групе:***

- *Кіраўнік групы* нясе асаблівую адказнасць за ўвесь ход унутрыгрупавой працы, ажыццяўляе структураванне працоўнага працэсу і заўсёды гатовы ўзяць ініцыятыву на сябе.
- *Хранаметрыст* павінен сачыць за цягам часу (у тым ліку і на адпачынак), кантраляваць рацыянальнасць выкарыстання працоўнага часу. Напрыклад, ён можа рэгулярна нагадваць астатнім членам сваёй мікрагрупы, колькі часу засталося ў іх распараджэнні. Хранаметрыст з'яўляецца непасрэдным памочнікам кіраўніка групы.
- *Сакратар* вядзе пратакол дзейнасці групы, у якім адлюстроўвае ўсё тое, што напрацоўваецца. Ён адказны за азнаямленне астатніх удзельнікаў з вынікамі працы сваёй мікрагрупы. З самага пачатку яму варта ведаць аб тым, у якім выглядзе вынікі дзейнасці павінны быць прадстаўлены на пленуме. Калі форма прэзентацыі не вызначана мадэратарамі, групе

пажадана самастойна гэта прадугледзець, таму што ад гэтага залежыць, як сакратар будзе весці свае запісы і афармляць працоўны пратакол групы.

• *Назіральнік за працоўнымі працэсамі ў групе* даводзіць да свядомасці членаў сваёй мікрагрупы тое, чым яны ў сапраўдны момант займаюцца і як сябе вядуць. У гэтых мэтах ён можа выкарыстоўваць квадрат з пазначанымі на ім чатырма палямі. Назіральнік кожны раз перасоўвае фішку сачэння за працэсам працы менавіта на тое поле, на якім пазначаны від дзейнасці, які адбываецца ў дадзены момант (напрыклад, ідзе «працоўны працэс», «перапынак», «размова не па сутнасці»і г. д.).

**Групавая праца** (4-ая частка)

Вынікі групавой працы могуць быць прадстаўлены ў пісьмовым выглядзе, затым размножаны і перададзены ў распараджэнне ўсіх удзельнікаў. Гэта з’яўляецца аптымальным, калі групамі распрацоўваюцца праекты або сцэнарыі правядзення мерапрыемстваў. Разабрацца ў сцэнарыях без дадатковага каментавання іх з боку складальнікаў, як правіла, вельмі цяжка. Калі 4-5 груп па чарзе каментуюць свае праекты, то іх каментарыі здаюцца бясконцымі. Удзельнікі ледзь паспяваюць арыентавацца ў патоку інфармацыі. У гэтым выпадку будзе мэтазгодна, калі ўдзельнікі спачатку прачытаюць усе праекты пра сябе. А затым, разбіўшыся на пары або мікрагрупы, падрыхтуюць і перададуць кожнай з мікрагруп пытанні, якія іх цікавяць і на якія затым тыя дадуць кароткія адказы.

Іншым метадычным прыёмам прэзентацыі вынікаў або прадуктаў дзейнасці мікрагруп, які дазваляе падняць творчую актыўнасць удзельнікаў, з’яўляецца «рынак» магчымасцяў. Асобныя групы прад’яўляюць на выбар сценгазеты, калажы, мадэлі, радыёмантаж, відэафільмы, карціны, сцэнічныя пастаноўкі і інш.

Прадукты групавой творчасці могуць экспанавацца як па чарзе, так і адначасова. На «рынку» магчымасцяў адзін з членаў кожнай групы знаходзіцца каля напрацовак сваёй групы, каб у выпадку неабходнасці даваць адпаведныя тлумачэнні, у той час як усе астатнія пераходзяць ад экспаната да экспаната, разглядаючы іх і задаваючы пытанні.

Аб выніках групавой працы можна праінфармаваць і шляхам стварэння новых мікрагруп, у склад якіх павінна ўваходзіць па адным прадстаўніку з папярэдніх. У новых мікрагрупах адбываецца, як правіла, вельмі інтэнсіўны абмен інфармацыяй, аднак у гэтым выпадку варта лічыцца з тым, што ўдзельнікі, якія знаходзяцца ў розных мікрагрупах, будуць па-рознаму праінфармаваны аб выніках дзейнасці ранейшых малых груп. З мэтай перадачы найбольш поўнай інфармацыі аб праведзенай

раней працы кожнаму члену новых мікрагруп варта мець адпаведныя запісы, зробленыя ім у ходзе выканання яго групавога працоўнага задання.

## «Сустрэча з экспертамі»

Для паглыбленага вывучэння той ці іншай значнай тэмы на семінар запрашаюцца эксперты, якія прытрымліваюцца розных пунктаў гледжання па тэме. Пасля таго як вядучыя пазнаёмяць з імі ўдзельнікаў, эксперты робяць даклады па вызначаным коле пытанняў, якія разглядаюцца ў рамках вывучэння агульнай праблемы, дыскутуюць з удзельнікамі і адказваюць на іх пытанні.

Вядучыя загадзя інфармуюць экспертаў пра іншых удзельнікаў гэтай сустрэчы, аб магчымых правілах вядзення дыскусіі і аб пажаданнях удзельнікаў. Цалкам магчыма, што ўжо на падрыхтоўчым да гэтай сустрэчы этапе ўдзельнікі могуць распрацаваць спіс цікавых для іх пытанняў і адаслаць яго экспертам – удзельнікам дыскусіі.

*Каментарыі*

Мэтазгодна спачатку даць слова эксперту па тым ці іншым пытанні, а затым па заканчэнні яго выступу арганізаваць невялікую гутарку з удзельнікамі. Аднак перш чым даць слова першаму выступоўцы, неабходна ўсталяваць рэгламент (напрыклад, 2 хвіліны). Тэма сустрэчы з экспертамі, іх імёны, прозвішчы і месца працы павінны быць запісаны на плакаце і вывешаны на агульны агляд. Кіраваць дыскусіяй могуць як вядучыя, так і ўдзельнікі.

*Рэквізіт*: карткі з напісанымі на іх імёнамі і прозвішчамі ўдзельнікаў сустрэчы, класная дошка.

## «Карусель ідэй»

Зыходная задача, разбітая на больш простыя прамежкавыя падзадачы, запісваецца на розных лістах паперы, якія раздаюцца ўдзельнікам, а яны на працягу зададзенага адрэзку часу запісваюць ідэі, як можна вырашыць названыя падзадачы. Затым удзельнікі абменьваюцца лістамі з суседзямі, аналізуюць выказаныя імі ідэі і дапісваюць да іх свае прапановы. Пасля гэтага лісты перадаюцца далей па крузе да таго часу, пакуль яны не пабываюць у 3-6 чалавек. Пасля гэтага вядучыя збіраюць іх, размножваюць для ўсіх ці размяшчаюць на слайдзе мультымедыйнай прэзентацыі. Праца заканчваецца калектыўным абмеркаваннем прапанаваных ідэй і ацэньваннем магчымасцей выкарыстання іх на практыцы.

*Каментарыі*

Гэты метад прыдатны для разгляду розных праблем, праўда, выкарыстоўваць яго можна толькі ў невялікіх па колькасці групах. Многія ідэі паўтараюцца.

*Рэквізіт*: лісты паперы, пісьмовыя прыналежнасці.

## «Сіла ўяўлення»

Удзельнікам семінара прапануецца ў думках перанесціся ў нейкія сітуацыі. Пры гэтым гаворка ідзе пра вобразнае прадстаўленне сітуацый, удзельнікамі ці сведкамі якіх яны былі. Напрыклад, розныя сітуацыі з жыцця людзей канца 70-ых гг. XX ст., або алімпіяда 1980 года і г. д. Удзельнікі вобразна прадстаўляюць такую сцэну, якая можа моцна ўразіць і прымусіць задумацца. Пры дапамозе моўнай падтрымкі (пытанняў і заданняў) вядучыя спрабуюць дапамагчы ўдзельнікам ярчэй уявіць ці ўбачыць гэтую сцэну. Магчыма таксама вобразная падтрымка (фотаздымкі, мультымедыя, выразкі з газет, часопісаў, музычны фон). Пасля этапу вобразнага прадстаўлення ўдзельнікам дамагчымасць абмяняцца адзін з адным думкамі і пачуццямі.

*Каментарыі*

Гэты метад таксама вядомы пад назвай «разумовае падарожжа». Ён спрыяе інтэнсіўнаму, цэласнаму дачыненню да тэмы і разважанню над ёй, закранаючы ўнутраны свет чалавека і аказваючы на яго моцнае эмацыянальнае ўздзеянне.

*Рэквізіт*: мультымедыйная ўстаноўка, фотаздымкі, выразкі з газет, часопісаў.

## «Дыскусія-карусель»

Вядучыя дзеляць удзельнікаў груп на дзве роўныя па колькасці падгрупы. Крэслы ставяцца ў два рады па крузе. Удзельнікі адной падгрупы займаюць месцы ва ўнутраным крузе, другой – у вонкавым, садзяцца тварам адзін да аднаго, утвараючы пары. Удзельнікам, якія сядзяць ва ўнутраным крузе, даецца загадзя падрыхтаваны спіс тэм для абмеркавання. Яны выбіраюць адну з іх і на працягу прыкладна 3-5 хвілін абмяркоўваюць разам са сваім партнёрам. Пасля гэтага спіс перадаецца ўдзельнікам знешняга круга, якія пры гэтым зрушваюцца на аднаго чалавека, у выніку чаго адбываецца змена партнёраў.

Цяпер надыходзіць чарга ўдзельнікам знешняга кола прапаноўваць тэму сваім суразмоўцам з унутранага кола. Пасля 5-7-хвіліннага абмеркавання спіс ізноў атрымліваюць удзельнікі ўнутранага круга, а ўдзельнікі

знешняга зноў перасоўваюцца на аднаго чалавека і г. д. Вядучыя ўсталёўваюць агульную колькасць абмеркаванняў. Падчас выніковага аналізу зробленай працы карысна абмеркаваць наступныя пытанні:

– Якія тэмы я выбраў?

– Якія тэмы я абышоў?

– Хто больш за ўсё мяне здзівіў?

– Якую тэму выбіралі часцей за ўсё?

*Каментарыі*

Паколькі абмеркаванні з кожным наступным крокам становяцца больш інтэнсіўнымі, можна павялічыць колькасць вылучаемага часу (напрыклад, спачатку 3, затым 5, 7 хвілін). «Дыскусія-карусель» вядомая таксама пад назвай «шарыкападшыпнік».

## «Карабельны часопіс»

Усім удзельнікам семінара для дарослых вядучыя раздаюць «карабельныя часопісы» і прапануюць зрабіць у іх свае запісы.

Сам «карабельны часопіс» уяўляе сабой тонкі сшытак з чыстымі старонкамі, але на кожнай з іх запісаны пытанні-заданні. Яны спрыяюць стымуляванню ўдзельнікаў да занясення ў «карабельны часопіс» уласных запісаў, якія дапамагаюць вядучым (мадэратарам) у арганізацыі і правядзенні семінара для дарослых. Змест і структура гэтага часопіса вызначаюцца зместам і структурай дадзенага семінара.

*Каментарыі*

Пісьмовае заданне падштурхоўвае ўдзельнікаў семінара да інтэнсіўнага разважання над пытаннем. Аднак гэта заданне не варта выконваць, калі не хапае часу.

## «Змешаныя пары»

Стратэгія прадугледжвае трохэтапны працэс:

1. Удзельнікі рухаюцца па аўдыторыі.
2. Калі вядучы кажа «замры», усе спыняюцца.
3. Калі вядучы абвяшчае «пары», удзельнікі семінара паварочваюцца да свайго бліжэйшага суседа і пачынаюць гаварыць на зададзеную тэму.

*Каментарыі*

Данная методыка выкарыстоўваецца для атрымання інфармацыі, замацавання практычных навыкаў, актыўнага слухання і спантаннага ўзаемадзеяння. Стратэгія можа выкарыстоўвацца для абмеркавання значных падзей у жыцці ўдзельнікаў, гістарычных падзей пэўнага перыяду, стварэнне пар для абмеркавання характару кнігі, артыкула, фільма і г. д.

## «Трохэтапнае інтэрв'ю»

Як форма калектыўнай працы падыходзіць для распаўсюджвання інфармацыі. Трохэтапная інтэрв'ю – гэта трохэтапны працэс:

1. Па камандзе мадэратара ўдзельнікі разбіваюцца на пары ў малых групах. Адзін з вучняў кожнай пары задае пытанні, другі – адказвае.

2. Удзельнікі мяняюцца ролямі.

3. Кожны ўдзельнік распавядае ўсёй групе, што ён даведаўся ў выніку інтэрв'ю (звычайна для перадачы інфармацыі ўсёй групе выкарыстоўваецца кругавая стратэгія сумеснага навучання).

*Каментарыі*

Трохэтапнае інтэрв'ю выкарыстоўваецца для абмену такой індывідуальнай інфармацыяй, як гіпотэзы (здагадкі), меркаванне аб гістарычнай падзеі, артыкуле, фармуліроўка высноў. Выкарыстанне дадзенай стратэгіі развівае навык актыўнага слухання.

*Варыянты:*

1. Шасціэтапнае інтэрв'ю. Да ўдзельнікаў далучаюцца два дадатковых партнёры. Таксама дадаецца стадыя паведамленняў (аб чым даведаліся ад новага партнёра).

2. Чатырохэтапнае інтэрв'ю. Удзельнікі семінара разбіваюцца на групы па чатыры чалавекі:

- у пары кожны ўдзельнік задае пытанні партнёру;
- абодва ўдзельніка, якія задавалі пытанні, паведамляюць усёй групе аб тым, што даведаліся;
- усе ў групе мяняюцца ролямі: тыя, хто адказвалі цяпер, задаюць пытанні, і наадварот.

## «Кругавая стратэгія»

«Кругавая стратэгія» – вусны варыянт «круглага стала». Гэтая стратэгія эфектыўна спрацоўвае з людзьмі сталага ўзросту, або з тымі ўдзельнікамі, якія павольна пішуць.

Трохэтапны працэс выглядае наступным чынам:

1. Перад кожнай групай вядучы ставіць пытанне ці прапануе сцвярджэнне.

2. Удзельнікі па чарзе прапануюць свае варыянты адказаў.

3. Апрацоўка адказаў праводзіцца ў канцы «кругавой» сесіі альбо вядучым, альбо прадстаўніком ад групы.

*Каментарыі*

Данны метад выкарыстоўваецца для выражэння ідэй і меркаванняў, распаўсюджвання інфармацыі, стварэння апавяданняў.

*Варыянты:* «чаўночна-кругавая стратэгія» (удзельнікі ўтвараюць пары ў складзе каманды і па чарзе перадаюць свае ідэі партнёру, перагрупіроўваючыся ў парах, затым пары абмяркоўваюць, якія ідэі паўтараліся ва ўсіх парах, а якія былі ўнікальнымі).

*Каментарыі*

Стратэгія выкарыстоўваецца для абмеркаванне ключавых этапаў гістарычнай падзеі, абмеркавання розных варыянтаў вырашэння праблемы, складання пераліку фактараў, на якія ўплываюць тыя ці іншыя падзеі рэгіёну.

## «Круглы стол»

«Круглы стол» – гэта пісьмовы варыянт «кругавой стратэгіі». Для кожнай групы патрэбныя толькі ліст паперы і аловак.

Працэс уключае 3 этапы:

1. Мадэратар задае групе пытанне, на якое існуе шмат варыятаў адказаў.
2. Кожны член групы па чарзе піша па адным адказе на паперы, а аловак перадаецца па крузе ад аднаго ўдзельніка да другога.
3. Мадэратар карэктуе адказы, прапанаваныя групай пасля таго, як па яго камандзе выступіць прадстаўнік ад групы.

*Каментарыі*

Стратэгія выкарыстоўваецца для ацэнкі папярэдніх ведаў, складання апавяданняў, актывацыі інфармацыі, стварэння сумеснай творчай працы.

*Варыянты:*

1) сінхронны «круглы стол» (калі адначасова выкарыстоўваецца больш аднаго ліста паперы; стратэгія ўжываецца тады, калі неабходна даваць доўгія адказы, ці калі вынік адказу вельмі важны);

2) каапетатыўны «круглы стол»;

3) удзельнікі працуюць парамі па групах пры напісанні адказаў на пытанні (выкарыстоўваецца для складання аповяду ўсім калектывам, напісання агляду на аснове вывучанай гістарычнай інфармацыі).

## «Сумесная работа па нумарах»

Сумесная работа па нумарах – стратэгія, якая можа выкарыстоўвацца для папярэдняга азнаямлення і авалодання інфармацыяй.

Дадзеная стратэгія складаецца з 4-х этапаў:

1. Кожны ўдзельнік у групе атрымлівае нумар.
2. Вядучы задае пытанне ўсёй групе.
3. Група працуе сумесна і вылучае адказ, які ўсе чуюць.

4. Мадэратар называе выпадковы нумар, а ўдзельнік, які мае гэты нумар, павінен устаць або падняць руку (для выпадковага выбару нумароў можна выкарыстоўваць вяртушку).

*Варыянты*

Сумеснае абдумванне па нумарах.

Адвядзенне часу на абдумванне пасля таго, як пастаўлена пытанне. Гэта забяспечвае больш поўнае ўцягванне ў працэс усіх членаў групы.

Сінхронная сумесная работа па нумарах.

Гэтая стратэгія дае магчымасць удзельнікам з прысвоенымі нумарамі адказваць адначасова альбо пісьмова, альбо невербальна. У такім выпадку вядучы можа ацаніць арыгінальнасць і глыбіню адказаў кожнай групы.

*Каментарый*

Стратэгія выкарыстоўваецца для ацэнкі ўспрымання прачытанага; падрыхтоўкі да ўспрымання новага матэрыялу для ацэнкі наяўных ведаў аб дадзеным гістарычным перыядзе; засваення асноўных фактаў; выяўлення фактычнай інфармацыі аб жыцці людзей у тым ці іншым гістарычным перыядзе.

## «Праменад»

Мэтай метада з’яўляецца стварэнне актыўнага фармату для абмену інфармацыяй або ідэямі з усёй групай замест таго, каб кожная падгрупа дакладвала па чарзе, калі ўсе астатнія сядзяць і слухаюць. Калі групы нанеслі на схемы сваю інфармацыю або стварылі нейкі прадукт, які варта паказаць усёй аўдыторыі, то «праменад» дазваляе ўсім удзельнікам убачыць працу адзін аднаго.

Стратэгія дзеліцца на 3 этапы:

1. Схемы-плакаты ці прадукты, якія трэба ўсім паказаць, вывешваюцца на сценах аўдыторыі.

2. Групы маюць магчымасць прайсціся па крузе і разгледзець гэтыя прадукты, як быццам яны здзяйсняюць праменад па карціннай галерэі.

3. Часта побач з кожным прадуктам размяшчаецца лісток для водгукаў, каб удзельнікі маглі задаць пытанні або выказаць думкі.

*Каментарыі*

Стратэгія выкарыстоўваецца для абмену ідэямі, водгукаў на працу іншых людзей, выпрацоўцы крытычнага погляду. Стратэгія спрыяе развіццю ўменняў даваць пазітыўную крытыку, прымаць чужыя ідэі.

*Варыянты*

Тры сышлі, адзін застаўся.

Калі прадукт распрацаваны групай з чатырох чалавек, і яго трэба растлумачыць, то тры члена групы пераходзяць да наступнага плаката-

схеме, а адзін удзельнік праекта застаецца даваць тлумачэнні. Калі група вяртаецца, наступны чалавек застаецца каля плаката на час наведвання групай іншай схемы. Так працягваецца да таго часу, пакуль не будуць разгледжаны і паказаны ўсе прадукты.

## «Гутарковае кафэ» як варыяцыя тэхналогіі «Сусветнае кафэ»

«Сусветнае кафэ» (далей СК, Кафэ) – гэта не назва нейкага канкрэтнага месца або ўстановы, гэта назва тэхналогіі, распрацаванай Хуанітай Браўн і Дэвідам Айзексам. Сутнасць тэхналогіі заключаецца ў арганізацыі дыскусіі ў малых групах у нязмушанай абстаноўцы. За больш падрабязнай інфармацыяй аб дадзенай тэхналогіі варта звярнуцца да афіцыйнага сайту http://www.theworldcafe.com. Публікацыя матэрыялаў дадзенага сайта вітаецца пры наяўнасці спасылкі на афіцыйныя крыніцы, што мы з задавальненнем робім.

Як і любая тэхналогія, СК мае выразную логіку правядзення, рэсурсы, свае прынцыпы:

- вызначэнне тэмы Кафэ;
- стварэнне атмасферы гасціннасці;
- даследаванне пытанняў па сутнасці;
- заахвочванне ўкладу кожнага;
- аб'яднанне розных меркаванняў і пунктаў гледжання;
- канструктыўнае слуханне для атрымання Інсайтаў/азарэнняў;
- фіксацыя сумесных адкрыццяў.

**Падрыхтоўка і правядзенне Кафэ**

I. Спачатку неабходна вызначыць тэму Кафэ, даць яму назву. Напрыклад, для арганізацыі дыскусіі па тэме «Дзяцінства: пяць кіламетраў у гару пешшу» можна даць назву «Размоўнае кафэ».

II. Падрыхтаваць памяшканне Кафэ: столікі на 4-5 чалавек, пакрытыя лістамі фармату А1; маркеры, алоўкі, ручкі (можна размясціць у кубках або куфлях); сурвэткі для запісу ідэй, меркаванняў, пунктаў гледжання; закускі і напоі размяшчаюцца за асобным сталом.

III. На этапе падрыхтоўкі Кафэ неабходна сфармуляваць ключавыя пытанні для абмеркавання, даследавання, вызначыць колькасць раўндаў. Пры фармуліроўцы пытанняў варта вытрымліваць баланс паміж прастатой разумення пытання і складанасцю, глыбінёй адказу. Дапамагчы ў гэтым можа літаратура, якая навучае ўменням фармуляваць пытанні і размешчаная на паказаным вышэй сайце. Напрыклад, у «гутарковым кафэ» маглі быць прапанаваны наступныя пытанні, якія вызначаюць колькасць раўндаў:

• «Подзвігі» моладзі: ад рагаткі да сучасных камп’ютарных гульняў. Што лепш?

• Якія вы можаце назваць агульныя захапленні маладых людзей ва ўсе часы?

• Калі б у мяне была магчымасць вярнуцца ў мінулае, чаму я змог бы навучыць дзяцей?

• Як усталяваць «мост праз пакалення»?

VI. Абмеркаванне прапанаваных пытанняў. Працягласць раўнда – 20-30 хвілін. Міні-групы абмяркоўваюць пытанне першага раўнда, запісваючы, замалёўваючы свае ідэі, думкі на папяровай «абрусы», сурвэтках. За кожным столікам знаходзіцца «гаспадар», які будзе на працягу ўсіх раўндаў працаваць за гэтым столікам, вітаючы ўдзельнікаў-падарожнікаў, знаёмячы з напрацаванымі ідэямі ў папярэдніх абмеркаваннях і накіроўваючы размову ў рэчышча даследавання па новым пытанні. Пытанні раўндаў могуць вывешвацца паступова на фліп-чарце або выводзіцца на экран.

Пры аб’яўленні новага раўнда ўдзельнікі свабодна перамяшчаюцца за іншыя столікі, мадэратар інфармуе «пачаткоўцаў» аб зафіксаваных на папяровай паверхні стала ідэях і выніках іх абмеркавання, выслухоўвае інфармацыю аб напрацаваных ідэях за іншымі столікамі. Далей госці выказваюць свае меркаванні па новым пытанні, уносячы свой уклад у агульную справу. Уся інфармацыя фіксуецца: запісваецца, замалёўваецца ў выглядзе графікаў, схем. Такім чынам адпрацоўваюцца ўсе раўнды, «падарожжы» аказваюцца карыснымі для абмену інфармацыяй, стварэння нябачнай сеткі, якая аб’ядноўвае ўсіх удзельнікаў Кафэ.

V. Падвядзенне вынікаў Кафэ, стварэнне цэласнага ладу тэмы. Групы вяртаюцца да першапачатковых столікаў, разглядаючы напрацаваныя сумеснымі намаганнямі ідэі і ствараючы выніковы прадукт. Ён можа быць прадстаўлены графічна або ў выглядзе прэзентацыі. Кожная група мае магчымасць выказацца адносна першапачатковай ідэі і канчатковага выніку.

Siedmio-klasowa Publiczna Szkoła Powszechna

w Szczuczynie k/ Lidy (powiat: Szczuczyński).

Nr. 47 Rok szkolny 1932/33

# ŚWIADECTWO SZKOLNE

Szklarówna Stanisława

urodzona dnia 19 października 1919 r. w Szczuczynie k/L.
(powiat: szczuczyński), religji (wyznania) rzym.-katol.,
uczenica oddziału 5, klasy piątej otrzymuje za rok szkolny 1932/33
stopnie następujące:

| | |
|---|---|
| ze sprawowania się | bardzo dobry |
| z nauki religji | dobry |
| „ „ języka polskiego | niedostateczny |
| „ „ języka | — |
| „ „ języka | — |
| „ „ rachunków z geometrją | dostateczny |
| „ „ przyrody, a mianowicie: z przyrody żywej | dostateczny |
| z fizyki i chemji | — |
| z higjeny | — |
| „ „ geografji ~~i nauki o Polsce współczesnej~~ | dobry |
| „ „ historji | dostateczny |
| „ „ rysunków | dostateczny |
| „ „ robót ręcznych | dostateczny |
| „ „ śpiewu | bardzo dobry |
| „ „ ćwiczeń cielesnych | dobry |
| „ „ robót kobiecych | dostateczny |
| „ „ | |

Liczba opuszczonych godzin szkolnych 10, z czego nie usprawiedliwiono –
Liczba spóźnień 3, z czego nie usprawiedliwiono 3

**Wynik ogólny** niedostateczny; promowana z zastrzeżeniem

w Szczuczynie k/L., dnia 14 czerwca 1933 r.

Kklalarzewski
Opiekun oddziału

Kierown szkoły

1

В 1936/37 учебном году я поступила учиться в Щучинскую Гимназию из Остринской 7-и классной школы. Принимали всех желающих на конкурсной основе. Из Остринской школы была принята только одна я из 6-ти поступающих. Первый экзамен был по польскому языку (устно и письменно), затем математика письменная и история. После первого экзамена основная масса уехала домой, а поступающих было 96 человек на 35 мест. Проверка знаний была глубокой и всесторонней. В алфавитном списке поступающих я была под номером 33. Обучение было платное и состояло из 200 злотых в год. По тем временам это была солидная сумма. Необходима была школьная форма (зимняя и летняя), все учебники и наглядные пособия за счет родителей. За хорошую успеваемость освобождали от платы за обучение. Я внесла деньги за обучение только за 1-ое полугодие 1-го класса, потом меня освобождали.
Помню свой большой испуг, когда я в 1-ом полугодии оказалась в списке исключенных из Гимназии за неуплату за обучение. Я тут же обратилась к директору, проф. Омельяновичу, который любезно дал мне личные деньги. А мой отец при первой возможности с благодарностью вернул долг. Щучинская Гимназия в Польше была под номером 924. Это был красиво оформлен номер на голубом фоне „тарча". Носили мы этот номер на рукаве левой руки платья и пальто. В состав формы входило платье для девочек и костюм для мальчиков синего цвета одинакового пошива, синий берет со знаком „лилии"; для мальчиков обязателен был синий галстук, для всех - обувь коричневого цвета и блестящие пуговицы.
В праздничные дни я часто приходила в Гимназию, чтобы полюбоваться внешним видом своих товарищей, шагающих организованно к богослужению в костел. Православных учащихся было очень мало и посещали мы церковь самостоятельно.
Уроки „Божьего закона" преподавал нам священник Пётр Огицкий, которого мы очень любили. Одна группа учащихся, невзирая на разные классы, занималась по одной программе. Педагогический состав Гимназии был в пожилом возрасте с большим стажем педагогической работы. Мы обращались: „Пан профессор", нам говорили теплое слово в ответ „Мое дитя" (Moje dziecko) Класс наш находился на 2-ом этаже рядом со сценой. Нас разделили на 2 группы: желающих изучать немецкий и французский языки. Я была в группе немецкого языка.

Все мы очень обрадовались пристройке к основному зданию, так стало в Гимназии просторно, светло и уютно. Я училась в Гимназии три года, пока она существовала и радовалась каждому учебному дню, хотя жила на частной квартире без родителей

С приходом советской власти в сентябре 1939 года Гимназия была реорганизована в Русскую Школу Среднюю. Я продолжала учиться на русском языке в прежнем составе ученического и педагогического состава. Это было временно. Нас определили в 8 класс СШ, после 10-и лет обучения на польском языке. Это был очень трудный период нашей жизни, хотя я владела русской разговорной речью в семье. Таких было очень мало, мы были переводчиками в прямом смысле, для учителей тоже. Однако я не владела письмом и русским правописанием. Этому нам предстояло научиться в сжатые сроки. Мы медленно, но уверенно продвигались вперёд

Первым директором СШ был любимый нами проф. музыки и пения проф. Станкевич Зигмунт, так как прежний директор оказался в следственном изоляторе. Белорусы и евреи по подсказке инспектора Районо, Клышевича Иосифа Ивановича, организованно обратились в органы НКВД с просьбой вернуть в школу нашего директора. Нас выслушали очень внимательно и пообещали разобраться. К нашей огромной радости проф. Омильянович вернулся в школу преподавателем математики и учил меня в 8-ом и 9-ом классе. Он оказался выпускником Петербургского Университета, прекрасно владел русским языком. Это для нас было удивительное и неожиданное явление. Мы любовались его русской речью, и он всегда помогал нам пополнить свои знания.

Моим кл. руководителем был Димитрий Петрович Огицкий, человек большой личной культуры, преподавал нам русский язык и литературу. Я была членом учкома, ответственная за пение и школьный хор. Я тесно сотрудничала с проф. Станкевичем. Мы организовывали музыкальные номера, хоровые и индивидуальные пения-выступления для школы и города. Занимали первые места по городу, району и области. В 8-ом и 9-ом классе были введены переводные экзамены в конце годи по всем предметам. В 9-ом классе я была освобождена от этих экзаменов по состоянию здоровия.

Меня перевели в 10-ый класс на основании годовых оценок и выдали справку с оценками по всем предметам. Эту справку я сохранила в годы войны и после войны представила директору Щучинской СШ для оформления круглой печатью. К моей радости я получила заверенную справку в письме, присланном моим кл. руководителем, Дмитрии Петровичем Огицким. Я была глубоко тронута этим письмом. Среднюю школу закончила уже в Вильнюсе, где закончила и Педагогический Институт.

Нина Георгиевна Токць - Кулаковская,
учительница немецкого языка 14-ой и 20-ой
Средней Школы г. Вильнюса - Литва.

